**Вено** 1) *пасаг:* Прика: посагъ, вено (Бяр., 125); 2) *сродкі для забеспячэння адзінокіх жанчын:* мужъ мо$^{й}$ на о$^{т}$чызне свое$^{й}$ записалъ мне тестаментомъ вено (КВС, 438б, 1545); 3) *выкуп, які даваў жаніх нявесце:* дасть ей вено и поиметь ее собе за жену (Скар. КЛ, 41б). – **Венко, венованый, в284нованье, веновати, веновное, веновный, вывеновати, невенованый.**

**Венокъ (вянокъ)** 1) *вянок:* купили травы, красокъ, венковъ (ИЮМ, I, 43, 1683); 2) *упрыгожанне:* на гелму в него… цудного цвету венокъ (Трыст., 110); 3) *пляцёнка:* цыбули вянокъ (ИЮМ, I, 301, 1682). – **Веночекъ (вяночекъ).**

**Вентеръ** *венцер:* венътеры з рыбами в того езу вынявши зъсекъ (АЗР, II, 36, 1585).

**Вентший** *гл.* **венцей**

**Венусъ (вэнусъ)** *палавыя зносіны:* мели... вену$^{с}$ для плоду (Бельск., 144).

**Венцей (венци, веньци)** *больш:* венцей ни$^{ж}$ тисячу рыцере$^{в}$ заби$^{л}$ (Троя, 61). – **Венкший (вентший), венцейший, венцъ, найвенкший (найветший), на(й)венцей (найветше).**

**Венценосный** *венцаносны:* венъценосный почетъ девъственническій (Карп., 23б). – **Венченосецъ.**

**Венци, венцъ** *гл.* **венцей**

**Венчати** 1) *вянчаць:* Ходкевича венчали и в законъ малженства светого отдали (АВК, XXII, 305, 1570); 2) *каранаваць:* королевича... венчати царскимъ венцомъ (АЗР, IV, 448, 1615); 3) *ушаноўваць:* венчалъ его венцемъ добродетелей (Скар. ІС, 72). – **Венчальный (венчельный), венчаный, венчанье (-ние), венчатися, звенчати, звенчатися, невенчальный, невенчаный, повенчати, увенчати.**

**Венченосецъ** *гл.* **венценосный**

**Венчыкъ** *гл.* **венецъ**

**Веншовати** *гл.* **виншовати**

**Венье** *гл.* **веяти**

**Веньци** *гл.* **венцей**

**Вепръ** 1) *вяпрук:* взяли... вепра ко$^{р}$много (КВЗС, 76, 1538); 2) *дзік:* уставуемъ цену зверомъ диким... за вепра або за свиню рубль (Ст. 1529, 78). – **Вепровщина** *падатак за свінагадоўлю,* **вепровый (вепревый), вепрыкъ.**

**Вепхнути** *гл.* **пхнути**

**Вера** і **вяра** 1) *вера:* окрести$^{л}$ся… в рускую веру (Стрыйк., 525б); 2) *пераканнне:* для лепъшое веры… далъ ему вызнаный листъ (ИЮМ, XXX, 14, 1577); 3) *давер'е:* были вижи уставлены… веры годныи (КПД, 127, 1544); 4) *вернасць:* жоны... верю мужомъ заховуютъ (Будны, 87б). – **Вереный (вероный), веренье (веранье), веритель (верицель, верытель)** *паручыцель,* **верити (верати, верыти), веритися, верка, вернейший, верникъ, верно (верне), верность, верный, веровавший, верованье, веровати, веруемый, веруючий (верещий, веручий, верующий, верющий), верячий (верачий), на(й)вернейший.**

**Верба** *вярба:* копецъ старый великій лозою и вербою обросъ (АВК, VI, 145, 1586). – **Вербевый, вербие, вербина, вербка, вербный.**

**Верблюдъ (велблудъ, велблюдъ, вельблудъ, вельблюдъ, вельбудъ, верльблюдъ)** *вярблюд:* скинувши его з ве$^{р}$блюда… у одного сто$^{л}$па завесили (Бельск., 382б). – **Велблюдица (велбудица), верблюдовъ (велбудовъ, вел(ь)блюдовъ), верблюжий (велблужий, вельблюжий, вельбужий).**

**Вербный** *гл.* **верба**

**Вервь** *гл.* **веревка**

**Верга** *жазло, посах:* Жезлъ: верга, розга, прутъ, бичъ (Бяр., 212).

**Вергнути** і **верзти** *кінуць:* оба шапками вергнутъ (АЗР, III, 34, 1552). – **Ввергнути (ввеpечи, ввеpзти, ввpещи, взвеpзти, вовеpгнути, вовеpзти, возвеpзти, увеpгнути, увеpечи), ввеpгнутися, ввеpженый (вовеpженый, увеpженый), ввеpзати (вовеpзати), веpгати, веpгнутися (веpзтися), веpженый, веpженье, вывеpгнути, вывеpгъ** *выкідыш,* **вывеpженый, вывеpженье (-ние), вывеpзити, завеpгнути, завеpжение, завеpженый.**

**Вердунокъ** *манета, роўная чвэрці грыўны:* три вердунъки имаеть дати (Вісл., 37).

**Веребей** *гл.* **воробей**

**Веревка (вериовка, веровка, вяровка)** і **вервь** *вяроўка:* веревокъ до увязаня возовъ купили (ИЮМ, VIII, 96, 1691).

**Верега** *гл.* **верига**

**Вередити** *верадзіць:* неурадовне тело чие, како ли будетъ, вередити (Будны, 76б). – **Надвереженье, уверeдитися.**

**Верезубъ** *зубатка:* вялыхъ спорыхъ верезубовъ штукъ шесть (ИЮМ, IV, 77, 1686).

**Веремя** *гл.* **время**

**Вереный, веренье** *гл.* **вера**

**Вересень** і **вресень (врешень)** *верасень:* жидове… м^с^цы свои дорочныи личить починали во осени, и першіи быва^л^ септевріи або вересень (Хран., 89).

**Верескъ** і **врескъ** *лямант, віск:* в месте бы^л^ пла^ч^ и верескъ (Бельск., 387). – **Верещанье, верещати, верещачий, заверещати.**

**Веретенница (веретенничина)** *вераценніца:* яко змия оукусить и яко веретенница проколе^т^ (Зб. 262, 105).

**Веретено (вертено)** 1) *верацяно:* куделю з веретено^м^ за подаро^к^ посла^л^ (Стрыйк., 475б); 2) *шпень, стрыжань:* камень жорновый верхний уверненъ, железа, повприцы и веретено вынято (АВК, XXII, 241, 1563).

**Веретея** *сухі ўчастак зямлі сярод балота:* отъ ели ручаемъ черезъ болото по рубежахъ черезъ веретеи (АЮЗР, I, 233, 1589).

**Верето** *адзенне са зрэб'я:* Вретище, власяница: … верето, рядно (Бяр., 17).

**Верещати** *гл.* **верескъ**

**Верещий** *гл.* **вера**

**Верея** *шула:* ворота порубаные и вереи и ушаки пощепаные (КВС, 446б, 1552).

**Верженье, верзти** *гл.* **вергнути**

**Верига (верега)** *ланцуг:* окова^в^шы двема веригома або ланцухами вкинено до те^м^ницы (Зб. 752, 306б).

**Вериовка** *гл.* **веревка**

**Верити** *гл.* **вера**

**Верификация (верификацыя, верыфикацыя)** *праверка сапраўднасці:* за верификацыю реестровъ месхихъ дали золотыхъ пять (ИЮМ, II, 64, 1683). – **Верификацийный, верыфиковати.**

**Верицель, верка** *гл.* **вера**

**Верльблюдъ** *гл.* **верблюдъ**

**Верне, верникъ, верность** *гл.* **вера**

**Вернути** і **возвратити, воротити, вротити** 1) *вярнуць:* листъ Анисей воротил... а книги тое не вернулъ (АВК, XXXIX, 122, 1578); 2) *павярнуць назад:* король… сталъ и вернулъ воиско (Трыст., 82). – **Верненый (возвращеный, вороченый, ворочоный),**

**верненье (возвращение, вороченье, вроченье), верненьеся, вернутися (взвратитися, возвратитися, воротитися, вратитися), вертаный (ворочаный), вертанье (ворочание), вертаньеся (ворочаньеся), вертати (возвращати, ворочати, врачати), вертатися (возвращатися, ворочатися, ворочетися), вертаючийся (возвращающийся, ворочаючийся), воротило, ворочаючий, неверненье.**

**Верный, веровати** *гл.* **вера**

**Веровка** *гл.* **веревка**

**Вероломный (выроломный)** *вераломны:* непрыятел вероломный москвитин з войсками своими наступив (ИЮМ, XXV, 368, 1668).

**Вероный** *гл.* **вера**

**Верофитянинъ** *гл.* **виротчикъ**

**Версеописаный** *гл.* **верхуписаный**

**Верста (верщта)** *вярста:* насъ на дорозе перенявъшы се$^{м}$ верстъ о$^{т}$ города... розбили (КВЗС, 34, 1538). – **Полверсты.**

**Верстанье** *надзяленне маёнткам:* до верстанья онъ служилъ съ прожиточного поместья (АЗР, IV, 407, 1610). – **Верстаный, поверстати.**

**Верстатъ** *гл.* **варстатъ**

**Вертати** *гл.* **вернути**

**Вертено** *гл.* **веретено**

**Вертенье** *гл.* **вертети**

**Вертепъ** *пячора:* горы лесы езера вертепы везенья яскине и пропасти моимъ зданьемъ безпечнейшіе (Апакр., 84б).

**Вертети** *вярцець:* члонки пане$^{н}$ки сверде$^{л}$ками ве$^{р}$тети каза$^{л}$ (Зб. 752, 234б). – **Вертенье, вертетися, верткий, выверченый, заверта, завертети, завертка, зверченый, повертети, провертеный, провертети, проверчовати, розверченье.**

**Вертоградъ** *сад:* ему во ве$^{р}$тограде молящемуся сама мысль о пришлы$^{х}$ мука$^{х}$ по$^{т}$ крывавы$^{й}$ з всего тела вытиснула (Зб. 255, 370).

**Веруемый** *гл.* **вера**

**Верутный (вирутный)** *заўзяты, страшэнны:* Нерона верутнаго окрутника ве$^{л}$билъ (Паўуст., 2б). – **На(й)верутнейший, превирутный.**

**Веруючий** *гл.* **вера**

**Верхменованый** *гл.* **верхуменеый**

**Верхникъ, верховщина** *гл.* **верхъ**

**Верхписаный** *гл.* **верхуписаный**

**Верхуменеый (уверхуменеый) і верхуменованый (верхменованый, уверхуменованый), верхуменовитый, верхупоменеый (верхпоменеый)** *вышэйназваны:* ротою верхумененою… присегу учинити маютъ (Трыб., 3б).

**Верхуозначоный** *вышэйадзначаны:* рокъ завиты$^{й}$ вшелякимъ позвомъ быти маетъ пере$^{д}$ часомъ на суды головъные веръхуозначоные (Трыб., 12).

**Верхуписаный (версеописаный, верхписаный, верхуописаный)** *вышэйзгаданы:* пожитки того верхуписаного монастыря маетъ къ своей руце мети (АЗР, II, 31, 1507).

**Верхупоменеый** *гл.* **верхуменеый**

**Верхъ** 1) *верх:* о$^{т}$ ве$^{р}$ху его головы наполы его ро$^{з}$тя$^{л}$ (Троя, 26б); 2) *купал:* впа$^{л}$… ве$^{р}$хъ великои це$^{р}$кви (Бельск., 330); 3) *дах:* стайня непокрытая, безъ верха (АВК, VIII, 490, 1601); 4) *века:* скриня не вельми великая безъ веръху (АВК, XXI, 186, 1557); 5) *вярхоўе:* о$^{т}$ ве$^{р}$ху Вислы а$^{ж}$ до реки о$^{д}$ра... вси краины опанова$^{л}$ (Стрыйк., 599б); 6) *пачатак тэксту:*

на верху сего фундушу нотація (АВК, XII, 435, 1517); 7) *вышэйшая ступень чаго-н.:* верхъ всего благословенства одержи[т] (Каліст, I, 157б). ◊ **Зъ верхомъ** *з коптурам.* – **Верхний, верхникъ, верховатый, верховина, верховитье, верховнина, верховный, верховщина, верховщинный, верховый, верховье, верхомъ (верхами), вершитба, вершокъ, вершье.**

**Верчъ** *вітая булка:* пироговъ десять, осм. десять, верчовъ осемъ по шелеги чотыри (ИЮМ, VI, 67, 1688). – **Верчикъ.**

**Верша (вирша)** *верша:* покрадено дей зъ ставу ее Зубацкого жаки и верши зъ рыбами (АВК, XVIII, 169, 1599).

**Вершикъ** *гл.* **вершъ**

**Вершитба, вершокъ** *гл.* **верхъ**

**Вершта** *гл.* **верста**

**Вершъ (виршъ)** *верш:* вершами своими и пісмами бого[в] свои[х] почтить хотели (Варл., 247б). – **Вершикъ (вершыкъ, виршикъ), пулверша.**

**Вершье** *гл.* **верхъ**

**Верытель, верыти** *гл.* **вера**

**Верыфиковати** *гл.* **верификация**

**Верющий, верячий** *гл.* **вера**

**Весебное** *гл.* **весити**

**Веселый (весолый, вэсолый)** 1) *вясёлы:* будучи собе веселымъ… свое на уме маетъ (АЗР, IV, 208, 1605); 2) *прыемны для зроку:* заплы[в] до некоторои ве[л]ми оздобнои и веселои выспы (Тр. гіст., 67); 3) *ажыўлены:* у двухъ улъяхъ бчолы... добро се маютъ и веселы (АВК, XVII, 208, 1540). – **Веселити (веселовати), веселитися (веселоватися), веселный, весело, веселованье, веселость, веселуючийся, веселший, веселье (вэсэлье), веселячийся (веселящийся), завеселити, завеселитися, навеселейший (навеселший), невеселость, невеселый, обвеселение, обвеселеный, обвеселитися, обвеселяти, повеселити, повеселитися, подвеселити, подвеселитися.**

**Весенный** *гл.* **весна**

**Весецъ** *гл.* **весити**

**Веситель** *гл.* **вешати**

**Весити** *важыць, узважваць:* даемъ... вагу на которой воскъ весятъ (СДГВ, 5, 1432). – **Весецъ (весчий)** *вагаўшчык,* **весчее (весебное, весчое, вещое)** *плата за ўзважванне,* **весъ, весы (вески), весячий, повесмо** *мера льновалакна,* **привесокъ, провесистый.**

**Вескъ** *від маку:* цыперыкъ, зерна веску, шпиканар[д] (Зб. вып., 16).

**Весло (вясло)**[1] *вясло:* въ воде будучого сына моего Петра весломъ въ тылъ головы ударилъ (АВК, XXVIII, 264, 1646).

**Весло**[2] 1) *нізка:* нашла купа в лазни... весло грыбовъ (АВК, XVIII, 252, 1620); 2) *сувой:* згинуло дей у насъ недавно осмъ веселъ полотна (АВК, XVIII, 271, 1624).

**Весма** *вельмі:* Въсячески: вшеляки[м] способо[м] дощадку, весма (Бяр., 25).

**Весна** *вясна:* оминула оуже зима и пришла весна (Каліст, I, 78б). – **Весенный, весною (весне), веснякъ (вешнякъ)** *млын, які працуе толькі вясной, калі прыбывае вада,* **вешний, вешнячокъ.**

**Веснякъ** *гл.* **весна, весь**[2]

**Весолый** *гл.* **веселый**

**Весполъ** *гл.* **спольный**

**Вестецъ** *гл.* **вещба**

**Вести (везсти)** 1) *весці:* слепы$^{й}$ никгды другого слепо$^{г}$ вести не може$^{т}$ (Зб. 261, 76б); 2) *мець пэўны напрамак:* рахи$^{л}$ погребена на дорозе которая веде$^{т}$ до ефраты (Біблія, 76); 3) *ажыццяўляць што-н.:* проти$^{в}$ его люду воину велъ (Атыла, 179); 4) *высоўваць абвінавачванні:* хто на кого мовить и ведеть… самъ кара$^{н}$ быти маетъ (Ст. 1588, 2). – **Веденый, веденье (-ние), ведучий (ведущий), веждание, вестися, водейство, водитель, водити, водитися, водячий, водячийся, воженый (воденый), воженье (водзенье), поведеный, поведенье (-ние), повести, повестися, поводити, поводитися.**

**Вестоноша** і **вестникъ** *вястун:* посла$^{н}$ есть вестоноша поведая со$^{л}$нце (Чэцця, 157б).

**Вестроготъ** *вестгот:* о$^{т}$ оныхъ спросныхъ гроубыхъ погански$^{х}$ народовъ, вестроготовъ, остроготовъ, героуло$^{в}$… спустошоный римъ (Апакр., 157б).

**Вестхнути** *гл.* **вздохнути**

**Весть** *вестка:* пришла до него весть што литва идетъ у погоню (Рач., 336). – **Безвестно (безвестне), безвестный, вещание, вещати, вещатися, взвестка (узвестка), возвестивший, возвестити (взвестити), возвеститися, возвещание, возвещати (взвещати), возвещающий, возвещеный.**

**Вестье** *гл.* **войти**

**Весчий, весъ** *гл.* **весити**

**Весь (ввесь, увесь)**$^{1}$ і **вшистокъ (вшистекъ, вшитекъ, вшитокъ, вшитэкъ, ушистокъ)** *увесь:* они проповеда$^{н}$емъ свои$^{м}$ оголосили уве$^{с}$ светъ (Зб. 261, 227б). – **Все (всио, вшистко, вшитко, вшыстко, вшытко)** *усё.*

**Весь**$^{2}$ *вёска:* при не$^{м}$ и кумо$^{л}$ки весь коштовна… зостали (Еўл., 38). – **Вейский, веснякъ (вяснякъ)** *селянін,* **виоска.**

**Весячий** *гл.* **весити**

**Ветвь** *гл.* **веть**

**Ветеръ (ветръ)** і **вятръ** *вецер:* ветеръ огонь повернулъ отъ хлевовъ въ поле (АВК, XVIII, 253, 1621). – **Ветреникъ (ветрникъ)** *флюгер,* **ветреница, ветреный (ветрный), ветрикъ (ветрыкъ), ветрило** *ветразь,* **выветревати, выветрелый, зветренье, зветрети (зветрити).**

**Ветия** *красамоўца:* Риторъ: … ветіа, хитрословецъ, красомовца (Бяр., 140).

**Ветка** *гл.* **веть**

**Ветовати (вэтовати)** *кампенсаваць:* тое шкоды своее ветовати хочетъ (Арх. ЮЗР, VIII-3, 31, 1541). – **Ветованый, ветованье, ответовати, поветовати.**

**Ветошь** *старызна:* обувь ваша ветошью скажена (Скар. ДЗ, 55б).

**Ветреникъ, ветрило** *гл.* **ветеръ**

**Ветроимный** *які захоплівае вецер:* Александе$^{р}$... поплы$^{л}$ инши$^{м}$ путе$^{м}$ з ветро$^{и}$мны$^{м}$ веніемъ (Алекс. 1697, 61).

**Ветротленый** *хворы заразнай хваробай:* хто же в лете ветротлененъ бываетъ сей е$^{ст}$ сынъ срамоты (Скар. ПС, 17).

**Ветръ** *гл.* **ветеръ**

**Ветсамишанинъ** *гл.* **вефсамчанинъ**

**Ветхий** *паношаны:* хутро лисее ветхое (АВК, XXI, 248, 1565). – **Ветхость, ветшаный, зветшалый, зветшати (зветшети), зветшенье, незветшалый, обветшавший (обетшавший), обетшание, обетшати, позветшалый.**

**Веть** *узаемная адплата:* хто ся с ни$^{м}$ посвари$^{т}$ а удари$^{т}$... а если уме$^{р}$лъ, мае да$^{т}$ го$^{р}$ло за не$^{г}$ ве$^{т}$ за ве$^{т}$ (Бельск., 66б).

**Веть (ветвь)** *галіна:* колі толко ве$^{т}$ о$^{т}$руби$^{т}$ ино четыри ско$^{т}$ци маеть платить (Вісл., 37). – **Ветка, ветье (ветвие, ветие).**

**Вефильчикъ** *жыхар горада Вефіль:* вефи$^{л}$чикове о$^{т}$вязаного впровадили его до места (Біблія, 563).

**Вефсамчанинъ (ветсамишанинъ, вефсамешанинъ)** *жыхар горада Вефсаміс:* вефса$^{м}$чане жали пшеницу на долине (Біблія, 308).

**Вече (вечо)** *веча:* люди чорныи часто ся сходятъ у вечо (АЗР, II, 332, 1534).

**Вечеръ (вечоръ)** 1) *вечар:* еще далеко до вечера (Біблія, 64); 2) *вечарам:* деялосе де$^{й}$ то в суботу вечо$^{р}$ (КВЗС, 41б, 1538). ◊ **Вечоръ веку** *старасць.* – **Ввечеръ (ввечоръ, увечере, увечеръ, увечоръ), вечере (вечери), вечерний, вечерникъ, вечерница** *вячэрняя зара,* **вечерня, вечеромъ (вечоромъ), вечеря (вечера), вечеряти (вечерати), навечеръ, навечерые** *пярэдадзень,* **навечерятися, невечерний, одвечорокъ, повечерня (павечерница, павечерня, повечерница)** *богаслужэнне пасля вячэрні,* **подвечорокъ.**

**Вечистый** *гл.* **векъ**

**Вечко** *гл.* **веко**$^{1}$

**Вечнославный** *удастоены вечнай славы:* вечнославное и богу любое... тое самое мыслимо (Каліст, II, 341б).

**Вечность** *гл.* **векъ**

**Вечнохмурный** *вечна змрочны:* мно$^{г}$ наши$^{х}$ про$^{д}$ко$^{в}$ деевъ... у вечнохмурны$^{х}$ яски$^{н}$ и слепы$^{х}$ пропасте$^{х}$ згинуло (Стрыйк., 435).

**Вечный** *гл.* **векъ**

**Вечо** *гл.* **вече**

**Вечоръ** *гл.* **вечеръ**

**Вечыстый, вечыти** *гл.* **векъ**

**Вешати** 1) *развешваць:* на стенахъ мешканья своего розныи оружія вешаетъ (Паўуст., 11б); 2) *вешаць:* злодея... на липе середъ двора вешали (АВК, I, 248, 1612). – **Венситель, вешаный, вешанье, вешаньеся, вешатися, звесити (свесити), звешати, звешеный (звешоный), отвесити, повесити, повеситися, повешавати, повешати, повешеный (повешоный), подвесити.**

**Вешний, вешнякъ** *гл.* **весна**

**Вещати** *гл.* **весть**

**Вещба** і **вещеванье (вещаванье, вещованье), вещенье** *прадказванне:* вещбы, ворожбы и инныхъ забобоновъ выстерегалися (Зб. вып., 104). – **Вестецъ (вещикъ, вещокъ), вещбярский, вещебный, вещий (вещый), вещка, вещовати, провещати.**

**Вещественный** *гл.* **вещь**

**Вещий, вещовати** *гл.* **вещба**

**Вещое** *гл.* **весити**

**Вещокъ** *гл.* **вещба**

**Вещь** 1) *рэч:* вси житеискыи вещи погыноу$^{т}$ (Сівіла, 10); 2) *прадмет або з'ява аб'ектыўнага свету:* вещъ е$^{ст}$ ба$^{р}$зо слушне постановленая вода (Зб. 259, 524); 3) *справа, учынак:* о$^{т}$почину$^{т}$ въ дому его добрые вещи вовеки (Скар. ІС, 24б). – **Вещественный, невещественный.**

**Веючий** *гл.* **веяти**

**Вея** *гл.* **повека**

**Веяти (веети)** 1) *дзьмуць:* ветръ по$^{л}$ночны$^{й}$ веялъ (Пралог, 503); 2) *веяць:* будетъ веяти ячъмень на гумне (Скар. КР, 5б). – **Веючий, веяло** *шуфлік для веяння збожжа,* **веяльница** *завіруха,* **веяный (вееный), веянье (вение, венье), возвеяти, вывевати, вывеянье, вывеяти, невеяный (невееный), перевевати, перевеваючий, повевати,**

**повеваючий, повеяти (повенути), провевати, провеяти, развевающийся, розвевати, розвеяти (раз-), розвеятися.**

**Вжаждати** *гл.* **жажда**

**Вжасть, вжасъ** *гл.* **ужасъ**

**Вжати** *гл.* **жниво**

**Вжделенный** *гл.* **вожделети**

**Вжды (ужды)** і **вежды** *аднак, усё ж:* иншого сродзе лупятъ и мордуютъ, а вжды не оумираетъ (Мак., 137).

**Вже** *гл.* **уже**[1]

**Вжечи** *гл.* **возжечи**

**Вживати** *гл.* **ужити**

**Вжигати** *гл.* **возжечи**

**Вжити** *гл.* **ужити**

**Вжитлити** *усяліць (надзею, спадзяванне), умацаваць:* ты г$^{с}$и едино$^{г}$ на надею вжитли$^{л}$ мя еси (Пс. XVI, 9).

**Вжитокъ** *гл.* **ужитокъ**

**Вжо** *гл.* **уже**[1]

**Вжывати** *гл.* **ужити**

**Вжытокъ** *гл.* **ужитокъ**

**Вжыще** *гл.* **ужище**

**Взабедра (взабедри, взябедра)** *ззаду конніка:* Романъ почалъ на конь мой възабедра до мене скакати (АВК, XVIII, 190, 1540).

**Взадъ (узадъ)** *назад:* неха$^{й}$ ся вза$^{д}$ не ве$^{р}$тае$^{т}$ взяти ша$^{т}$ свои$^{х}$ (Каз. Кір., 50б).

**Взаемный, взаемъ** *гл.* **заемъ**

**Взаживати** *гл.* **зажити**

**Взаимъ** *гл.* **заемъ**

**Взаконити** *гл.* **узаконити**

**Взалкати** *гл.* **алкати**

**Взаменъ** *узамен:* дано възаменъ за волость… село (АЗР, IV, 367, 1610).

**Взаранъ** і **впорану** *раніцай:* взаранъ оуслыши$^{ш}$ голо$^{с}$ мои (Пс. XVII, 9).

**Взбежати** *гл.* **взбечи**

**Взбеситися** *гл.* **беситися**

**Взбечи (узбечи)** і **взбежати** *узбегчы:* турки… пустилися до места а люд те$^{ж}$ вве$^{с}$ местски$^{й}$ взбежа$^{л}$ на мури (Бельск., 387).

**Взбити (узбити)** 1) *разбіць:* оную фасу узбилъ (ИЮМ, XXXII, 210, 1578); 2) *насадзіць (на кол):* о$^{т}$ца которы$^{й}$ хр$^{с}$тиянино$^{м}$ бы$^{т}$ не хоте$^{л}$, на ко$^{л}$ взби$^{т}$ росказа$^{л}$ (Бельск., 325б). – **Взбивати, взбиватися (взбиятися), взбитый (узбитый), повзбивати.**

**Взболотье** *гл.* **болото**

**Взбореный** *гл.* **взбурити**

**Взборонити (зборонити)** і **взбранити (возбранити), взбронити** *забараніць:* не могли заразомъ зъборонити абы на томъ пляцы коморъ не ставено (ИЮМ, VIII, 221, 1593). – **Взбороняти (взбраняти, взброняти, возбраняти, збороняти), взборонятися (взбранятися, возбранятися, зборонятися, збранятися, збронятися), возбранение (збороненье), возбранитися (збронитися), возбранный, збороняючийся, невзбраненый, невозбранно.**

**Взбрмети** *гл.* **бримети**

**Взбронити** *гл.* **взборонити**

**Взбудити (збудити, узбудити)** і **возбудити** 1) *разбудзіць:* опилы$^{х}$ взбуди$^{т}$ не моглъ (Стрыйк., 477); 2) *узбудзіць:* наши учи$^{н}$ки... афектъ в на$^{с}$ взбудили (Зб. 261, 139б); 3) *настроіць:* взбудилъ на ни$^{х}$ дики$^{й}$ наро$^{д}$ (Зб. 82, 315б). – **Взбудитися (вбудитися, возбудитися, збудитися, убудитися), взбужати (возбужати, возбуждати, збужати), взбужатися (узбужатися), взбужаючий, взбуженый (взбужоный, збужоный), взбуженье (возбужденье, возбуженье).**

**Взбудовати** *гл.* **збудовати**

**Взбужати** *гл.* **взбудити**

**Взбунтовати** *гл.* **бунтъ**

**Взбурити** 1) *узбурыць:* ветръ противный знагла мора не взбури$^{л}$ (Мак., 339); 2) *узбудзіць:* тотъ кгвалтъ взбурилъ на Яна (ИЮМ, VII, 282, 1577). – **Взбуреный (взбореный), взбуренье, взбуритися (вбуритися, узбуритися).**

**Взвалити** *гл.* **валити**

**Взваный** *гл.* **взвати**

**Взварецъ** *гл.* **варити**

**Взвати (везвати, возвати, узвати)** 1) *склікаць:* маетъ врядъ иныхъ млынаровъ къ тому възвати (АЗР, III, 79, 1557); 2) *звярнуцца:* вольно то ему было везвать до того вряду (АВК, II, 239, 1580). – **Взваный (везваный, возваный, узваный), взванье (везванье, возванье), взываный, взыванье, взывати (возывати, узывати), взыватися (возыватися, узыватися), взываючий (узываючий, узывающий), невзывание, невзываный.**

**Взведати** *гл.* **уведати**

**Взвезенье** *гл.* **узвезти**

**Взвелети** *гл.* **велети**

**Взвеличити** *гл.* **возвеличити**

**Взверзти** *гл.* **вергнути**

**Взвернути** *гл.* **узвернути**

**Взвеселити** *гл.* **возвеселити**

**Взвесити** *гл.* **узвесити**

**Взвести (узвести)** і **возвести** 1) *завесці:* мя панъ Богушъ на сеножать узвелъ (АВК, XXI, 22, 1555); 2) *прызначыць:* на вышшую почесть взвелъ (Каліст, II, 279); 3) *падняць:* очи взвес$^{т}$ могъ (Пралог, 650б); 4) *узбудзіць:* речь трудная оузведе$^{т}$ гневъ (Зб. 262, 100б). – **Взводити (воз-, уз-), взводячий (воз-, уз-), взвоженый, возвестися, возводитися.**

**Взвестити, взвестка** *гл.* **весть**

**Взвихрити** *гл.* **вихоръ**

**Взводити** *гл.* **взвести**

**Взводъ (узводъ)** *пад'ёмны мост:* велели ворота отворити и взвод отпустити (Бава, 167). – **Узводный.**

**Взвоженый** *гл.* **взвести**

**Взворъ** *гл.* **взорати**

**Взвратитися** *гл.* **вернути**

**Взвысити** і **возвысити** *павысіць:* взвысили голосъ свои и заплакали (Зб. 262, 13). – **Взвыситися (возвыситися), взвышати (возвышати), взвышеный, взвышенье (ввышэнье, возвышенье).**

**Взвышмененый, взвышменованый** *гл.* **вышейменений**

**Взвышописаный** *гл.* **вышейписаный**

**Взвышъ** *гл.* **звышати**

**Взвязати** *гл.* **звязати**

**Взгаловье** *гл.* **узголовье**

**Взгарда (згарда)** і **взгорда (вгорда)** *пагарда:* хто бы не муси$^{д}$ плакати видечи… езыка своего славного занедба$^{н}$е а просто взъгардоу (Цяп. прадм., 268б). – **Взгардителька, взгардити (вгордити, взгордити, згардити, згордити, узгордити), взгарднейший, взгаржати (взгоржати, згоржати, узгоржати), взгаржаючий, взгарженье (взгорженье, згарженье, згорженье), взгаржоный (возгарженый, згаржоный, узгарденый, узгоржоный), взгорделый, взгордитель (згардитель), взгорженший, навзгарднейший.**

**Взглядъ (возглядъ, узглядъ)** 1) *позірк:* его взгля$^{д}$ виде$^{л}$се имъ сроги$^{й}$ (Алекс., 19); 2) *пункт гледжання:* маючы узглядъ ку посполитого доброго розмноженья (КЗ, 701, 1498). – **Взглядати (взгледати), взглядовати, взглядомъ, взглянути (взгленути), возгледание.**

**Взгнетити** *гл.* **гнести**

**Взгнушатися** *гл.* **возгнушатися**

**Взгодовати** *гл.* **годовати**

**Взголовье** *гл.* **узголовье**

**Взголосити** і **возгласити** *усклікнуць:* тое мовечі взголосилъ, маючий уши слухати нехай слышить (Цяп., 36–36б).

**Взгорда, взгордити** *гл.* **взгарда**

**Взгоренье** *гл.* **возгоретися**

**Взгоржати** *гл.* **взгарда**

**Взгорие, взгорокъ** *гл.* **узгорокъ**

**Взгору** *гл.* **угору**

**Взгоршитися** *гл.* **горший**

**Взгребти** *гл.* **гребти**

**Взгревати** і **возгревати** *прыграваць:* коли солнце взгревало, теды се ростопляло (Хран., 94). – **Взгреванье.**

**Взгромити** *грымнуць:* взгроми$^{т}$ бо$^{г}$ голосомъ свои$^{м}$ (Зб. 262, 28).

**Взгужение** *гл.* **гудити**

**Взгучати** *гл.* **гукъ**

**Вздавати, взданье** *гл.* **вздати**

**Вздарье** *дар, адплата:* о$^{т}$даи взда$^{р}$е пышны$^{м}$ (Пс. XVI, 95).

**Вздати (уздати)** і **воздати (увоздати)** 1) *аддаць:* уздали хвалу Богу (Трыст., 100); 2) *перадаць:* въздала и записала вечъне мужу своему… именей своихъ (КЗ, 370, 1481); 3) *прыгаварыць:* ихъ на муки вздати мяно (ИЮМ, VIII, 425, 1629). – **Вздавати (воздавати), вzданый (возданый), взданье (вздание, воздание), вздатися (воздатися), воздательный, воздающий, воздаяние, повзданье, повздати.**

**Вздвигнути, вздвизати** *гл.* **воздвигнути**

**Вздевати** *гл.* **вздети**

**Вздержати** *гл.* **воздержати**

**Вздертися** і **вздратися** *узлезці:* о$^{т}$далъ тобе г$^{с}$дъ всю по$^{м}$сту крове дому саулового, бо$^{с}$ се вздерлъ на ца$^{р}$тво за него (Біблія, 385). – **Вздиратися.**

**Вздети (уздети)** і **воздети** *надзець:* она сама уби$^{р}$ черъне$^{ц}$ки на него вздела (Зб. 82, 217). – **Вздевати, воздетися.**

**Вздечка** *гл.* **узда**

**Вздивитися** *гл.* **здивитися**

**Вздирати** *гл.* **взодрати**

**Вздиратися** *гл.* **вздертися**

**Вздлужъ** *гл.* **вдолжъ**

**Вздобытися** *гл.* **добыти**

**Вздоймомъ (здоймомъ, уздоймомъ)** *агулам, оптам:* товары купецкіе... мають вздоймомъ продавати (АЗР, II, 92, 1511).

**Вздолжъ** *гл.* **вдолжъ**

**Вздоровети, вздоровити** *гл.* **уздоровити**

**Вздохнути (вздыхнути, взодхнути, уздыхнути) і воздхнути (воздохнути), востхнути (вестхнути, встхнути)** *уздыхнуць:* она вздохну$^{в}$ши ве$^{л}$ми тя$^{ж}$ко рече (Пралог, 541б). – **Вздыханье (воздыханье, уздыханье), вздыхати (воздыхати, уздыхати), вздыхаючий (воздыхаючий), востхненье (вестхненье).**

**Вздражный** *раздражнены, узбуджаны:* яко ме$^{д}$ведь вздражъный свежими ранами рыкну$^{т}$ и в грехъ впа$^{ст}$ мелъ (Пралог, 662б).

**Вздрасъ** *гл.* **взростъ**

**Вздратися** *гл.* **вздертися**

**Вздремати** *гл.* **дремати**

**Вздригнутися (воздрогнутися, вздрыгнутися)** *уздрыгнуць:* ца$^{р}$ его обачивши зара$^{з}$ се вздригнулъ (Зб. 82, 345). – **Вздрыгатися (воздригатися), вздрыгивати.**

**Вздрой** *гл.* **здрой**

**Вздумети** *гл.* **здумети**

**Вздухъ** *гл.* **воздухъ**

**Вздыхати, вздыхнути** *гл.* **вздохнути**

**Вздячне** *гл.* **вдячный**

**Вземлющий** *гл.* **взяти**

**Взестье** *гл.* **взыйти**

**Взетье, взимати** *гл.* **взяти**

**Взиме** *гл.* **зима**

**Взирати** *гл.* **вейзрети**

**Взлагати** *гл.* **взложити**

**Взлегчи (узлегчи) і возлегчи** *узлегчы:* не схилилъ колена, не селъ, не взлегъ (Мак., 16б). – **Взлегати (возлегати, узлегати), взлегший, взлежачий (возлежащий), узлегивати, узлегчися.**

**Взлезти (узлезти) і возлезти** *узлезці:* възлезъ на яблонь (Трыст., 85). – **Взлязати.**

**Взлекнутися** *гл.* **злекнутися**

**Взлесье** *гл.* **лесъ**$^{1}$

**Взлетети (возлетети)** *узляцець:* грифове… на такую заправды высоко$^{ст}$ взлетели (Алекс., 42б). – **Взлетати (возлетати), взлетевший, взлетелый, взлятывати.**

**Взлити (узлити) і возлити** 1) *выліць:* банку оливы взлиешъ на голову его (Хран., 328б); 2) *перадаць:* то вечъными часы взлилъ на зборъ Саский Виленъскій (АВК, XX, 64, 1591). – **Взливати (взлевати, возливати), возлитися, возлияние.**

**Взлишокъ, взлишъ** *гл.* **лишний**

**Взложити (взложыти, узложити, узложыти) і возложити (возложыти)** 1) *пакласці:* на щи$^{т}$ е$^{г}$ възложивъши... послали (Троя, 23б); 2) *надзець:* вложилъ шлыкъ на себе бараній (АЗР, III, 167, 1574); 3) *ускласці:* службы... на нихъ узложилъ (Арх. ЮЗР, V-8,

4, 153б). – **Взлагати (возлагати), взложенье (возложенье), взложитися, взложоный (возложеный, узложоный), превозложение.**

**Взлюбити** *гл.* **возлюбити**

**Взлязати** *гл.* **взлезти**

**Взлятывати** *гл.* **взлетети**

**Взмагати** *гл.* **взмочи**

**Взменка** *гл.* **змена**

**Взмовити, взмолвити** *гл.* **узмовити**

**Взмоцнитися** *гл.* **змоцнити**

**Взмочи (взмочы, узмочи, узмочы)** і **возмочи** 1) *змагчы:* не будетъ взъмочы заразомъ сумы отъдати (КПД, 233, 1554); 2) *узмацніцца:* та$^{к}$ ба$^{р}$зо взмогла боязнь, ижъ уступи$^{т}$ мусела мило$^{ст}$ (Зб. 255, 252б). – **Взмагати (возмагати, возмогати), взмагатися (взмогатися), взмочыся (узмочися).**

**Взмянка** *гл.* **змена**

**Взнавляти** *гл.* **взновити**

**Взнакомиченый** *гл.* **знакомитый**

**Взнакъ** *дагары, на спіне:* звязаны$^{й}$ взнакъ лежа$^{т}$ муселъ (Зб. 752, 444). – **Навзнакъ.**

**Взнати** *гл.* **узнати**

**Взнацатися** *гл.* **взнетити**

**Взнашати** *гл.* **взнести**

**Взненавидети** *гл.* **ненависть**

**Взнести (узнести)** і **вознести** 1) *узняць:* взнесши руки ку горе... не спущалъ ихъ (Пралог, 678б); 2) *унесці:* мы копу одну грошей десеть взнесли (АВК, VIII, 492, 1601). – **Взнесеный (воз-), взнесенье (воз-), взнестися (воз-), взносити (воз-), взноситися (воз-), взносячий, взношенье (возношение, узношенье), вознесенский, возносящийся, возношати (взнашати), возношатися.**

**Взнетити** і **вознетити** *узбудзіць, распаліць:* з яковыхъ добръ възнетилъ еси тое злое (Мак., 286). – **Взнацатися, взнечати, взнеченый.**

**Взнизнути** *нанізаць:* възявши губу а напо$^{л}$нивши оцьтомъ и възнизнувши на тросlargest поилъ его (Цяп., 41б). – **Узнизывати.**

**Взникнути (узникнути)** і **возникнути, наникнути** *узнікнуць:* насенье... пало на камени а взникнувши оусхло (Каліст, II, 120). – **Возникати (возницати), возникненый, узникле (узникля)** *выток.*

**Взнимати** *гл.* **взняти**

**Взновити (зновити, узновити)** *узнавіць, аднавіць:* воину против ему хотятъ възновити (Атыла, 214). – **Взновитися, взновленый, взновляти (взнавляти, взнавяти, взновяти, зновляти).**

**Взносити** *гл.* **взнести**

**Взнуряти** *наладжваць:* наезды оди$^{н}$ на другого о уделы взнуря$^{т}$ почали (Стрыйк., 459). – **Взнуренье.**

**Взняти (возняти, узняти)** 1) *узняць:* повелела оузняти кр$^{с}$тъ г$^{с}$нь (Чэцця, 20б); 2) *прыпадняць:* Бово възнялъ гуню, вынялъ меч (Бава, 153). – **Взнимати (уз-), взниматися.**

**Взобратися** *узабрацца:* река взобралася высоко, та$^{к}$ и$^{ж}$ вылилася пре$^{з}$ берега и ро$^{з}$лилася по поля$^{х}$ (Бельск., 224б).

**Взогнати** *гл.* **гнати**

**Взодрати (увзодрати)** *выкарчаваць:* вырубавшы лесу… увзодравшы и взоравшы пшеницою посеялъ (АВК, XXXVI, 234, 1582). – **Вздирати, взодраный.**

**Взодхнути** *гл.* **вздохнути**

**Взозрети** *гл.* **вейзрети**

**Взойти** *гл.* **взыйти**

**Взопити** *гл.* **вопити**

**Взорати (зорати, изорати, сорати, узорати)** *узараць:* на бочку жита дякла взорати и засеяти (АСД, III, 95, 1560). – **Взораный (зораный, сораный, узораный), взъоръ (взворъ, узворъ)** *ралля,* **зоранье, узворенье.**

**Взорвати (узорвати)** *парушыць:* левоновичы неслушне тое право узо$^{р}$вали (КВС, 651, 1552). – **Взорватися (узорватися), взрывати (взривати, узривати), узриванье.**

**Взористый, взороватый** *гл.* **взоръ**

**Взорчи (возорчи)** *сказаць:* хто възорчетъ ему што чинить (Зб. 262, 90).

**Взоръ (узоръ)** 1) *погляд:* оузоръ его печаленъ (Чэцця, 239); 2) *твар, абліччa:* Мелхиседекъ взору былъ велми страшного (Хран., 26); 3) *прыклад:* они сталися оузоромъ всехъ веруючихъ (Апакр., 181б); 4) *узор, малюнак:* скатертей... з узорами две (АВК, XXI, 359, 1556). – **Взористо, взористый (узористый), взоровато, взороватый, взорокъ (узорокъ), узорочный.**

**Взослати** *гл.* **заслати**

**Взошлый** *гл.* **взыйти**

**Взрадоватися** *гл.* **возрадоватися**

**Взрастити** *гл.* **взрости**

**Взрастъ** *гл.* **взростъ**

**Взрезати** *адрэзаць:* онъ дей взрезалъ ми калиту (АВК, XVII, 325, 1541).

**Взрети** *гл.* **узрети**

**Взрече** *гл.* **река**

**Взривати** *гл.* **взорвати**

**Взрокъ (зрокъ, узрокъ) і зракъ** 1) *зрок:* слепые оузро$^{к}$ приимовали (Жыц. Ал., 99б); 2) *позірк:* взроко$^{м}$ яко надале$^{й}$ моглъ за$^{й}$зрети поветрие заража$^{л}$ (Бельск., 182); 3) *здольнасць разумець, адчуваць:* цареви потреба взрокъ се$^{р}$дечный ме$^{т}$ остри$^{й}$ (Алекс., 22б).

**Взрости (возрасти, возрости, зрости, узрости)** 1) *павялічыцца ў росце:* жена… пючы вночы воду выпила змею невеликую которая взросла во череве ее (Зб. 752, 4б); 2) *стаць дарослым:* детиною малымъ полоненъ и на москве взросъ (КВЗС, 42б, 1538); 3) *прарасці:* зерно… гды всеяно будеть възростеть (Цяп., 48). – **Взраствший, взрастити (возрастити), взращати (зрощати), взрослый (зрослый, изрослый, узрослый), взростати (узростати), возрасливый, возраститися.**

**Взростъ (звростъ, зростъ, узростъ, уростъ) і возрастъ (вздрасъ, взрастъ, зрастъ, уздрастъ, узрастъ)** 1) *узрост:* младене$^{ц}$... летъ два$^{д}$ца$^{т}$ зросту своего ме$^{л}$ (Зб. 752, 79б); 2) *рост:* оузростомъ высокъ (Чэцця, 231); 3) *павелічэнне:* пожиткомъ взро$^{ст}$ даю$^{т}$ (Зб. 259, 443). – **Взростовый (вростовый).**

**Взрушити (взрушыти, узрушити, узрушыти)** 1) *парушыць:* сторона тое еднанье узрушила (КВЗС, 164, 1540); 2) *усхваляваць:* такъ великая цнота могла и наспросне$^{й}$шого взрушить (Пралог, 556б); 3) *распачаць:* хотели бы такую жъ речъ поднести передъ правомъ и взрушити (КЗ, 405, 1486). – **Взрушание, взрушаный, взрушати (возрушати, узрушати), взрушатися (возрушатися), взрушаючий, взрушенье, взрушивати (взрухивати, взрушывати, узрушивати), взрушитель (узрушитель), взрушитися (взрушытися), взрушоный (взрушеный, врушоный).**

**Взрывати** *гл.* **взорвати**

**Взсадити** *гл.* **усадити**[1]

**Взсести** *гл.* **усести**

**Взступити** *гл.* **вступити**[1]

**Взсылати** *гл.* **вослати**

**Взувати** *абуваць:* боты... на ноги его взуваютъ (Каліст, І, 17).

**Взугорокъ** *гл.* **узгорокъ**

**Взчати** *гл.* **всчати**

**Взъехати (узъехати)** *узʼехаць:* взъехалъ на дорогу (АСД, І, 104, 1546). – **Взъездъ (узъездъ), взъеждчати (узъеждчати, узъеждяти), взъеханье, узъездное.**

**Взъоръ** *гл.* **взорати**

**Взъявити (узъявити)** *абʼявіць:* его проступку паномъ раде взъявилъ (АЗР, II, 39, 1508). – **Взъявление (возъявление, узъявление), взъявляти (узъявляти, узъявяти), взъявлятися, узъявитися.**

**Взывати** *гл.* **взвати**

**Взыграти** *развесяліцца:* горы… взыграли я[к] бораны (Пс. XVI, 115). – **Взыгранье (возыгранье), взыгратися (возыгратися).**

**Взыйти (взойти, возойти, возыйти, узойти, узыйти, усойти)** 1) *падняцца:* на гору взышли (Алекс., 37б); 2) *заняць больш высокае становішча:* ище[т] з нижнихъ на вышнее взыйти (Алекс. 1697, 65б); 3) *узысці:* сло[н]це взышло (Біблія, 46б); 4) *увайсці:* чому дей васъ ко мне мало узышло (ИЮМ, І, 338, 1593). – **Взошедший (узышедший), взошлый (узошлый), взыстье (взестье).**

**Взыскати (возискати, возыскати)** 1) *знайсці:* взыска[л] есми тебе (Пс. XVI, 118б); 2) *даведацца:* онъ взыскалъ презъ тыи жъ послы, ижъ я иду противко брату (Хран., 49б); 3) *сыскаць:* отчызну нашу под нимъ взыскали (АЗР, III, 260, 1580). – **Взысканый, взысканье (возыскание), взыскатися (возыскатися, узыскатися), взыскаючий (возыскающий), взысковати (взыскивати), повзыскати.**

**Взыстье** *гл.* **взыйти**

**Взычити** *гл.* **узычити**

**Взябедра** *гл.* **взабедра**

**Взяти (увзяти, узяти)** і **возяти (озяти)** 1) *узяць:* копье узялъ в руки (Бава, 131); 2) *захапіць:* колеса посекли, а коня его взяли (АВК, XXXVI, 322, 1582); 3) *атрымаць:* отъ нихъ… листъ узяли (КПД, 65, 1540); 4) *прыцягнуць да выканання пэўных абавязкаў:* узялъ в насъ вижомъ комо[р]ника (КВЗС, 62, 1533). ◊ **Взяти на розмышление** *абдумаць.* – **Земплющий, взимати (возимати), взявший, взятися (узятися), взятокъ, взятость, взятший, взятый (узятый), взятье (взетье, узятье), взятьеся, невзятье, повзятье.**

**Виатикъ** *гл.* **виятыкъ**

**Виватъ** *феерверк у чый-н. гонар:* стреляно виват, якъ гуляли (ИЮМ, VI, 35, 1689).

**Видати** *гл.* **видети**

**Видблянинъ** *гл.* **витеблянинъ**

**Виделецъ** *відэлец:* виделецъ серебряныхъ двое до конфектовъ (АВК, II, 45, 1617).

**Видемусъ** *гл.* **видымусъ**

**Видети (видзети)** і **видати** 1) *бачыць:* видели на оно[м] местцу свечу (Стрыйк., 454); 2) *валодаць пачуццём зроку:* око выбито, которое нетъ ведома если вже видеть будетъ (АВК, XX, 273, 1621); 3) *усведамляць:* видечи речь быти слушную, принели (АВК, II, 22, 1609). – **Виданый, виданье, виданьеся, видатися, видевший, виденый, виденье (видение, видзенье), видетися, видецъ, видимо, видимый, видно, видный, видованый,**

**видовати (видывати), видокъ, видоме, видомый, видочне, видячий (видящий), виженье, вижоный, повидетися.**

**Видимусъ** *гл.* **видымусъ**

**Видлы** *гл.* **вилы**

**Видокъ, видомый** *гл.* **видети**

**Видосонъ** *разгадчык сноў:* не услухаетъ оного пророка або видосна (Біблія, 220).

**Видочне** *гл.* **видети**

**Видъ** 1) *выгляд:* ты же архипе вида мое^г^ оустрашаешися (Чэцця, 12); 2) *твар:* многи^м^ людемъ поморозило кому ногу кому па^л^цы другому ви^д^ уши носъ (Барк., 164б); 3) *прычына:* Изветъ: причина, замо^в^ка... видъ, оказіа (Бяр., 54); 4) *выпіска:* показалъ му виды съ книгъ мескихъ (ИЮМ, VII, 377, 1588).

**Видымусъ (видемусъ, видимусъ, выдимусъ, выдымусъ)** *выпіска:* покладалъ видымусъ съ тестаменту (АВК, XV, 23, 1645). – **Видимусовый.**

**Видячий, виженье** *гл.* **видети**

**Вижъ** 1) *ураднік, які засведчваў прычыненыя шкоды:* шкоды отъ нихъ поделанные вижомъ замковымъ обводили (РПП, 248, 1545); 2) *шпіён:* постерегали тое туды засланые вижове (АЗР, V, 76, 1645). – **Вижованье, вижовое (вижованое), вижовый (вижевый).**

**Визерунокъ** 1) *малюнак:* послалъ ца^р^ ахазъ до урия свеще^н^ника визерунокъ его (Біблія, 493); 2) *спосаб, метад:* Инообразно: инакшимъ способо^м^, или визерункомъ (Бяр., 58); 3) *узор, прыклад:* мужъ сей всей цноты визерунокъ (Сматр., 7).

**Визина** *бялужына:* выкрали... осетров тры, спин осетровыхъ чотыры, визины ботогов пят (АВК, XXXVI, 356, 1582).

**Визитацыя (визытацыя)** і **визита (визыта)** *інспектаванне:* купили полкгарца вина подъ часъ визитацыи на ратушъ (ИЮМ, XIV, 95, 1700). – **Визитаторъ (визытаторъ), визитовати (визытовати), звизытовати.**

**Викарий (викарей, викария, викарый)** *вікарый:* хотелъ викарія при церкви Вышницкой ховати (АВК, III, 20, 1588). – **Викарийство, викарыйка** *вопратка вікарыя.*

**Викгоръ** *моц, сіла:* викгоръ права посполитого завше ненарушне у своей клюбе зоставалъ (АВК, XXIX, 94, 1680).

**Виктория** *перамога:* за присланемъ листу одъ его млсти пана воеводы о виктории цесару хрестианскому надъ туркомъ… зъ скарбу взяли пороху (ИЮМ, II, 134, 1684).

**Викторъ** *бактрыец:* ап^с^толъ Фома проповеда Евангеліе… германомъ, викторомъ, маргомъ (Зб. вып., 89).

**Виктъ** *харчы:* справа… о додаване до Прусъ онымъ викту (АВК, I, 191, 1664).

**Вила** *дурань:* роука г^с^ня... водитъ думци въ глупость и соу^д^ и чини^т^ вилою (Зб. 262, 17). – **Вилование** *вар'яцтва,* **вилованый, звиловати.**

**Вилгкий, вилготный** *гл.* **вилкготный**

**Вилия (вилея)** *дзень перад якім-н. святам:* роки заплате положыли... вилия светого яна (КВЗС, 81, 1539).

**Вилкготный (вилготный)** і **вилгкий** *вільготны:* жродло при местцахъ вилготныхъ и болотныхъ текучее (Мак., 168). – **Вилкготность (велготность, велкготность, вилготность).**

**Вилкеръ (велкеръ)** *пастанова, зацверджаная гарадской радай:* ознаймуемъ симъ вилкеромъ и постановенем нашимъ (ИЮМ, IX, 349, 1639).

**Вилки** *гл.* **вилы**

**Вилкъ** *гл.* **волкъ**

**Вилневецъ** *гл.* **вильневецъ**

**Вилованый** *гл.* **вила**

**Виловатый** *гл.* **вилы**

**Вилога** *гл.* **вылога**

**Вилча, вилчица** *гл.* **волкъ**

**Вилы і видлы** 1) *вілы:* вилы купили для очищеня стайни (ИЮМ, III, 134, 1685); 2) *развілка:* в вилахъ тыхъ дорогъ поставилъ его мил. крыж з рубежами (ИЮМ, XXVIII, 260, 1630). – **Видляный, вилки, виловатый.**

**Вилькъ** *гл.* **волкъ**

**Вильневецъ (вилневецъ)** *жыхар Вільні:* мы тому вильневцу велимъ ему серебро заплатити (АЗР, I, 155, 1496).

**Вильчура** *гл.* **волкъ**

**Вина** 1) *віна:* отца за сынню вину не казнити (КЗ, 547, 1494); 2) *пакаранне:* намъ его не карати ни одною виною (АЗР, III, 15, 1547); 3) *штраф:* маеть хве$^{д}$ко заплатити вины... десять рублевъ (КВЗС, 11, 1533). ◊ **Вина головная** *штраф за забойства.* – **Винити, виннейший, винно (винне), винность, винный, виновайца (виноватецъ), винованый, виновати (виноватити), виноватый, довиненье, извинитися, на(й)невиннейший, невинне (невинно), невинность, невинный, увинити.**

**Винаръ** *гл.* **вино**

**Винда** *вінда:* за робене винды до шофы дали (ИЮМ, X, 149, 1695). – **Виндовати.**

**Виниктъ** *упрыгожанне:* кубокъ сребреный съ виниктомъ (АЮЗР, I, 77, 1529).

**Винити** *гл.* **вина**

**Винищо, винница** *гл.* **вино**

**Винный** *гл.* **вина, вино**

**Вино** 1) *віно:* блу$^{д}$ вино и пъя$^{н}$ство одо$^{и}$мує$^{т}$ розумъ (Зб. 261, 258б); 2) *вінаград:* Гроздъ: гроно вина (Бяр., 31). – **Винищо (винище), винниковъ, винникъ (винаръ, виняръ), винница, винничина, винный, винщина** *падатак на спіртныя напіткі.*

**Винобойный** *які служыць для выціскання соку з вінаграду:* вина въ прасахъ винобойныхъ вытискали (Каліст, I, 122).

**Виновати, виноватити** *гл.* **вина**

**Виноградникъ** *гл.* **виноградъ**

**Виноградоделатель** *вінаградар:* оставилъ былъ Навходнасоръ... виноградоделателе и ратае земли (Скар. ЧЦ, 240).

**Виноградъ** 1) *вінаград:* оливницы и виноградъ попалилъ огонь (Хран., 185б); 2) *ягады вінаграду:* зобра$^{н}$е зъ поль, зъ садовъ... овоцовъ и винограду (Каліст, I, 122). – **Виноградникъ, виноградный.**

**Винопитца** *чалавек, які прыахвоціўся да віна:* тотъ человекъ объядаючійся і вінопітъца (Цяп., 14б).

**Винтинникъ** *пладовы сад:* монастырь... съ винтинниками и корыстми, и со всими кгрунтами имъ дали (АЗР, III, 286, 1584).

**Виншовати (веншовати)** 1) *жадаць, зычыць:* ви$^{н}$шова$^{л}$ ему все$^{г}$ добро$^{г}$ (Бельск., 225б); 2) *віншаваць:* виншовали на ратушу маистратъ новый (ИЮМ, VI, 29, 1689). – **Виншованый, виншованье (веншованье).**

**Винщина, виняръ** *гл.* **вино**

**Виоленция (виоленцыя)** *жорсткасць, лютасць:* акторомъ починеные збытки, шкоды, віоленціе (АВК, I, 349, 1696). – **Виолентеръ** *гвалтоўна,* **виоляторъ** *парушальнік.*

**Виоска** *гл.* **весь**[2]

**Виргати** *бурліць:* Перу: прудко лечу, теку, или виргаю (Бяр., 102). – **Вирганье.**

**Вирилионъ** *гл.* **бериль**

**Вирити** 1) *выдумляць:* ани брала есми того, што она на мене вирить (АВК, XVII, 317, 1541); 2) *арандаваць:* я корчму тамъ вирилъ отъ пана Яна (АВК, XVII, 324, 1541).

**Виротчикъ** і **верофитянинъ** *жыхар горада Вірофа:* оутекли виротчицы во гефемъ (Хран., 247б).

**Вирутный** *гл.* **верутный**

**Вирша** *гл.* **верша**

**Виршъ** *гл.* **вершъ**

**Виръ** *вір:* въ вирахъ ловы рыбные (АВК, XI, 25, 1556). – **Вирький.**

**Висага** *гл.* **бисага**

**Висети** 1) *вісець:* злодей маетъ висети (Ст. 1588, 102); 2) *залежаць:* в тыхъ двухъ приказанья[х] весь законъ и пророкі вісятъ (Цяп., 31б). – **Виселица (виселница), висимый, виснути, висячий (висящий), зависненье, зависнути, повиснути.**

**Висикготъ (висиготъ, висэготъ, висэкготъ)** *прадстаўнік старажытнага германскага племені:* вандалове, висикготове, брытаннове и немцы (Атыла, 218).

**Вискъ** *віск:* стала сеча велика, трескъ, конскій вискъ (Алекс. 1697, 33).

**Виснути** *гл.* **висети**

**Виссонъ** і **виссъ (висъ, выссъ)** *батыст:* бы[л] бога[т] и оболока[л]ся в шарлатъ и въ виссонъ (Каліст, II, 127б). – **Виссоновый.**

**Висячий** *гл.* **висети**

**Витати** *вітаць:* цеса[р] из женою своею поткали и витали его (Зб. 752, 69б). – **Витаный, витанье, витаньесе, витатися.**

**Витеблянинъ (видбленинъ, видблянинъ, витбленинъ, витблянинъ, витьбленинъ, витьблянинъ)** *жыхар Віцебска:* витебляне не могли те[р]пети (Патр. П, 103). – **Витблянка.**

**Витежный, витежство** *гл.* **звытяжство**

**Витезь** *гл.* **витязь**

**Вити** *віць:* птаховъ розный рожай... гнезда на земли вили (Мак., 355). – **Витися, витый, витье, вывинутый, довити, звивати, звиненье, звити (звинути, свинути, свити), звитися (звинутися, свитися), звитокъ (свитокъ), звитый (извитый, свинутый), перевиваный, перевиватися, подвивати, превитый, розвинути, розвитися, розвыненый, свиватися.**

**Витина (вицына)** *віціна, рачное судна:* мытникъ... взялъ з витины соли нашое двенадцать бочокъ (АВК, XV, 2, 1555).

**Витка** *гл.* **вить**

**Витый** *гл.* **вити**

**Вить (виць)** 1) *вітка:* двумъ человекомъ, што крутили витю, зол. 10 (ИЮМ, XII, 116, 1638); 2) *урадавы дакумент на «паспалітае рушэнне»:* подалъ универсалъ... вици на посполитое рушенье въ собе завераючи (АВК, VIII, 278, 1664). – **Витка.**

**Витьблянинъ** *гл.* **витеблянинъ**

**Витье** *гл.* **вити**

**Витяжство, витяжца** *гл.* **звытяжство**

**Витязь (витезь)** *віцязь:* поехал у поле и стретилъ одного витезя (Бава, 138). – **Витезевъ, витязский.**

**Вифлиемчикъ** *жыхар Віфліема:* сынъ алворіевъ вифліемчикъ (Хран., 259б).

**Вифляантъ** *гл.* **лифляантъ**

**Вихоръ (вихеръ, вихръ)** *віхор:* Завертъ: вихоръ, або вихеръ (Бяр., 47). – **Взвихрити, взвихритися, вихрити, вихроватый, завихрити, завихритися.**

**Вицеинстикгаторъ (вицеинстыкгаторъ)** *намеснік судовага абвінаваўцы:* противко чему вицеи[н]стыкгато[р] нашъ... поведи[л] (ККСС, 15б, 1615).

**Виценотарий** *памочнік пісара:* виценотарій консисторіи (АСД, XI, 115, 1720).

**Вицеокономъ** *намеснік эканома:* приехалъ его мл. панъ хоронжы вицеокономъ (ИЮМ, I, 46, 1679). – **Вицеокономовая.**

**Вицепротекторъ** *намеснік пратэктара:* послалъ ихъ былъ з риму... о[т] кардинала мафуса вицепротектора (Апакр., 201б).

**Вицерегентъ** *намеснік начальніка канцылярыі:* коректа въ тые слова: скорикговалъ Буховецкій, вицерегентъ (АВК, VIII, 603, 1689).

**Вицына** *гл.* **витина**

**Виць** *гл.* **вить**

**Вишня** 1) *вішня:* изгинула грушка и вишня изъ саду (АВК, XVII, 348, 1541); 2) *ягада вішні:* 5 ведеръ вишенъ (ИЮМ, XXIV, 21, 1711). – **Вишенка, вишневый (вишниовый).**

**Вишынка** *разнавіднасць шаблі:* шабля вишынка (АВК, XX, 193, 1602).

**Вишья** *саломінка:* тонучій и вишью ся хватаетъ (Апакр., 116б).

**Виятыкъ (виатикъ)** 1) *дарожны плашч:* князю валенътыну взято... виятыкъ, за него дано полъкопы грошей (КВС, 444б, 1552); 2) *перадсмяротнае прычашчэнне:* называется иначей Евхаристія Виатикъ, то естъ: Подорожное (Зб. вып., 18).

**Вказати, вказникъ** *гл.* **указати**

**Вканути** *гл.* **канути**

**Вкаряти** *гл.* **корити**

**Вкваплятися** *гл.* **квапитися**

**Вкинути (укинути)** *укінуць:* его забили и в реку вкинули (КВС, 520, 1552). – **Вкиданый (укиданый), вкидати, вкидатися, вкидывати, вкиненый (укиненый), вкиненье, вкинутися, вкинутый, повкиданый, повкидати, повкидывати.**

**Вкласти** *гл.* **класти**

**Вклепатися** *увязацца, умяшацца:* омылился есми, не въ своего коня есми вклепался (КСД, 48, 1500). – **Вклепыватися (уклепливатися).**

**Вклонитися** *гл.* **кланятися**

**Вковати** *гл.* **уковати**

**Вколо** *гл.* **воколъ**

**Вколостоянье** *акружэнне, абставіны:* Обстояніе: околичность, вколостоянье, оутисненье, припадокъ окружаючій щасный и нещасный (Бяр., 193).

**Вколошийный** *які знаходзіцца вакол шыі:* Монисто: клейнотъ которого на шіи носят, охендозство вколошійнее яко обручка (Бяр., 81).

**Вколъ** *гл.* **воколъ**

**Вконати** *гл.* **конати**

**Вконецъ** *канчаткова:* не мо[г]лъ вконе[ц] твои покусы звитяжити (Зб. 82, 414).

**Вкопати (укопати)** *укапаць:* положи[л] границы вкопавши железныи слупы (Хр. п., 6). – **Вкопаный (укопаный), вкопанье (укопанье), вкопатися (укопатися), укоповати.**

**Вкоренити** *гл.* **укоренити**

**Вкорень** *гл.* **корень**

**Замешка** *гл.* **замешати**

**Замешкати** *замарудзіць, спазніцца:* замешкалъ на рокъ до воиска прыехати (Ст. 1588, 56). – **Замешканый, замешканье, замешкатися, замешкивати (замешковати).**

**Замешникъ** *гл.* **замшъ**

**Замешоный** *гл.* **месити**

**Замешъ** *гл.* **замшъ**

**Замиловати** *палюбіць:* замиловал ю над иныи жоны (Бельск., 160б). – **Замилованый, замилованье, замилованьеся, замиловатися.**

**Замилчати** *гл.* **замолчати**

**Заминути** *гл.* **минути**

**Замиотъ** *гл.* **заметати**

**Замирати** *гл.* **мертвый**

**Замкнути** *гл.* **замокъ[2]**

**Замковое, замковый** *гл.* **замокъ[1]**

**Замножитися** *павялічыцца:* пыха ся проклятая замножила (Дыяр., 164б). – **Замноженье.**

**Замовити** 1) *заявіць, сказаць:* пленипотентъ… замовилъ то ижъ тая справа у суду нашого форумъ не маетъ (АВК, XII, 453, 1662); 2) *дамовіцца:* такъ собе замовили межи себе передъ нами (ИЮМ, XXI, 414, 1623). – **Замавяючий, замова** *забарона,* **замовитися** *паспрачацца,* **замовка** *сварка,* **замовленый, замовленье, замовляти (замавяти, замовяти), замовлятися, замовянье.**

**Замовчати** *гл.* **замолчати**

**Замовяти** *гл.* **замовити**

**Замогчися** *гл.* **мочи**

**Заможный** *заможны:* многіе заможныи зубожали (СДГВ, 30, 1526). – **Заможность.**

**Замокнути** *гл.* **мокнути**

**Замокъ (замекъ, замэкъ)[1]** 1) *замак:* замки пограничные опатровано (АЗР, III, 26, 1551); 2) *умацаванае жыллё феадала:* пыталъ ихъ панъ замку оного, где бы шли (Пралог, 628б); 3) *цэнтр адміністрацыйнай адзінкі:* возные тутъ на замку... присегу учинили (АВК, XXII, 148, 1565). – **Замковое, замковый, замочекъ (замечекъ, замочокъ, замэчэкъ).**

**Замокъ[2]** 1) *замок:* у коморы замок збили (ИЮМ, XXXII, 222, 1577); 2) *частка агнястрэльнай зброі:* за направене замка у мушкеце... дали слесару осм. (ИЮМ, X, 95, 1695). – **Замкненый, замкненье (-ние), замкнути, замкнутися, замкнутый, замочекъ (замочокъ), замченость, замченье, замчистый (замчыстый), замыканый, замыканье, замыкати, замыкатися, замыкаючий (-ющий), незамкненый.**

**Замолчати (замовчати) і замилчати** 1) *замоўкнуць:* кроль загамовалъ посполство и замолчати росказалъ (Варл., 325б); 2) *прамаўчаць:* онъ на то замолчалъ (Каліст, I, 146). – **Замовчатися, замолкнути (замовкнути), замолчаный, замолчанье, замолчивати (замилчавати, замовчивати, замолчевати, замолчывати).**

**Замордовати** *гл.* **мордовати**

**Заморити** *гл.* **морити**

**Заморозь** *гл.* **морозъ**

**Заморщити** *гл.* **морщити**

**Заморщыкъ, заморье** *гл.* **море**

**Замостити** *гл.* **мостити**

**Замотанье** *гл.* **мотати**

**Замочекъ** *гл.* **замокъ[1, 2]**

**Замочыти** *замачыць:* попелъ замочыло и попсовало (АВК, XXXVI, 27, 1582). – **Замоченье, замочовати (замачовати).**

**Замощенье** *гл.* **мостити**

**Замружити** *гл.* **мружити**

**Замтузъ** *публічны дом:* ср^д^це людей таковыхъ замтузомъ нееки^м^сь самыхъ нечистыхъ духовъ есть (Мак., 183).

**Замужъ** *замуж:* внуку его казали есмо ему выправить замужъ (КЗ, 300, 1488). – **Замужемъ (замужомъ), замужняя.**

**Замуленый** *гл.* **мулетина**

**Замуровати** *гл.* **муровати**

**Замутити** *гл.* **муть**

**Замучити (замучыти)** *замучыць:* чл^в^ка панского на добровольной дорозе до смерти замучилъ (КСД, 39, 1510). – **Замученый (замучоный), позамучивати, позамучити.**

**Замучовати** *гл.* **муть**

**Замченье, замчистый** *гл.* **замокъ**[2]

**Замшъ (замешъ)** *замша:* жупица замшу чорного с кнафлями (АВК, XXI, 253, 1556). – **Замшеникъ (замешникъ, замошникъ, замшиникъ, замшникъ), замшеницкий (замешницкий), замшованый, замшовый (замшевый).**

**Замщоный** *гл.* **мстити**

**Замыдлити** *гл.* **мылити**

**Замыкати** *гл.* **замокъ**[2]

**Замыляти** *гл.* **мылити**

**Замыслити** *задумаць:* замысливши, кгвалтомъ на кляшторъ находить хотели (АВК, VIII, 122, 1637). – **Замыслитися, замыслъ, замысльный, замышленый, замышленье (-ние), замышляти, замышляючий.**

**Замэкъ** *гл.* **замокъ**[1]

**Замяртво** *гл.* **мертвый**

**Замятня** і **замятенье, замятокъ** *смута:* была в то^т^ ча^с^ замя^т^ня великая у Смоле^н^ску (Патр. К, 36).

**Занавесъ** *заслона:* занавесъ тафтяный въ святое Троици (АЗР, I, 137, 1494).

**Занадра** *гл.* **надра**

**Заначовати** *гл.* **ночъ**

**Зане** і **занежъ (занеже, занже, заньже, заньжо), занужъ (занюже, занюжъ)** *бо, таму што:* предспеяніе вашея веры явлено будетъ всемъ, зане яковыи старе^и^шина града есть, такови и гражане его (Ст. бр., 13б).

**Заневолити** *заняволіць:* Навходоносо^р^ опанова^л^ и египе^т^ и ихъ заневоли^л^ (Біблія, 605). – **Заневоленый, заневоленье.**

**Занедбати** *занядбаць:* вси иншіи речи зневажити и занедбати винны (Мак., 138). – **Занедбаваный (занедбываный), занедбавати (занедбовати, занедбывати, занетбывати), занедбавывати, занедбалый, занедбаный, занедбанье (-ние).**

**Занедужати** *гл.* **дужий**

**Занеже, занежъ** *гл.* **зане**

**Занемети** *анямець:* преложоны^й^ ва^ш^ замо^л^ча^л^ и занеме^л^ (Зб. 752, 329).

**Занемочи** *гл.* **немоцъ**

**Занепразнити** *заняць, запоўніць:* богъ занепразнилъ коханиемъ ср^д^це его (Скар. ЕК, 9б). – **Занепразнение.**

**Занести** 1) *занесці:* ове[ч]ку вложы[в]ши на рамо до овча[р]ни зане[с] (Зб. 255, 19б); 2) *узяць з сабой:* немало речей зашкодивши зъ собою занеслъ (АВК, VIII, 515, 1637); 3) *змагчы несці:* бортникомъ волно на лезиво лыкъ… възяти што можеть на собе занести (Ст. 1588, 381); 4) *узбудзіць:* протестацыи три въ справе нашой… на розныхъ особъ занесли (ИЮМ, IX, 206, 1635). – **Занесеный, занесенье, занестися, заносити, заноситися, заношенье.**

**Занетбывати** *гл.* **занедбати**

**Занехати** *гл.* **нехати**

**Занже** *гл.* **зане**

**Заниматися** *гл.* **заняти**

**Занкель (занкгель, занкгиль, занькелъ)** *спражка:* чотыри тесемки золотыхъ зъ занклями сребреными (АВК, XXII, 298, 1565).

**Заносити** *гл.* **занести**

**Заночовати** *гл.* **ночъ**

**Заношенье** *гл.* **занести**

**Занужъ** *гл.* **зане**

**Занурити** *акунуць:* грешную душу... в озере вечной сме[р]ти занурили (Пралог, 541). – **Занурати (зануряти), зануратися, зануреный (зануроный), зануритися (занурытися).**

**Заньже** *гл.* **зане**

**Занькелъ** *гл.* **занкель**

**Занюжъ** *гл.* **зане**

**Заняти** 1) *завалодаць:* Брокфольтъ занялъ гребли его милости (АВК, XX, 170, 1691); 2) *захапіць чужую жывёлу на сваім полі:* онъ занялъ коня моего на жите (АВК, XVII, 125, 1540); 3) *пазычыць:* занявъ денегъ, купилъ дворъ (АЗР, IV, 408, 1610); 4) *зачапіць:* стрелял до мене з ручъницы, кулка троха головы не заняла (АВК, XXXVI, 74, 1582); 5) *ахапіць:* если бы вышедши огонь натрапилъ тернье и занялъ бы копы збожья (Хран., 99б). – **Займаный, займанье, займати (зоймати), займованый, займовати, заниматися, занятися, занятый, занятье, позаймованый, позаймованье, позаймовати.**

**Заодинъ, заодно** *гл.* **одинъ**

**Заорати** *заараць:* дорогу заоралъ и ечменемъ засеялъ (АВК, XXII, 16, 1565). – **Заоранье, заорывати, позаорывати.**

**Заорендованье** *гл.* **заарендовати**

**Заорештовати** *гл.* **арештъ**

**Заорывати** *гл.* **заорати**

**Заосеротети** *зрабіць сіратой, адзінокім:* ты мене заосеротела (Зб. 752, 16).

**Заособна** *гл.* **особный**

**Заострити** *завастрыць:* рогатиноу есми заостри[л] (Пак. Хр., 26б). – **Заостреный, заостренье.**

**Заочный** *завочны:* о заочный переводъ права позывати не маю (АВК, XXVIII, 75, 1605). – **Заочне (заочно).**

**Западати** *гл.* **запасти**

**Западникъ, западный** *гл.* **западъ**

**Западня** *гл.* **запасти**

**Западъ (заподъ)** *захад:* такъ о[т] насъ былъ далеко яко востокъ о[т] запада (Зб. 259, 444б). – **Западникъ, западный (заподный).**

**Запазуха** *гл.* **пазуха**

**Запалатися** *гл.* **палати[1]**

**Запалити** 1) *запаліць:* смелъ умысльне запалити замокъ (Ст. 1588, 413); 2) *перан. выклікаць уздым пачуццяў:* Каина дияво$^{л}$ зазро$^{ст}$ю запали$^{л}$ (Бельск., 6б). – **Запалеваный, запаленый, запаленье (-ние), запаливати (запалевати), запалитися, запалъ, запал(ь)ный, запал(ь)чиве, запал(ь)чивость, запал(ь)чивый, запалянье, запаляти, запалятися, запалячъ, запаляючий.**

**Запаметати (запамятати, запометати, запомятати) і запоменути (запомянути), запомнити (запомнети, запомняти)** *забыць:* о$^{т}$чызно$^{г}$ языка запамятали (Стрыйк., 314б). – **Запаметале, запаметалость, запаметалый (запаменталый, запамяталый), запаметаный (запометаный), запаметанье (запаментанье, запамятанье, запоментанье, запометанье), запаметливый, запаметовати (запаметывати), запоменутие (запомянутие), запоменутый (запомянутый), запоминати, запомненый, запомненье, запомнитися, запомнялый, запомянение.**

**Запасникъ, запасництво** *гл.* **запасы**

**Запасти** 1) *праваліцца:* места з своими обывате$^{л}$ми по$^{д}$ землю запали (Бельск., 252б); 2) *зайсці (пра нябесныя свяцілы):* вже к вечеру есть и слонце скоро западеть (Скар. КС, 40б); 3) *засыпацца:* обаваешъся, абы тые знаки... снегомъ не запали (АВК, II, 131, 1542). – **Западати, западатися, западенье, западня (западка), западывати, запалый, запастися.**

**Запасъ** *запас:* коренья и всякіе иные запасы збиралъ (АЗР, IV, 370, 1610).

**Запасы** *паядынак:* ухватилися обадва жарко в запасы (Стрыйк., 448). – **Запасникъ, запасницкий, запасництво.**

**Запахати** *гл.* **пахати**

**Запахъ (запохъ)** *пах:* виннице цвитущие выдали запахъ свои (Скар. ПП, 4б). – **Запахнути, запашный.**

**Запевне, запевный** *гл.* **певный**

**Запение** *гл.* **пети**

**Запенятися** *адмаўляцца:* запенялисе ему служити (АВК, XIII, 15, 1508).

**Заперети** *гл.* **заперти**

**Заперечити** *перашкодзіць:* умыслу... смерть прудкая заперечила (АЗР, V, 68, 1641).

**Заперти (заперети) і запрети** 1) *зачыніць:* заперлъ осторожъне дверы (Зб. 81, 74); 2) *адрачыся:* листу своего и сознанья... у трыбуналу учыненого заперъ (КЛС, 3б, 1596). – **Запертися (запретися, зопретися), запертый (запреный), запиранье (запренье), запирати, запиратися, запираючий, запираючийся, запора, запреньеся, позапирати.**

**Запети** *гл.* **пети**

**Запечалованье** *гл.* **печаль**

**Запечатати** 1) *змацаваць пячаткай:* написавшы листъ печа$^{т}$ю запечаталъ (КВС, 458б, 1552); 2) *апячатаць:* замкну$^{л}$ барило и запечата$^{л}$ (Зб. 752, 569б); 3) *завяршыць:* злодеи... смертью запечатали (Ст. 1588, 541). – **Запечатован(н)ый, запечатованье, запечатовати (запечатывати).**

**Запечатлети** *замацаваць:* еп$^{с}$кпъ... свечю вжеглъ пре$^{д}$ нею и запечатле$^{л}$ (Чэцця, 268б). – **Запечатление, запечатлен(н)ый (запечатлевый).**

**Запечатовати** *гл.* **запечатати**

**Запечекъ** *гл.* **печъ**

**Запечися** *гл.* **печи**

**Запиваный** *гл.* **запити**

**Запинати, запинка** *гл.* **запяти**

**Запирати** *гл.* **заперти**

**Записати** 1) *запісаць:* писаръ то запишеть (Ст. 1588, 209); 2) *зрабіць запіс аб прыналежнасці маёмасці:* дали есмо пану Немирю Резановичу и записали села (АЗР, I, 68, 1450); 3) *заключыць:* ляхове… хотели, жебы Литву у кабалу записали (АЗР, III, 134, 1564). – **Записаный, записанье (-ние), записатися, записное** *пошліна за афармленне дакумента,* **записный, записованый (записываный), записованье (записыванье), записованьеся, записовати (записывати), записоватися (записыватися), записунокъ, записъ (запись), незаписаный.**

**Запити** *выпіць пасля гандлёвай здзелкі:* тот ланцужок Тарас Кривошеин запил (ИЮМ, XXXII, 53, 1578). – **Запиваный, запитися, запойство, позапияти.**

**Заплавити** *затапіць:* милости и рекы не заплавять (Зб. 262, 86).

**Заплакати** *гл.* **плакати**

**Заплата**[1] 1) *аплата:* заплату долговъ на одну мене спускають (АВК, XXI, 29, 1555); 2) *падатак, пабор:* съ приходовъ помененыхъ водлугъ порядку брацкого заплата идет (АЗР, IV, 23, 1589); 3) *цана, кошт:* цена або заплата за дерево… маеть быти таковая (Ст. 1588, 390); 4) *расплата:* злодей за злый учынокъ свой заплату берет (АВК, XXXVI, 381, 1582). – **Заплатити, заплатитися, заплаченый (заплачоный), заплаченье (заплаценье), незаплата, незаплаченье (незаплачение), незаплачоный.**

**Заплата**[2] *лата, латка:* чеботы теже велми старыи... на знамя старости заплатами были сшиваны (Скар. IН, 19).

**Заплевати** *гл.* **плюнути**

**Заплевети** *гл.* **плевелъ**

**Запленити** *гл.* **полонъ**

**Заплести** *заплесці:* заплела косы власъ (Скар. КЮ, 25). – **Заплетанье, заплетенье.**

**Заплечекъ** *заплечча:* виделомъ… на заплечку рану (АВК, XXXVI, 2, 1582).

**Заплодитися** *гл.* **плодъ**

**Заплотина, заплотье** *гл.* **плотъ**[1]

**Заплутаный** *гл.* **плутъ**

**Заплутье** *гл.* **плотъ**[1]

**Заплыти (заплынути)** *заплысці:* для лове[н]я зверу заплы[в] до некоторои ве[л]ми оздобнои и веселои выспы (Тр. гіст., 67). – **Заплыность, заплынутися.**

**Заплюгавленый** *гл.* **плюгавый**

**Запнутися** *гл.* **запяти**

**Запобраный** *гл.* **брати**

**Заповедь (заповесть)** 1) *запаведзь:* колько е[ст] заповедей божіихъ (Будны, 2); 2) *забарона:* они… чере[з] запове[д] и чере[з] заруку ме[д] жолънеромъ продавали (КВЗС, 36, 1537); 3) *загад:* заповеде[м] по[д]легати не хотели (Апакр., 207б). – **Заповеданый, заповеданье, заповедати, заповедаючий, заповеденый, заповеденье, заповедети (заповедити), заповедный, заповедовати (заповедывати).**

**Заповетрити** *гл.* **поветро**

**Заподаный** *гл.* **подати**

**Заподейзреный** *гл.* **подозренье**

**Заподетися** *згубіцца:* тотъ выписъ где се… заподелъ (АВК, XX, 248, 1617).

**Заподобно** *прыемна:* то… заподобно будетъ видети (АЗР, II, 347, 1538).

**Заподъ** *гл.* **западъ**

**Запожиточно** *замнога:* то ва[м] есть запожито[ч]но, првдиве з золота (Алекс., 35).

**Запожичити** *гл.* **запозычити**

**Запозвати** *выклікаць (у суд):* старосту Вилкомирского до суду головного запозвала (АВК, XXXII, 23, 1596). – **Запозваный, запозванье, запозватися, запозовъ (запозевъ), запозываный, запозывати.**

**Запознитися** *гл.* **позный**

**Запозовъ, запозывати** *гл.* **запозвати**

**Запозычити (запожичити, запозычыти)** і **спозычити** *пазычыць:* запозычилъ у пана Лешчинского талеровъ десять (ИЮМ, VIII, 11, 1710). – **Запозычаный, запозычати, запозычоный (запожичоный), запозычытися.**

**Запоимати** *забраць:* запоимоу$^{т}$ его в чюжую землю (Арыст., 71б).

**Запойство** *гл.* **запити**

**Запокойный** *гл.* **покой**

**Запомагати** *гл.* **запомочи**

**Запоменути, запомнити** *гл.* **запаметати**

**Запомочи (запомогчи, запомочы)** *дапамагчы:* рачили того свещенника… даткомъ своимъ запомочи (АЗР, III, 19, 1547). – **Запомога (запомоцъ), запомоганье, запомогати (запомагати), запомогатися (запомагатися), запомогчися (запомогчыся), запоможенный (запоможоный), запоможенье.**

**Запомятати** *гл.* **запаметати**

**Запона** 1) *засцежка:* жаловала о летникъ одомашковый белый... а о запону великую (КСД, 344, 1516); 2) *заслона, фіранка:* купили гарусу темнозеленого локъти два на запону до окна (ИЮМ, IX, 100, 1692). – **Запоница, запоничка, запонка.**

**Запора** *гл.* **заперти**

**Запорожнити** *апаражніць:* розу$^{м}$ сво$^{й}$ запорожниле$^{м}$ (Зб. 752, 591б).

**Запоромъ** *імклівa, хутка:* зима… рано стала запоромъ зышла (Барк., 156б).

**Запорошати** *гл.* **порохъ**

**Запоседати** *захапіць:* наши городы и волости… запоседалъ (АЗР, II, 19, 1507).

**Запособити** *гл.* **заспособити**

**Запохъ** *гл.* **запахъ**

**Започати** *гл.* **почати**

**Заправа** *гл.* **заправити**

**Заправадити** *гл.* **запровадити**

**Заправды (заправда, заправду)** і **здоправды** *сапраўды:* рекла ему царица заправды ты е$^{ст}$ самый Алекса$^{н}$де$^{р}$ (Алекс. 1697, 86).

**Заправити** 1) *закласці:* тые ямы казали есмо попу добре заправити и забруковати (АВК, XVII, 248, 1540); 2) *прыправіць:* доле$^{г}$ливостями потравы цнотъ своихъ якобы солею заправи$^{л}$ (Зб. 259, 168б); 3) *прывучыць:* до вшелякои роспусты и спро$^{с}$ности ихъ заправили (Варл., 297). – **Заправа, заправенье, заправитися, заправленый, заправляти, заправный, заправованье, заправовати, заправоватися, заправуючий, заправятися.**

**Запрагати** *гл.* **запрягчи**

**Запрацовати** *зарабіць:* не до конца запрацовалъ на тую заплату (Варл., 351).

**Запрашанье** *гл.* **запросити**

**Запрегчи** *гл.* **запрягчи**

**Запредати** *гл.* **запродати**

**Запрети** *гл.* **заперти**

**Запретити** *забараніць:* запретить ей и не призволить к тому не будеть повинна (Скар. ЛК, 63). – **Запретивый, запрещати, запрещатися, запрещенный, запрещенье (-ние), незапрещенный.**

**Заприпасти** *гл.* **припасти**

**Заприсягнути (заприсегнути, заприсягчи)** *прысягнуць:* слюбъ свой… слюбила и заприсягла (Скар. ЛК, 63). – **Заприсягати (заприсегати, запрысегати), заприсягчися, заприсяженье (заприсеженье), заприсяжоный (заприсежоный, заприсенжоный, запрысежоный), заприсяженье.**

**Заприяти** *гл.* **сприяти**

**Запровадити (заправадити, запровадзити)** *адправіць, заправадзіць:* его запровадити каза$^{л}$, где бы ни с ки$^{м}$ обцовати не моглъ (Зб. 82, 355б). – **Запровадитися, запроважати (запровожати), запроваженый (запроважоный), запроваженье.**

**Запродати (запредати)** *запрадаць:* хто бы якую речъ рухомую запродалъ на рокъ (Ст. 1588, 331). – **Запродавати, запроданый (запреданый), запроданье (запреданье), запродатися, позапродавати.**

**Запрожно** *задарма:* мы вамъ запрожно того опустить не хотечи (АЗР, IV, 33, 1596).

**Запросити** *запрасіць:* войтъ запросилъ пановъ маистратовыхъ… на ратушъ (ИЮМ, IV, 68, 1686). – **Запрашанье, запрошати, запрошеный (запрошоный), запрошенье, запрошовати.**

**Запрысегати** *гл.* **заприсягнути**

**Запрягчи (запрагчи, запрегчи)** *запрэгчы:* запрежи возъ твой и едь (Скар. ТЦ, 171б). – **Запряганый, запрягати (запрагати, запрегати), запрягаючий, запряженый, запряжка.**

**Запсовати** *гл.* **сопсовати**

**Запудитися** *гл.* **пудити**

**Запускати** *гл.* **запустити**

**Запуски** *гл.* **запусты**

**Запустети** *прыйсці ў стан заняпаду:* тая земля давно запустела (КЗ, 170, 1490). – **Запустевший, запустелый, запустение, запустъ** *лясное ўгоддзе.*

**Запустити** 1) *апусціць:* запустите сети по право$^{й}$ стороне лоди (Зб. 255, 46); 2) *пусціць:* того оленя запустили были еще до света (АВК, XVII, 252, 1541). – **Запускати, запуститися, запущати, запущаючий, запущоный.**

**Запустный** *гл.* **запусты**

**Запустошити** *гл.* **пустошити**

**Запустъ** *гл.* **запустети**

**Запусты (запуски)** *загавіны:* маеть о$^{н}$ в тыи ко$^{р}$чмы увязатися, ме$^{д}$ и пиво почати варити на сии великии запусты (ПГ, II, 204, 1511). – **Запустный.**

**Запухнути** *гл.* **пухнути**

**Запущати** *гл.* **запустити**

**Запхнути** *гл.* **сопхнути**

**Запытати** *запытаць:* запыталъ ихъ царь што за роботу маете (Хран., 74). – **Запытаный, запытанье, запытывати.**

**Запястье** *гл.* **пясть**

**Запяти** *засланіць:* запя$^{л}$ еси оболокомъ собе о$^{т}$ проходу м$^{л}$твы (Зб. 262, 112б). – **Запинаемый, запинаный, запинанье, запинатель, запинатися, запинка (запиналъ)** *засцежка,* **запнутися.**

**Зара** *гл.* **заря**

**Заробляти** *гл.* **заробити**

**Заравно** *гл.* **ровный**

**Зарадно** *гл.* **зарядъ**

**Зарадоватися** *гл.* **радость**

**Зарадъ** *гл.* **зарядъ**

**Зараза** *зараза:* пригледа$^{д}$ся причыни заразы и обачи$^{л}$ василиска впосере$^{д}$ дороги лежачо$^{г}$ (Бельск., 182). – **Заражати, заражатися, заражаючий, зараженый (заражоный), зараженье, заразити, заразитися, заразливость, заразливый, позаражатися.**

**Заразъ** *зáраз, адразу:* гды взышло сл$^{н}$це зара$^{з}$ за сл$^{н}$цемъ обачиле$^{м}$ на небе кре$^{ст}$ (Дыяр., 151б). – **Заразомъ (зараземъ, заразэмъ)** *разам.*

**Заранокъ** *гл.* **раница**

**Заранятися** *гл.* **роняти**

**Зарастати, зарасти** *гл.* **заростi**

**Зардетися** *гл.* **рдетися**

**Зареветi** *гл.* **ревети**

**Зарезати** *зарэзаць:* корову бурую зарезали (АСД, I, 177, 1590). – **Зарезаный, зарезанье, зарезовати.**

**Зарекатися** *гл.* **заречися**

**Зарекновати** *прыняць рашэнне адносна чаго-н.:* на той другой копе вся копа зволившися заказали и зарекновали (АВК, XVIII, 10, 1582).

**Зарение** *гл.* **заря**

**Заренчный** *гл.* **ручити**

**Зарецкий** *гл.* **река**

**Заречися (заречи)** *зарачыся:* они покоръне заречися лжыво$^{и}$ науки обецали (Зб. 81, 106б). – **Зарекатися.**

**Заречье** *гл.* **река**

**Заричати** *гл.* **рыкъ**

**Заробити** 1) *зарабіць:* немного працовала але барзо много заробила (Зб. 752, 160); 2) *адпрацаваць:* за тую полкопы грошей ему заробил и не естем виненъ (АВК, XXXIX, 415, 1579); 3) *зрабіць:* ему дозволили заробити езъ на ловенье рыбъ на реце Пине (РПП, 283, 1552). – **Заробленый, заробленье (заробенье), зарабливаный, зарабливати, заробляньe, заробляти (зарабляти, зарабяти, заробяти), заробляючий, заробокъ (заробленое), незаробленый.**

**Заровноватися** *гл.* **ровный**

**Зародити** *урадзіць:* ему нива обфите зародила (Будны, 199). – **Зародитися** *узнікнуць,* **зародокъ, зарожатися, зароженый (зарожоный).**

**Зарокъ** *зарок:* панъ и ма$^{л}$жонка его милости... право заочне зароком змышленым в неведомости его перевели (АВК, XXXII, 135, 1596).

**Заронити** *гл.* **роняти**

**Зарости (зарасти)** *зарасці:* кгрунтъ лесомъ зарослъ (РПП, 127, 1555). – **Зарослeный, зарослина, зарослый, заросль (заростль, зарость), заросникъ, заростати (зарастати), заростити, зарощеный (зарощоный).**

**Зарубати** *гл.* **зарубити**

**Зарубежье** *гл.* **рубежъ**

**Зарубити** 1) *зрабіць зарубкі:* копец закопали и границы слушное у дереви зарубили (АВК, XXXVI, 333, 1582); 2) *заснаваць:* замокъ Свислочь зарубилъ (КСД, 129, 1518). – **Зарубаный, зарубанье, зарубати, зарубывати.**

**Зарука** *гл.* **ручити**

**Зарукавье** *гл.* **рукавъ**

**Зарумянитися** *гл.* **румяный**

**Зарутъ** *абвінавачванне, прэтэнзія:* зару$^{т}$ геретицки$^{й}$: не може$^{т}$ ч$^{л}$къ выкона$^{т}$ приказа$^{н}$я па$^{н}$ского (Зб. 261, 201).

**Заручити** *гл.* **ручити**

**Заручье** *гл.* **ручай**

**Зарушовати** *гл.* **рушити**

**Зарыти** *гл.* **рыти**

**Зарычати** *гл.* **рыкъ**

**Заря (зара, зора, зоря)** 1) *яркая афарбоўка гарызонта пры ўсходзе сонца:* пусти мене бо уже всходи$^{т}$ зоря (Бельск., 23б); 2) *час перад усходам сонца:* на заре пасли есьмо животину (АВК, XVII, 174, 1540). – **Зарение** *азарэнне,* **зореница (зорница, зоряница), зорный, зорухна, озаряти (озоряти).**

**Зарядъ (зарадъ)** 1) *дагавор:* я на томъ и зара$^{д}$ далъ и зако$^{н}$ку есмо положили (КВЗС, 50б, 1538); 2) *запас якіх-н. пачуццяў:* которые ходечи по месту людей соромотятъ… и заряживаютъ заряды великіе (АЗР, I, 362, 1505). – **Зарадно, зарядити, заряживати.**

**Засада** і **засадзка (засадка, засацка)** 1) *спосаб нечаканага нападу з укрыцця:* Кгедройть... хотечи того Волинского на смерть забити, засадку учинилъ (АВК, XX, 158, 1598); 2) *скрытае месца, якое выкарыстоўваецца для нечаканага нападу:* ужо на не$^{г}$ светополкъ также бы$^{л}$ направи$^{л}$ забо$^{й}$цо$^{в}$ з хитрои засады (Стрыйк., 454).

**Засадити** 1) *забяспечыць:* левыи рогъ засадилъ кгепидами (Атыла, 196); 2) *заняць, замясціць:* мае$^{т}$ злетити и засадити ме$^{ст}$цо его чл$^{в}$комъ добри$^{м}$ (Ст. 1566, 45); 3) *размясціць:* засадили сынове изра$^{й}$левы заса$^{д}$ку около места (Біблія, 135б). – **Засадитися, засажати, засаженый (засажоный), засаженье (засажэнье), засаживати (засажывати).**

**Засацка** *гл.* **засада**

**Засведетельствовати (засведительствовати, засвидетельствовати)** *засведчыць:* сведения его засведетельствовалъ (Скар. ЧЦ, 220б).

**Засвежа** *гл.* **свежий**

**Засветитися** *пачаць свяціцца:* огонь троха засвети$^{т}$ся (Зб. 82, 125б). – **Засвечати.**

**Засветла** *завідна:* засветла оустане$^{т}$ душогубъ оубье$^{т}$ оубогого (Зб. 262, 22б).

**Засвидетельствовати** *гл.* **засведетельствовати**

**Засвистати** *гл.* **свиснути**

**Засе** *гл.* **зася**

**Засевати** *гл.* **засеяти**

**Засегнути (засягнути)** 1) *здабыць:* ереси ари$^{й}$ нестори$^{й}$ и иныи зловерныи зася$^{г}$нули (Бельск., 245б); 2) *знайсці, узяць:* засегнувши енерала и возного… посламомъ ихъ былъ того жъ дня до росправы (АСД, I, 275, 1633). – **Засегати, засегненье, засегнутися.**

**Заседати, заседети** *гл.* **засести**

**Засеети** *гл.* **засеяти**

**Засеженье** *гл.* **засести**

**Засекати** *гл.* **засечи**

**Засекъ** *засек:* свиренъ старый... у середине засековъ два (АВК, VIII, 417, 1586).

**Засести** 1) *прыняць удзел у пасяджэнні:* судьи на суде засели (АВК, XXXVI, 163, 1582); 2) *заняць пасаду:* на местцы своемъ врядовымъ засести не хотелъ (ИЮМ, VII, 372, 1588); 3) *усесціся:* кроль на высокомъ и вынесломъ маестате заселъ (Варл., 231б); 4) *схавацца ў засадзе:* козаки в засаде засели (Стрыйк., 560); 5) *захапіць:* пришли немцы… и тую землю засели (Рач., 30б); 6) *пасяліцца:* ме$^{л}$ засе$^{ст}$ в дому за$^{м}$ковы$^{м}$ (Еўл., 49). –

**Заседаный, заседанье, заседати, заседаючий (заседаючый), заседелый, заседеный, заседенье (засеженье), заседети, заселость, заселый (заседлый), засестье, незаседанье, незаседенье.**

**Засечи** *засячы:* его… добытою шаблею засекъ (АВК, XVIII, 211, 1607). – **Засекати, засечъ** *запаведны лес.*

**Засеяти (засеети)** 1) *пасеяць:* на тыхъ земля$^{х}$ жито або ярыну засеялъ (КВС, 494б, 1552); 2) *заняць пасевамі:* то$^{л}$ко огороды были засеяли, а жита не починали (Барк., 165б). – **Засеваный, засеванье, засевати, засеваючий, засевокъ, засевъ, засеявший, засеян(н)ый (засеен(н)ый), засеянье (засеенье), засеятися, незасеяный (незасееный).**

**Засияти** *гл.* **сияти**

**Засклепити** *гл.* **склепъ**

**Заскоголити** *заскуголіць:* не заскоголи$^{т}$ песъ (Біблія, 119).

**Заскочити (заскочыти)** 1) *забегчы наперад:* заскочывъшы тры возы… одъ мосту до замку завернули (АВК, XX, 196, 1602); 2) *напасці знянацку:* другий раз не утечеш, заскочу дей тебе у тесном местцу (АВК, XXXI, 114, 1592); 3) *застаць:* мы его вчора и сегодня в дому его не заскочыли (ИЮМ, XXIV, 457, 1663). – **Заскочивати.**

**Засланецъ, засланый** *гл.* **заслати**

**Засланяти** *гл.* **заслонити**

**Заслати (взослати, зеслати, зослати, сослати, узослати)** 1) *заслаць:* его в такое ме$^{ст}$це засла$^{л}$ жебы в не$^{м}$ не моглъ жа$^{д}$ныхъ галасовъ робити (Дыяр., 174б); 2) *накіраваць:* комисаровъ певныхъ заслать тамъ будеть рачилъ (КПД, 531, 1569); 3) *наслаць:* на на$^{ш}$ до$^{м}$ по$^{м}$сту зосла$^{л}$ (Стрыйк., 621). – **Засланецъ, засланый (зесланый, зосланый, сосланый), засланье (засланье, зосланье, сосланье), засыланый (зесыланый), засыланье, засылати (зсылати, ссылати), зослатися (зслатися, сослатися), зсыланый, зсылатися (ссылатися), зсылка (ссылка), зсылочный (ссылочный), незсыланье.**

**Заслепити** *гл.* **слепый**

**Заслонити** 1) *засланіць:* Феодора убралася яко жо$^{л}$не$^{р}$ и тва$^{р}$ заслонивши ушла (Пралог, 583б); 2) *прыкрыць:* владыковъ о$^{т}$стоупныхъ... о$^{т}$ справе$^{д}$ливой ка$^{з}$ни схоронити і заслонити моглъ (Апакр., 51б). – **Засланяньеся, заслона (заслонъ), заслоненый, заслоненье, заслонитися, заслонка, заслоняти (засланяти), заслонятися (засланятися), заслоняючий (засланяючий).**

**Заслуга** 1) *заслуга:* мы господаръ… нигды не опущали вшелякое особы заслуги въ Речи посполитой (АВК, XXXVI, 168, 1582); 2) *служба:* кликуну Васюку за остатнюю чверть его заслуги заплатили (ИЮМ, I, 72, 1679). – **Заслугованый, заслугованье, заслуговати, заслуговатися, заслугуючий, заслуженое (заслужоное), заслуженый (заслужоный), заслужити (заслужыти), заслужитися, назаслуженший.**

**Заслышати** *гл.* **слыхати**

**Заслюбити** *гл.* **зашлюбити**

**Засмаковати** *гл.* **смакъ**

**Засмердетися** *гл.* **смердети**

**Засмеятися (засмеатися)** *засмяяцца:* засмеася в серъци своемъ (Скар. КБ, 30б).

**Засмородитися** *гл.* **смердети**

**Засмутити** *гл.* **смутокъ**

**Заснути (соснути)** 1) *заснуць:* вси вночи заснули (Пралог, 503б); 2) *памерці:* в покою засну$^{л}$, и похова$^{н}$ бы$^{л}$ (Зб. 752, 446). – **Засненье (-ние), заснувший (заснулый), засыпанье, засыпати.**

**Засовка** *засаўка:* у той светлочки окна простые, зъ засовками (АВК, XIV, 641, 1599). – **Засовистый (засовястый).**

**Засореный** *засмечаны:* домъ гноемъ и смродомъ засореный (Мак., 266).

**Засорометися** *гл.* **соромъ**

**Засоромотити (зосоромотити, зосромотити, зусоромотити)** *засарамаціць:* засоромоти$^{т}$ тебе другъ твои (Зб. 262, 106). – **Засромоченый (зесромоченый, зесромочоный, зосромоченый), зесромоченье (зесромоценье).**

**Заспа** *гл.* **засыпати[1]**

**Заспати** *гл.* **спати**

**Заспевати** *гл.* **пети**

**Заспети** 1) *паспець:* бежатъ што наскоре до пристаня абы то$^{л}$ко могли о$^{т}$ хвили заспети (Хран., 7); 2) *застаць:* коли кого исъ жонкою а$^{л}$бо с дочкою оу чоужоложстве а$^{л}$бо ouслаженью заспеетъ, не гневаетьсе (Валх., 84).

**Заспособити (запособити)** *забяспечыць:* живностью тотъ замокъ заспособити (АЗР, III, 105, 1559). – **Заспособленый (запособеный), заспособленье (запособенье).**

**Засрожыти** *гл.* **зсрожити**

**Засромоченый** *гл.* **засоромотити**

**Застава (зостава)** 1) *застава:* людемъ его къ городу въ заставу не ходити (РПП, 343, 1508); 2) *заклад, залог:* рокъ прошолъ, а онъ тое заставы въ мене не выкупилъ (АВК, XVII, 271, 1541); 3) *запруда:* зъ езы и заставы (Пін., 5, 1499). – **Заставечка, заставка, заставникъ (заставчикъ, зоставникъ), заставничка, заставный (зоставный).**

**Заставати** *гл.* **застати[1], зостати[1]**

**Заставити (зоставити)** 1) *пакінуць:* онъ тую зе$^{м}$лю заставилъ небо$^{ж}$чику брату (КВЗС, 27б, 1537); 2) *захаваць:* тое все въ целости зоставити маетъ (АЗР, III, 314, 1586); 3) *аддаць у заклад:* име$^{н}$е в суме пенезе$^{й}$ заставилъ (Ст. 1588, 48); 4) *перакрыць:* мают тую воду греблею або деревомъ заставити (СДГВ, 37, 1535). – **Заставитися (зоставитися), заставленый (заставеный, зоставленый), заставленье (заставенье, зоставленье), заставляный, заставляти (заставяти, зоставляти, зоставяти), заставлятися (заставятися, зоставлятися), заставляючийся, заставованый, заставованье (зоставованье), заставовати (зоставовати), заставоватися (зоставоватися), зоставуючий, незаставованый, незаставованье.**

**Заставка, заставникъ, заставчикъ** *гл.* **застава**

**Застановити (зостановити)** 1) *спыніць:* на чомъ тую речъ всхочете застановити (КПД, 7, 1538); 2) *расставіць:* застановили сила свои на сте$^{ж}$ка$^{х}$ мои$^{х}$ (Пс. XVII, 41б); 3) *устанавіць:* хотечи я порядокъ добрый застановити въ той церкви (АВК, III, 22, 1591). – **Застановитися (зостановитися), застановленый (застановеный, зостановеный, зостановленый), застановленье (застановенье, зостановенье, зостановленье), застановляти (зостановляти), застановлятися (застановятися), зостановяный.**

**Застаретися** *застарэць:* папежъ того своего позволенья нарушати не хотелъ… абы ся тое ярмо на насъ застарело (Апакр., 43). – **Застаралый (застарялый), застарати, застарелый (зостарелый).**

**Застати (зостати)[1]** 1) *застаць:* пана Томковича у селцу ани малжонки его не засталъ (АВК, XXXI, 232, 1595); 2) *заспець за якім-н. заняткам:* застали его были рубаючи дровы у гаи (АВК, XVII, 257, 1541). – **Заставати (зоставати), застаный (зостаный), застанье, застатый, застатье.**

**Застати[2]** *гл.* **зостати[1]**

**Застемповати, застемпъ** *гл.* **заступити**

**Застененье** *гл.* **застенокъ**

**Застение, застенити** *гл.* **тень**

**Застенокъ** і **застянокъ** *участак зямлі, не ахоплены валочнай пямерай:* при томъ же селе Засецкомъ застенокъ есть сеножатный (АВК, XIV, 208, 1580). – **Застененье, застенковый, застеночекъ.**

**Застепъ** *гл.* **заступити**

**Застеречи** *гл.* **стеречи**

**Застиженый, застичи** *гл.* **стигати**

**Застогнати** *гл.* **стогнати**

**Застолпникъ** *манах, які сочыць за парадкам у храме:* били намъ чоломъ… крылошане и застолпники и вся братья того манастыря (АЗР, III, 22, 1551).

**Застолье** *застолле:* онъ вставши застоля хотелъ прочь… пойти (АВАК, XXVI, 13, 1586).

**Застосованье** *гл.* **тосоватися**

**Застрашити (застрашыти)** *застрашыць:* не може то быти, пане, штоб ты мене людми застрашылъ (Трыст., 82). – **Застрашеный (застрашоный), застрашитися (застрашытися, зстрашитися).**

**Застрелити** *застрэліць:* коня по$^{д}$ нимъ застрелили (Барк., 154). – **Застреленый, застрелитися, застрелъ** *рана; падранак.*

**Застудити** *гл.* **студень**

**Заступати** *гл.* **заступити**

**Заступень** *гл.* **заступъ[1]**

**Заступити** 1) *засланіць:* его о$^{т}$ слонца заступи$^{л}$ (Бельск., 171б); 2) *загарадзіць дарогу:* заступивъши, стояли передъ воротами с кийми, не пустили его у дворъ (АВК, XXXI, 201, 1594); 3) *абараніць:* обвиненого в злоде$^{й}$стве передъ врядомъ заступилъ (Ст. 1588, 523); 4) *заняць:* земскую службу заступи$^{л}$ (Ст. 1529-Ф, 35). – **Заступати, заступленый (заступеный), заступленье (заступенье), заступникъ (заступца), заступница, заступованый, заступованье, заступовати (застемповати), заступокъ, заступъ (застемпъ, застепъ), незаступованье.**

**Заступъ[1]** і **заступень** *рыдлёўка:* заступы чотыри для роботы около брамъ (ИЮМ, I, 270, 1682). – **Заступовый.**

**Заступъ[2]** *гл.* **заступити**

**Застыдитися** *гл.* **завстыдити**

**Засть** *гл.* **защита**

**Застье** *гл.* **зайти**

**Застянокъ** *гл.* **застенокъ**

**Засудити** *гл.* **судъ[1]**

**Засунути** *закрыць:* греки вхо$^{д}$ и$^{м}$ ката$^{р}$гами засунувши замкнули (Стрыйк., 439).

**Засхлый** *гл.* **сохнути**

**Засчитный** *гл.* **защита**

**Засылати** *гл.* **заслати**

**Засыпати[1]** 1) *засыпаць:* засыпали яму (Біблія, 596); 2) *насыпаць:* греблю засыпалъ (АВК, VI, 232, 1619). – **Заспа, засыпаный, засыпанье, засыповати (засыпывати), засыповатися.**

**Засыпати[2]** *гл.* **заснути**

**Засыхати** *гл.* **сохнути**

**Зася (засе, зась)** 1) *а, але:* несподеване панъ се ве$^{р}$нулъ и хотелъ іти на поко$^{й}$ пани зась о$^{т}$волочала (Зб. 107, 156); 2) *зноў:* того$^{ж}$ часу скоро тотъ ро$^{з}$бо$^{й}$ на$^{м}$ ся ста$^{л}$ зася наза$^{д}$ до замъку побе$^{г}$ли (КВЗС, 34, 1538).

**Засягнути** *гл.* **засегнути**

**Затаити** *утаіць:* о$^{н}$ взя$^{в}$ши все похова$^{л}$ и затаити хоте$^{л}$ (Зб. 261, 204). – **Затаенне (затаено)** *тайна,* **затаеный, затаенье (-ние), затаиваный, затаитися, затаяти.**

**Затамовати** *гл.* **тамовати**

**Затарасовати** *загарадзіць:* двери келе$^{й}$ные затарасова$^{л}$ и тамъ чере$^{з}$ 12 летъ перемешковалъ (Зб. 107, 177). – **Затарасованый.**

**Затачатися** *гл.* **заточити**

**Затаяти** *гл.* **затаити**

**Затвердити** 1) *умацаваць:* по$^{д}$ самымъ берегомъ по$^{д}$копали а такъ гребли$^{ж}$ не затве$^{р}$дили (КВЗС, 154, 1540); 2) *зрабіць жорсткім, нячулым:* я затве$^{р}$жу се$^{р}$це его (Бельск., 43). – **Затвердевати, затверделость, затверделый, затверденье, затвердети, затвердетися, затверджовати, затвердитися, затвержати, затверженый, затверженье.**

**Затворити (затворыти)** 1) *зачыніць:* ворота монастырскіе затворити (ИЮМ, VII, 289, 1578); 2) *зняволіць:* затвори$^{л}$ са$^{м}$ себе добровольне (Зб. 255, 30). – **Затвореный (затвороный), затворенье (-ние), затворивый, затвористый, затворитися (затворытися), затворяти (затворати), затворъ, затворятися, затворяющийся, незатвороный, незатворяный.**

**Затегнути, затегъ** *гл.* **затягнути**

**Затеети** *задумаць:* затеели понесъти крестъ (Цяп., 41). – **Затетися.**

**Затекати, затекъ** *гл.* **затечи**

**Затемнети, затемняти** *гл.* **темный**

**Затемперованье** *гл.* **темперованье**

**Затенье, затенити** *гл.* **тень**

**Затерти (зотерти)** 1) *зацерці:* затерли сте$^{ж}$ку мою (Зб. 262, 24б); 2) *перан. загладзіць, затушаваць:* соромоту зацным яким учынком затерли (Атыла, 175). – **Затирати.**

**Затесати** *зрабіць зачос:* тесами и знаками свежыми на колкодесят бочок лесу затесал (АВК, XXX, 77, 1590). – **Затесаный, затесъ.**

**Затетися** *гл.* **затеети**

**Затечи** *ацячы:* ему видене затекло и посинело о$^{т}$ многих вдаров (Трыст., 36). – **Затекати, затекаючий, затекъ** *завадзь.*

**Затиканый** *гл.* **ткати**[1]

**Затимяти** *гл.* **тьма**

**Затинати** *гл.* **затяти**

**Затинщикъ** *спецыяліст па абслугоўванні гармат па-за замкам:* ознаймуем... пушкаремъ и затинщикомъ (АЗР, VI, 396, 1610).

**Затирати** *гл.* **затерти**

**Затишье (затишие)** *зацішша:* въ затишу живу (Зіз., 15). – **Затишный.**

**Заткати і заткнути (зоткнути)** 1) *заткнуць:* онъ мене заткавши уста шапкою... зкгвалтилъ (АСД, I, 316, 1640); 2) *насадзіць:* голову утятую на дре$^{в}$це зоткнули (Бельск., 295б). – **Затканый, затканье (-ние), заткатися, затыканый, затыканье, затыкати, затыкаючий, затычка (затыка).**

**Затлити** *гл.* **тлети**

**Затлумити** *гл.* **тлумити**

**Затмити** *гл.* **тьма**

**Зато** *таму:* троха ся было успокоило, зато была дана козакомъ лежа (Барк., 161б).

**Затока (затокъ)** і **затоня (затонъ)** *затока:* на той реце суть озера, тони и затоки (АВК, VI, 222, 1603).

**Затолочи** *закончыць, спыніць:* ты$^{ж}$ даниле затолочи оныи речи и запечатаи книгу до часу (Зб. 262, 126). – **Затолоченый (затолочоный).**

**Затонути** *гл.* **тонути**

**Затонъ, затоня** *гл.* **затока**

**Затопити** *гл.* **топити**[1]

**Затоптати** 1) *затаптаць:* выгналъ свою животину и тотъ сле$^{д}$ затопъталъ (КВЗС, 55, 1533); 2) *зняславіць:* имя божіе загасили або и затоптали (Будны, 184б). – **Затоптывати.**

**Затопяти** *гл.* **топити**[1]

**Заторгнутися** *гл.* **торгнути**

**Заторговати** *гл.* **торгъ**

**Заторжка** *сутычка, звада:* а$^{л}$кгимо$^{нт}$... ме$^{л}$ троха зато$^{р}$жки з давидо$^{м}$ мстиславовиче$^{м}$ князе$^{м}$ луцки$^{м}$ и бе$^{л}$ски$^{м}$ о границу (Стрыйк., 523).

**Заточити** 1) *зняволіць:* заточи$^{л}$ еси и$^{х}$ та$^{м}$ за проступку (Зб. 262, 123); 2) *размясціць:* наши обозъ заточили… по$^{д}$ хотине$^{м}$ (Хр. п., 16б); 3) *распачаць:* татарове… гра$^{д}$ железны$^{й}$ з луко$^{в}$ на литву густо пустили заточи$^{в}$ши та$^{н}$цы (Стрыйк., 541). – **Затачатися, заточенье (-ние), заточоный (заточеный).**

**Затрава** *гарматны запал:* полотна купили на ворки до затравы локтей шесть (ИЮМ, III, 134, 1684).

**Затравити** *зацкаваць:* Иванъ двухъ псовъ моихъ хортами своими затравилъ (АВК, XVII, 385, 1541). – **Затравенье.**

**Затратити** *гл.* **тратити**

**Затрвожити (затривожити, затрывожыти)** *устрывожыць:* жалемъ моимъ не хочу затрвожити (Каліст, I, 157). – **Затрвожаючий, затрвоженый (затрвожоный, затривожоный, затрывожоный), затрвоженье (затривоженье, затрывоженье), затрвоженьеся, затрвожитися (затревожитися, затривожитися, затрывожитися).**

**Затрентвенье** *гл.* **здрентвети**

**Затрести** *гл.* **затрясти**

**Затривожити** *гл.* **затрвожити**

**Затримати (затрымати)** 1) *затрымаць:* затрымалъ дей его… в томъ дому (АВК, XX, 218, 1610); 2) *пакінуць у сябе:* поборцове квиты при собе затримали (ИЮМ, VIII, 111, 1691); 3) *арыштаваць:* помочника его въ секвестре затримати казали (АСД, I, 314, 1640). – **Затриманый (затрыманый), затриманье (затрыманье), затриматися, затримовати (затрымовати), затримоватися (затрымоватися), затрымованый, затрымованье.**

**Затрохи** *гл.* **троха**

**Затрубити** *гл.* **труба**

**Затруднити** 1) *ускладніць:* доброе дело затруднили (АЗР, IV, 471, 1615); 2) *зрабіць цяжкім для разумення:* вершъ дивне затруднили (Выкл., 129б). – **Затрудненый, затрудненье (-ние), затруднивати, затруднитися, затрудняти, затруднятися.**

**Затручати** *гл.* **тручати**

**Затрывожыти** *гл.* **затрвожити**

**Затрымати** *гл.* **затримати**

**Затрясти (затрести)** *затрэсці:* затряслъ чотырма оуглами дому (Хран., 56). – **Затрясненье (затресенье), затряснути, затрястися (затрестися).**

**Затужитися, затужливый** *гл.* **туга**

**Затулити** *закрыць, заткнуць:* оуста рукою затули, хвалечи такіе речи (Варл., 287). – **Затула** *заслон,* **затуляти.**

**Затурбовати** *гл.* **турбовати**

**Затхлина** *затхласць:* были бы домы твои высокого будованья, велики$^{х}$ око$^{н}$... дабы с$^{л}$нце входило в ни$^{х}$ и владело бы затхлинами (Арыст., 218).

**Затыкати** *гл.* **заткати**

**Затылокъ** *адваротны бок дакумента:* в затылку напис возного... же тот лист подано Тишкевичу (АВК, XXX, 317, 1606). – **Затылковый.**

**Затымъ** 1) *потым:* о тую речъ мовити не хотелъ а затымъ и самъ отъселя поехалъ (КВЗС, 62, 1533); 2) *таму:* они безъ зброи были, заты$^{м}$ ихъ много поби$^{л}$ (Алекс. 1697, 18б); 3) *апрача таго:* гридня старая съ примномъ, затымъ хлевы (АВК, XIV, 201, 1580).

**Затынити** *гл.* **тынъ**

**Затычка** *гл.* **заткати**

**Затягнути (затегнути)** 1) *запрасіць:* затягнулъ собе на помочь людей свецкихъ (АСД, II, 137, 1667); 2) *выцягнуць:* затягнули мно$^{з}$ство рыбъ... же ажъ и се$^{т}$ о$^{б}$тяжона падала (Каліст, II, 105). – **Затягати (затегати), затягатися, затягненый, затягненье, затягнутися (затегнутися), затягнутый, затягъ (затегъ)** *спрэчка,* **позатегати.**

**Затяти** *сцебануць:* коня биче$^{м}$ затя$^{л}$ (Стрыйк., 547б). – **Затинати.**

**Зауголье** *гл.* **уголъ**

**Заудячно** *гл.* **вдячный**

**Заужати** *гл.* **узкий**

**Заулокъ (завулокъ, загулокъ)** *завулак:* нихто конопель по заулкамъ не смелъ куповать (ИЮМ, VII, 341, 1582). – **Заулковый.**

**Заумерлина, заумерлый** *гл.* **умерети**

**Заутра** *гл.* **завтра**

**Заутрня** *гл.* **завтреня**

**Зауфанье** *давер'е:* зауфанье маетъ и ласку на себе отъ турецкого царя (АЗР, II, 346, 1538).

**Заушие, заушница** *гл.* **ухо**

**Зафаленый** *гл.* **хвала**

**Зафиценье** *гл.* **захвиценье**

**Зафрасовати** *гл.* **фрасовати**

**Зафрымарчоный** *гл.* **фримаркъ**

**Зафъянъ** *гл.* **сафъянъ**

**Захваленый** *гл.* **хвала**

**Захватити** 1) *захапіць:* локе$^{т}$ка мало живо не захватили (Хр. п., 10б); 2) *схапіць:* за волосы, за бороду, где хто моглъ захватити то$^{р}$гали (Пралог, 556б); 3) *завалодаць:* мене не захватила злость (Хран., 31б). – **Захваченый.**

**Захвеятися** *гл.* **хвияти**

**Захвиценье (зафиценье, захвиченье)** 1) *захапленне:* обачилъ в захвиценю столъпъ о$^{г}$нисты$^{й}$ (Зб. 259, 518); 2) *непрытомнасць:* былэ$^{м}$ в зафицэню ше$^{ст}$ кгоди$^{н}$ (Еўл., 48). – **Захвицоный (зафицоный).**

**Захвиятися** *гл.* **хвияти**

**Захворати** *гл.* **хорети**

**Захлипати** *гл.* **хлипати**

**Захмаритися** *гл.* **хмара**

**Заховати** 1) *зберагчы:* мелъ то все до летъ моихъ в целости заховати (КВЗС, 15б, 1537); 2) *уратаваць:* место моцю и мужствомъ своим заховать могли (Атыла, 224); 3) *схаваць:* мають тые книги вложи$^{т}$ и заховати въ скриню (Ст. 1566, 46). – **Незахованьеся, заховалость, заховалый, захованый, захованье, захователь, захgiватися, заховающийся, заховуючий, заховуючийся, заховываный, заховыватель, заховывати (заховововати), заховыватися (захововатися), заховывачъ.**

**Заходити** *гл.* **зайти**

**Заходъ**[1] 1) *апусканне сонца за лінію гарызонту:* вжо по заходе слонца вола моего... шукалъ (АВК, XVIII, 351, 1646); 2) *напрамак, процілеглы ўсходу; краіны, размешчаныя ў гэтым напрамку:* всхо$^{д}$ и захо$^{д}$ по$^{л}$ночъ и полу$^{д}$не мне служа$^{т}$ (Алекс., 43б). – **Заходний (заходный), заходникъ.**

**Заходъ**[2] 1) *уваход:* клеймо… въ той сосне давное… заходу продковъ (АВК, XVIII, 102, 1592); 2) *заняпад:* обачи$^{л}$ всхо$^{д}$ и захо$^{д}$ чотыро$^{х}$ пре$^{д}$не$^{й}$ши$^{х}$ куроле$^{в}$ствъ (Бельск., 10б); 3) *прыбіральня:* копали въ турме яму на заходъ (ИЮМ, IX, 159, 1692). – **Заходца.**

**Захоженье, захожий** *гл.* **зайти**

**Захопити** *гл.* **хопити**

**Захорети** *гл.* **хорети**

**Захотети** *гл.* **хотети**

**Захцыкъ (захтикъ, захцикъ)** *капа (шэсцьдзясят штук):* ва$^{н}$чу$^{с}$ купи$^{л}$ у него два захцика (ПГ, II, 88, 1480).

**Зацвисти** *гл.* **квитнути**

**Зацепка** *гл.* **чепити**

**Зацный** 1) *сумленны; паважаны:* зацные земяне того повету... печати свои приложили (АСД, I, 6, 1507); 2) *цудоўны, прыгожы; каштоўны:* шляхе$^{ц}$кое прироже$^{н}$е е$^{ст}$ крушецъ ба$^{р}$зо за$^{ц}$ны$^{й}$ (Зб. 259, 438). – **Зацне, зацней, зацнейший, зацность, на(й)зацнейший, презацный.**

**Зачало** *гл.* **зачати**

**Зачапати** *гл.* **чепити**

**Зачаровати** *гл.* **чары**

**Зачасу** *гл.* **часъ**

**Зачати (зачети)** 1) *пачаць:* предсевзятье в томъ дому зачати и кончити могъ (АВК, XX, 18, 1568); 2) *заснаваць:* того жъ часу ту$^{р}$цы короле$^{в}$ство свое зачали (Бер. саб., 41б); 3) *зацяжарыць:* кгды зачала ага$^{р}$ заго$^{р}$дела панею (Бельск., 17). – **Зачателница, зачатися (зачетися), зачатокъ (зачало), зачатый, зачатье (зачатие), зачинанье, зачинати (зачынати), зачинатися (завщинатися, зачынатися), зачинаючий, зачинаючийся, зачынаный.**

**Зачепити** *гл.* **чепити**

**Зачервенетися** *гл.* **чирвоный**

**Зачернелый** *гл.* **черный**

**Зачети** *гл.* **зачати**

**Зачимъ (зачымъ)** 1) *таму:* копии с позву не дал, зачым тая справа… сужона не была (АВК, XXXII, 15, 1596); 2) *пасля чаго:* скаржитъ теперешняя акторка, зачимъ и сама вызнаваетъ (АВК, XII, 453, 1662). – **Зачъ.**

**Зачинати** *гл.* **зачати**

**Зачинити (зачынити)** 1) *зачыніць:* онъ ворота замкнулъ и зачинилъ (АВК, VI, 49, 1589); 2) *пакінуць у памяшканні, замкнуўшы дзверы:* зачинивши мя у клеть, взялъ трое

челяди (КСД, 350, 1516); 3) *залапіць:* диру по той шкоде зачинить казала (АВК, XVIII, 190, 1630); 4) *учыніць:* речъ злосливую зачинили противко мне (Выкл., 121б). – **Зачиненый (зачыненый), зачинитися (зачынитися), зачинянье, зачиняти (зачыняти).**

**Зачиханье** *гл.* **чхнути**

**Зачопити, зачопка** *гл.* **чепити**

**Зачъ, зачымъ** *гл.* **зачимъ**

**Зачынати** *гл.* **зачати**

**Зачынити** *гл.* **зачинити**

**Зашанцовати** *умацаваць:* греки тую диру всю заправили, и забудовали, и делами своими оную зашанцовали (Бельск., 388).

**Зашестье** *гл.* **зайти**

**Зашивати** *гл.* **зашити**

**Зашиекъ** *гл.* **шия**

**Зашикование** *здзек:* поча$^{л}$ премышляти… зашикованіе посмеваніе (Пак. Хр., 8).

**Зашити (зашыти)** *зашыць:* хризанта нагого во оно$^{й}$ шкури зашили (Пралог, 530). – **Зашивати, зашитый (зашытый).**

**Зашкодити** 1) *зашкодзіць:* житу сухость была ве$^{л}$ми зашкодила (Барк., 169); 2) *перашкодзіць:* кро$^{л}$ поча$^{л}$ знову промышляти около во$^{й}$ны… але внутрныи ту$^{р}$неи зашкодили (Стрыйк., 597б). – **Зашкода, зашкодивати, зашкодный (зушкодный), зашкоженый (зашкожоный), зашкоженье, зашкоживати (зашкожовати).**

**Зашлый** *гл.* **зайти**

**Зашлюбити (заслюбити)** *заручыць:* сыну своему заслюбилъ ее (Скар. КВ, 39). – **Зашлюбеный (заслюбеный).**

**Зашперованый** *гл.* **шперовати**

**Зашпунтовати** *шчыльна закрыць:* кости кня$^{ж}$ии… в труне зашпунтова$^{в}$ши в землю на то$^{м}$ же местцу поховали (Стрыйк., 539б).

**Зашстье** *гл.* **зайти**

**Заштурмовывати** *гл.* **штурмъ**

**Заштье** *гл.* **зайти**

**Зашумети** *гл.* **шумъ**

**Зашыекъ** *гл.* **шия**

**Зашыти** *гл.* **зашити**

**Защепитися** *зашчапіцца:* утекла до избы и тамъ се защепила (АВК, XXII, 206, 1566). – **Защепати, защепка (защница), защепленье, защеплянье.**

**Защита і засть** *абарона:* вдова$^{м}$ и сирота$^{м}$ и бедны$^{м}$ оборонцами и защитою бу$^{д}$те (Зб. 82, 348). – **Защитеный (защичоный, защытеный), защититель, защитити (защытити), защититися, защитникъ, защитный (засчитный), защичати (защитяти, защищати), защиченье (защитение).**

**Защница** *гл.* **защепитися**

**Заюшити** *раз'юшыць:* слоно$^{м}$ указовали кро$^{в}$ ягодъ винныхъ и мо$^{р}$вы, абы ихъ заюшили ку битве (Кн. Мак., 57). – **Заюшитися, заюшоный.**

**Заявити** *заявіць:* ратманы... заявили ему (АВК, III, 6, 1500).

**Заядлый** *заядлы:* се$^{р}$це е$^{ст}$ зая$^{д}$лое (Зб. 261, 111б).

**Заядовититися** *раз'юшыцца:* на них заядовитившыся гледел (Атыла, 222).

**Заякливый** *гл.* **заикатися**

**Заяснети** *гл.* **ясный**

**Злодей** і **злодеецъ** 1) *злодзей:* то$^{т}$ са$^{м}$ злоде$^{й}$ маеть кара$^{н}$ быти которы$^{й}$ кра$^{л}$ (Ст. 1566 I, 114); 2) *ліхадзей:* покуль то$^{т}$ злодеи старыи буде жыв, не можемъ о$^{т}$ него впокоя мети (Бава, 133). – **Злодеевъ, злодейка (злодейница), злодейский, злодейство, злодеяние, озлодеити, по злодейску.**

**Злое** *гл.* **злый**

**Зложити (зложыти, изложити, исложити, сложити)** 1) *пакласці:* если бы хто в кого зложилъ… въ яко$^{м}$ схова$^{н}$ю рэчы свои (Ст. 1566, 85); 2) *вызначыць:* мают$^{т}$ его судьи листомъ обослати и рокъ зложити (Ст. 1566 I, 73б); 3) *склікаць:* митрополитъ соборъ зложилъ (Бер. саб., 9б); 4) *зняць:* его з патрия$^{р}$шества зложили (Пралог, 525б); 5) *стварыць:* вершыкъ то$^{и}$ зложилъ для потехи брата (Зб. 81, 165). – **Зложеный (зложоный, сложеный, сложоный), зложенье (зложение, изложенье, сложение, сложенье), зложитися (зложытися), слагати.**

**Злоименство (злоимство)** і **злоимание** *наяўнасць злога, нядобрага:* ведлугъ Арістотеля злоименство злаа природа (Бяр., 57).

**Злоимышление** *гл.* **зломыслие**

**Злоинравный** *гл.* **злонравие**

**Злоисердие** *гл.* **злосердие**

**Злокупство** *нядобрасумленная купля:* кара$^{л}$ его… о тое злокупъство (Зб. 82, 143б).

**Злолайца** *блюзнер, брыдкаслоў:* ни татие, ни пианици, ни злолайци, ни хищници цр$^{с}$твіа божіа не наследять (Будны, 96б–97).

**Зломати (зламати, изламати, сламати, сломати)** і **зломити (зламити, изломити, сломити)** 1) *зламаць:* ногу былъ зламалъ (ИЮМ, IX, 37, 1692); 2) *парушыць:* тую границу зломалъ и иначей ее положилъ (КСД, 185, 1514). – **Зломаный (зламаный), зломанье (зламанье), зломатися (зламатися, зломитися, изламатися, изломитися, сломитися), зломленый (изломленый), зломленье (зломенье), зломокъ, незломаный, позламовати.**

**Зломыслие (злоумыслие)** і **злоимышление** *зламыснасць:* у вельми великое зломыслие зашли (Скар. КЕ, 24). – **Зломысленикъ, зломысленый (зломышленый).**

**Злоначалный (злуначалный)** *які паклаў пачатак злу:* злонача$^{л}$ный непріатель нашъ діаволъ смыслы наше якъ рыбы лови$^{т}$ (Каліст, II, 9б).

**Злоногий** *які мае хворыя ногі:* злоногъ, глоу$^{х}$ слепъ будеть (Неба, 88).

**Злонравие** *злы нораў:* хребе$^{т}$ нахилыи и грубыи оуказуеть на злонравіе (Арыст., 178). – **Злонравный (злоинравный, злоноровный).**

**Злообразный** *брыдкі, агідны:* аще родится злообразно будеть (Неба, 86б). – **Злообразоватися.**

**Злопитатель** *той, хто робіць зло:* Даміанъ: злопитате$^{л}$ (Бяр., 265).

**Злополученье** *бяда, няшчасце:* Печаль: ... злополуче$^{н}$е (Бяр., 103).

**Злопомнити (злопомнети)** *памятаць зло:* за вшелякую несправедливость, которая васъ о$^{т}$ ближни$^{х}$ обходи$^{т}$, не злопомните (Каліст, I, 31б). – **Злопомнение, злопомнивый, злопомнительный, злоупоминание (злувспоминание), незлопомнение.**

**Злопочтивый** *недастойны:* патріа$^{р}$шества его Іустиния$^{н}$ цеса$^{р}$ о$^{т}$ злопочтивого Феодора кесари$^{й}$ского епископа оригенисты... былъ зведены$^{й}$ (Пралог, 584б).

**Злопрелестный** *спакуслівы:* злопрелестный врокъ души и телу (ИЮМ, VIII, 258, 1600).

**Злопьянчивый** *які п'янствуе:* всего бо злее жена злопьяньчива (Чэцця, 271б).

**Злоречити (злоречыти)** *гаварыць нядобрае:* его вси проклинали и злоречили (Хр. п., 9б). – **Злоречачий (-ащий), злореченство (злоречество), злореченый (злоречоный), злореченье (-ние), злоречие, незлореченство, озлоречити.**

**Злосердие (злоисердие)** і **злосердство** *бязлітаснасць:* не уподобится ему злосердие его (Скар. КІ, 32). – **Злосердей, злосердый.**

**Злославникъ** *ерэтык:* злославници оныи по$^{р}$вавши епископа с$^{т}$го вкинули в реку (Пралог, 562б).

**Злосливый** *гл.* **злость**

**Злословити** *злясловіць:* которій злословить о$^{т}$ца або матку, смертью нехай умреть (Цяп., 20б). – **Злослововати, злословый.**

**Злосмелый** *дзёрзкі:* мужа ганить жена злосмелая (Скар. ІС, 35). – **Злосмеле, злосмелость.**

**Злосникъ** *гл.* **злость**

**Злострастный** *журботны:* аще родится… злострастенъ будетъ (Неба, 24б).

**Злость** 1) *злосць:* злость и неправость увесъде объфитуеть (Унія, 44); 2) *варожасць:* з злости людское тот замок Крычевский огнем згорел (АВК, XXXIV, 268, 1663). – **Злосливе (злосливо, злостиве), злосливецъ, злосливший, злосливый (злостивый, злостливый), злосниковъ, злосникъ (злостникъ), злостный, на(й)злосливший, найзлоснейший, презлостивый.**

**Злостьчынность** *гл.* **злочинецъ**

**Злосчастие** *няшчасце:* злосчастіе межи ими (Неба, 72б). – **Злочасница, злочастный.**

**Злотаръ** *гл.* **золото**

**Злотворецъ** *той, хто робіць зло:* разоря$^{й}$ся яко... злотворе$^{ц}$ и діаволу другъ (Дыяр., 154). – **Злотворящий.**

**Злотникъ, злото** *гл.* **золото**

**Злотовидный** *падобны на золата:* то злотовидное с$^{л}$нце мени$^{т}$ (Каз. Кір., 149).

**Злотоглавъ** *гл.* **золотоглавъ**

**Злотолюбивый** *гл.* **златолюбство**

**Злотоустый** *гл.* **златоустый**

**Злотый** *гл.* **золото**

**Злоумыслие** *гл.* **зломыслие**

**Злоупоминание** *гл.* **злопомнити**

**Злохитрый** *каварны:* если жъ мысли и оучинкомъ выполнитъ, тогды его злохитрый діаволъ губитъ (Каліст, II, 237).

**Злохуление** *знеслаўленне:* Гажденіе: злохуленіе, ганба, нагаба$^{н}$е (Бяр., 27).

**Злоценье** *гл.* **золото**

**Злочасница, злочастный** *гл.* **злосчастие**

**Злоченье** *гл.* **золото**

**Злочестивый** і **дозлочестивый** *зламысны:* злочестивы$^{й}$ ары$^{й}$... многи$^{х}$ ересю заражати поча$^{л}$ (Бельск., 250б).

**Злочинецъ (злочынецъ)** і **злочинца (злочынца)** *злачынец:* злочинецъ утекъ (ИЮМ, IX, 308, 1637). – **Злочинность (злостьчынность), злочинство (злочынство).**

**Злувспоминание** *гл.* **злопомнити**

**Злуначалный** *гл.* **злоначалный**

**Злупити** і **злупежити** 1) *зняць, здзерці:* злупили зъ него фарезыю (АСД, III, 104, 1631); 2) *абрабаваць:* провинцые внивеч обернули, подъданых злупили (Зб. 259, 203). – **Злупенье, злупитель, злупленый (злупеный), злупляти, злуповати.**

**Злучити (злучыти, случити)** 1) *злучыць:* докапа$^{в}$шысе до оны$^{х}$ рекъ злучыли и$^{х}$ в о$^{д}$но место (Зб. 82, 8); 2) *аб'яднаць:* земли... оные злучити умыслили (Прыв., 108б);

3) *згуртаваць:* всехъ злучити и въ згоде мети хотячи (Каліст, II, 112). – **Злутьца, злучати, злучатися (случатися), злучаючий, злучаючийся (случающийся), злученый (злучоный, слученый, случоный), злученье (злучение, случение, слученье), злученьеся, злучившийся (случившийся), злучитися (злучытися, случитися).**

**Злый** 1) *злы:* почалъ… здоровье свое одъ тыхъ злыхъ людей... уносить (ИЮМ, XXII, 357, 1647); 2) *нядобры:* злый прикладъ другимъ зъ себе давалъ (АЮЗР, II, 51, 1609); 3) *няякасны:* за злымъ побудованьемъ того спусту вся вода... обернуласе на тые сажавки (АВК, XX, 170, 1601); 4) *моцны па сіле праяўлення:* того жъ року была зима злая (Барк., 164б). – **Безлобивый, зле, злей (злее), злейший, зло, злоба, злобестница, злобивый, злобитися, злобление, злобный, зловати, злое, озлобити, озлобление, озлоблети, озлоблятися, презлый, розозлитися.**

**Злюбити, злюбъ** *гл.* **шлюбъ**

**Злютоватися** *гл.* **литость**

**Злякнутися** *гл.* **злекнутися**

**Змагати** *гл.* **змочи**

**Змаза** 1) *бруд:* сукни змазъ те$^{р}$пети не можете (Зб. 259, 530); 2) *загана:* привели до тебе корову… в которой бы не было змазы жадной (Хран., 139б); 3) *знявага:* доброе славы змаза поровнается… зо стратою здоровья (АСД, VI, 118, 1608). – **Змазаный (измазаный), змазанье (-ние), змазати, змазатися, змазыватися, незмазаный.**

**Змалити, змалу** *гл.* **малый**

**Зманити** *склікаць:* се$^{м}$ кроло$^{в}$ зманити и прилучити мае$^{т}$ (Каз. Кір., 58).

**Змарагдъ** *гл.* **смарагдъ**

**Змарлый** *гл.* **мертвый**

**Змарнелый** *змучаны:* будучы ба$^{р}$зо змарънелы$^{и}$… уда$^{л}$ся до покуты (Зб. 81, 2).

**Змартвыхвстанье** *гл.* **змертвыхвстанье**

**Змацняти** *гл.* **змоцнити**

**Змегчати** *гл.* **змякчити**

**Змежи** *гл.* **межи**

**Змей (змий) і змея (змия)** 1) *змей, змяя:* Змій: оужъ, гадина, змія, змій (Бяр., 46); 2) *д'ябал у вобразе змея-спакусніка:* звитяжи$^{л}$ то$^{г}$ змия, котори$^{й}$ тя зводи$^{л}$ на скверны$^{й}$ учино$^{к}$ (Бельск., 361–361б); 3) *ідал у выглядзе змея:* бальваны губили, такъ иже и оного змея медяного (Будны, 16). – **Змеевъ (змеевый, змиевъ), змииный.**

**Змекчити** *гл.* **змякчити**

**Змелити** *гл.* **молоти**

**Змена (измена, смена)** 1) *змена:* подлугъ часовъ розны$^{х}$… учинки чл$^{в}$чи и змены (Вісл., 9б); 2) *замена:* въ томъ же именью… волокъ три змены (АСД, I, 8, 1508); 3) *упамінанне:* учыни$^{л}$ змену о Аэцыусе (Атыла, 185); 4) *здрада:* за изменами людей до панованья… звыкли припадать (АЗР, IV, 269, 1608). – **Змененый (из-), змененье (из-), зменити (из-), зменитися (из-), зменка (взменка, взмянка)** *упамінанне,* **зменковати (змянковати), зменковатися (змянковатися), зменкуючий, зменникъ (из-), зменничий (из-), зменництво, зменяный, зменяти (из-), зменятися (из-), зменяючий (изменяющий), зменяючийся (изменяющийся), незмененый (неизмененый), незмененье, незменный, посменный, преизменити.**

**Зменшити (зменьшити) і змнейшити** *зменшыць:* верности своее противко намъ господару не зменшите (КПД, 649, 1563). – **Зменшаный, змен(ь)шати (змнейшати), зменьшатися, змен(ь)шеный (зменшоный, змнейшоный), змен(ь)шенье (змнейшенье, изменьшение), змен(ь)шиваный, змен(ь)шивати, змен(ь)шиватися, змен(ь)шитися.**

**Зменяти** *гл.* **змена**

**Змерзнути** *гл.* **мерзнути**

**Змерити (змерыти, измерити, смерити, смерыти)** 1) *змераць:* неподобна члвку... высоту нбсную змерити (Карп., 26б); 2) *намерыцца:* весь зо всимъ до того целю змерилъ (Мак., 82). – **Змереный (змероный, измеренный), змеренье, змеряный, змеряти (змерати, измерати), змеряючий, незмероный (неизмереный), смеритися.**

**Змеркнути (замеркнути)** *змеркнуць:* скоро бы змерркло мел быт всажон до везеня (Бельск., 372б). – **Змерканье (смерканье, сумерканье), змеркатися (смеркатися), змеркненье, змеркнутися (смеркнутися), незмеркаючий, незмеркаючийся, смеркъ (сумеркъ, сумракъ).**

**Змерковати** *гл.* **мерковати**

**Змерлый, змертвети** *гл.* **мертвый**

**Змертвыхвстанье (змартвыхвстанье)** *уваскрашэнне:* воскрсніе... значитъ змертвыхвстане (Выкл., 103б). – **Змертвыхвсталый.**

**Змерти** *гл.* **мертвый**

**Змерыти, змеряти** *гл.* **змерити**

**Зместити (изместити)** *змясціць:* светъ не моглъ бы зместити книг, которые бы ся написат могли (Варл., 64). – **Зместитися, змещати, змещатися.**

**Зметати (змятати, изметати, сметати)** 1) *знесці:* тыи вси домы велели есмо им зметати (СДГВ, 19, 1505); 2) *прагнаць:* казалъ... исъ своее властъное земъли того чоловека зметати (КВЗС, 164б, 1540); 3) *скласці:* я тое сено зметалъ подъ твоими вороты (КСД, 360, 1516); 4) *змятаць:* крохи з стола их змятала (Зб. 107, 118б). – **Зметаный, зметанье, зметовати (зметывати, изметовати).**

**Змешати (смешати)** *змяшаць:* кубок трутизны кождому з них подавала пит з вином змешавши (Стрыйк., 603б). – **Змешаный (измешаный, смешаный), змешанье (смешание), змешатися (измешатися, смешатися), змешеный (измешеный, смешеный), змешенье (смешение), змешовати, незмешаный, несмешанно (несмешенно), смесити (исмесити), смеситися, смешиватися.**

**Змешкати** *гл.* **мешкати**

**Змещати** *гл.* **зместити**

**Змея** *гл.* **змей**

**Змизати** *знікаць:* потомъ и ангелъ божии змизалъ от очию его (Скар. КС, 15).

**Змий** *гл.* **змей**

**Змиловатися (смиловатися)** *злітавацца:* змилуйтесе надо мною (ИЮМ, XXIII, 413, 1623). – **Змилованье (смилованье), змилованьеся.**

**Змирати** *гл.* **мертвый**

**Змирити, змиритися** *гл.* **миръ²**

**Змирна** *гл.* **смирна**

**Змия** *гл.* **змей**

**Змлада** *гл.* **молодый**

**Змлелый** *гл.* **мдлый**

**Змнейшати** *гл.* **менший**

**Змовити (измовити, измолвити, смолвити)** 1) *вымавіць:* то змовившы оборотился до дитяти (Зб. 752, 422б); 2) *дамовіцца:* змовилъ косцовъ самъ п. райца на Луполове косить (ИЮМ, XXI, 36, 1711); 3) *заручыць:* змовили и дали за него внуку свою (КЗ, 789, 1499). – **Змова (змолва, зымова, смолва), змовины, змовитися (змолвитися, смолви-**

**тися), змовленый (змовеный), змовленье (змовенье, смовенье, смовление), змовляти (смолвяти), змовлятися (змовятися), змовный, змовца, незмовный, смолвка.**

**Змога, змогчи** *гл.* **змочи**

**Зможжити (змощити)** *знішчыць, зруйнаваць:* сотру твою моцъ и голову а зможжу твое наиграва[н]е (Зб. 81, 48).

**Зможность** *гл.* **змочи**

**Змокнути** *гл.* **мокнути**

**Змолва, змолвитися** *гл.* **змовити**

**Змолоду (змолода, измолода, измолоду)** і **змлада (измлада)** *змоладу:* еще змолоду вина не пиялъ (Зб. 752, 441б).

**Змолоти** *гл.* **молоти**

**Змолотити, змолоченый** *гл.* **молотити**

**Змолчати** *гл.* **молчати**

**Змарати** *гл.* **зморити**

**Зморгованый** *гл.* **моркгъ**

**Змордовати** *гл.* **мордовати**

**Зморити (зморыти)** *змарыць, змучыць:* прагнене[м] тебе змору (Зб. 82, 92б). – **Зморати (зморяти), зморeный (змороный), зморенье.**

**Зморкговати** *гл.* **моркгъ**

**Зморщитися** *гл.* **морщити**

**Зморыти** *гл.* **зморити**

**Змоцнити** 1) *пацвердзіць:* копъляне первшый судъ свой змоцнили (АВК, XVIII, 189, 1602); 2) *падмацаваць:* вера весь светъ змоцнила (Каліст, I, 42); 3) *змацаваць:* каза[л] мо[ст]… змоцни[т] добре гвоздъми (Алекс., 14б). – **Змоцненый, змоцненье, змоцненьеся, змоцнитися (взмоцнитися), змоцняный, змоцняти (змацняти), змоцнятися (змацнятися), змоцняючий.**

**Змочати** *гл.* **змочити**

**Змочи (змогчи, измочи)** 1) *змагчы:* не змогла оферовать баранка (Хран., 119б); 2) *перамагчы:* Мощи: здужати, змочи (Бяр., 81). – **Змога, змогати (змагати, измагати), змогатися (змагатися), зможненьеся, зможность, змочися (змогчися), изможенье.**

**Змочити (смочити)** *змачыць:* взялъ Азагель коверъ и змочивъ у воде (Скар. ЧЦ, 201). – **Змочаный, змочати, змоченый (змочоный, смоченый), змочитися (змочытися), незмоченый, смочивати.**

**Змощити** *гл.* **зможжити**

**Змрокъ** 1) *змрок:* гумно… почало гореть у вечоръ на змроку (АВК, XVIII, 363, 1647); 2) *перан. пагасанне:* не въступуйте кроку до остатнего тху духа, очій змроку (Лям., 25).

**Змружати** *гл.* **мружити**

**Змуленый, змулитися** *гл.* **мулетина**

**Змуровати** *гл.* **муровати**

**Змучити (змучыти, измучити)** *змучыць:* далъ кату его змучити (АВК, XVIII, 298, 1629). – **Змученый (змучоный), змученье, змучитися.**

**Змушокъ** *гл.* **смушокъ**

**Змывати** *гл.* **мыти**

**Змылити** 1) *памыліцца:* светокъ въ томъ сведоцстве змылилъ, не такъ светчылъ (АВК, XVII, 237, 1540); 2) *прамахнуцца:* боюся стреля[т] пере[д] таки[м] царемъ, жебы ми не змылити (Алекс. 1697, 95). – **Змылятися, неизмыленый.**

**Змыслити (змышлити, измыслити, смыслити, сомыслити)** 1) *задумаць:* они зле змыслили (Жыц. св., 1б); 2) *выдумаць:* змыслившы речы николи небылые (АСД, I, 369, 1646). – **Змысленый (змышленый, змышлионый, измышленый, смысленый, смышленый), змысленье (змышление, змышленье, смысление, смышление), змыслитися, змышляный, змышлянье, змышляти (измышляти, смышляти), змышлятися, змышлячъ, змышляючий, незмышленый (несмысленый, несмышленный), смыслечий (смыслящий).**

**Змыслъ (смыслъ)** 1) *разважлівасць:* маю... духа в собе, котори$^{й}$ змыслови моему такъ моцно пануе (Алекс., 29); 2) *ясны розум:* умыслиломъ то... будучи пры зуполномъ змысле (ИЮМ, XXI, 462, 1626); 3) *сэнс:* для облудного змыслу до другои главы... не приступати (Каз. Кір., 44б). – **Змыслне (змышлене, змышлоне, смыслене, смыслне, смышлене), змысл(ь)ный (смысл(ь)ный), незмышлене, несмысленость, несмысльный, смысловый, смысльнейший, смысльность (смысленость).**

**Змыти** *гл.* **мыти**

**Змышататисавый** *гняды з шэрым адценнем:* клячу дей пана Гридичову шерстью змышататисавую... нетъ ведома где поделъ (АВК, I, 248, 1612).

**Змышлити** *гл.* **змыслити**

**Змякчити (змекчити, змекчыти, змякчыти)** *змякчыць:* статечъно$^{ст}$ нашу в христе змя$^{к}$чити може$^{ш}$ (Зб. 82, 32б). – **Змякчати (змегчати), змякчатися (змягчатися), змякчитися (змекчитися), змякчоный (змекчоный), незмекчоный.**

**Змянковати** *гл.* **змена**

**Змятати** *гл.* **зметати**

**Змяти** *гл.* **мяти**

**Знагла (знагле)** *раптоўна:* зна$^{г}$ла велики$^{й}$ ся дождъ пустилъ (Зб. 82, 54б).

**Знадворья** *гл.* **надворный**

**Знадзоный** *гл.* **знудити**

**Знадобе** *гл.* **надобный**

**Знаемитый** *гл.* **знаменитый**

**Знаемый (знаиомый) і знакомый** *знаёмы; вядомы:* придаемо... мужовъ добрыхъ, въ житю ихъ добре заховалыхъ и знаемыхъ (ИЮМ, VIII, 368, 1621). – **Знаемо, знаемость (знаймость, знакомисть), незнаемость, незнаемый (незнаиомый, незнакомый).**

**Знайдовати** *гл.* **знайти**

**Знайменованье** *гл.* **знаменовати**

**Знаймость** *гл.* **знаемый**

**Знайти (изнайти, снайти) і найти** 1) *знайсці:* знашли у клети его горелки фляшу (ИЮМ, VII, 462, 1589); 2) *прызнаць:* мы въ томъ Богуша и Станислава знашли правыхъ (КСД, 32, 1510); 3) *вынайсці:* лекарство на тое зло найти маемъ (Атыла, 207). – **Знайденый (изнайденый, найденый), знайденье (найденье), знайдованый (найдованый), знайдованье (найдованье), знайдовати (найдовати), знайдоватися (найдоватися), знайдуючий (найдуючий), знайдуючийся (найдуючийся), знайтися (изнайтися, найтися), знаходити (находити), знаходитися (находитися), знаходячийся (находячийся), знахоженье (нахоженье), ненайдуючийся.**

**Знаковый** *гл.* **знакъ**

**Знакомисть** *гл.* **знаемый**

**Знакомитый** 1) *знатны, дастойны:* знакомитому человеку… кглейтовъ нашихъ не годится ломати (АЗР, II, 144, 1522); 2) *вядомы:* была знакомита их доброть (Трыст., 50). – **Взнакомиченый, знакомито, знакомитший, незнакомитый.**

**Знакомый** *гл.* **знаемый**

**Знакъ** 1) *знак:* знаки граничные положены (АЗР, III, 146, 1568); 2) *шрам:* на правой руце знакъ одраный кривавый (АВК, XXI, 61, 1555); 3) *прыкмета:* нестатечного то розуму зна$^{к}$ (Варл., 14); 4) *дзеянне, якім паведамляюць што-н.:* бы$^{л}$ ему зна$^{к}$ пре$^{з}$ стреля$^{н}$е (Бельск., 97б). – **Знаковый, значокъ.**

**Зналезти (зналязти, налезти)** *знайсці:* горелки… теды у него не зналезли (ИЮМ, IX, 55, 1692). – **Зналезеный (налезеный), зналезенье (налезенье), зналезное (налезное), зналезтися (зналязтися, налезтися).**

**Знаме** *гл.* **знамя**

**Знаменати** *гл.* **знаменовати**

**Знамение, знаменикъ** *гл.* **знамя**

**Знаменитый (знаемитый)** 1) *славуты:* прышли знаменитые лекары (Бава, 166); 2) *вялікі:* посаги за ними знаменитыи подавалъ (КСД, 287, 1516); 3) *выдатны:* знаменитые чуда чыни$^{л}$ (Зб. 752, 204).– **Знаменито (знамените), знаменитость, знаменитший, на(й)знаменитший, презнаменитость.**

**Знаменовати (знаменати)** 1) *азначаць:* то$^{т}$ обра$^{з}$ знаменуе$^{т}$ ми и$^{н}$шую ре$^{ч}$ або пе$^{р}$сону (Зб. 261, 207); 2) *ставіць метку:* воски топленые мають печатью своею местъскою знаменовати (СДГМ, 20, 1562). – **Вызнаменати, знаменованый (знаменаный), знаменованье (знайменованье, знаменание, знаменанье, знаменование), знаменоватися (знаменатися), знаменуючий, ознаменовати, перезнаменовати (перезнаменати), перезнаменоватися (перезнаменатися, презнаменоватися).**

**Знаменосецъ** *сцяганосец:* Знаменіе: ... хоруговъ, о$^{т}$нюду же знаменосецъ, пропорчни$^{к}$, хоружій (Бяр., 52). – **Знаменосный.**

**Знамя (знаме)** і **знамение** 1) *кляймо:* мають мети бочку мерную… со знаменемъ местскимъ (АЗР, I, 181, 1498); 2) *след чаго-н.:* буде$^{т}$ лі тая девка... несправне жаловала и знаме на еи не буде$^{т}$ (Вісл., 36б); 3) *сведчанне:* тыхъ бы еси велелъ отпустить, то будеть знамя пріязни твоее съ нами (АЗР, I, 125, 1493); 4) *прадвесце:* знамя судного дня буде: земля запали$^{т}$ всюде (Бельск., 193); 5) *благаславенне:* стягнувши х$^{с}$ъ роукоу свою оучини$^{л}$ знаме на адама (Пак. Хр., 30); 6) *сцяг:* знамена звитежства… росточони (Алекс., 74). – **Знаменикъ** *пячатка,* **знаменный.**

**Знанье** *гл.* **знати**

**Знарядити** *гл.* **нарадити**

**Знати** 1) *ведаць:* писмо все на паме$^{т}$ знаетъ (Барк., 151б); 2) *пазнаваць:* нас не знат было хто естесмо (АВК, XXXVI, 18, 1582); 3) *відаць:* тые местъца где хоромы стояли знать же попалено свежо (АВК, XXXI, 47, 1582). – **Знаный, знанье, знатися, знатнейший, знатникъ, знаючий (-ющий), знаючийся, незнатье, розузнавати, розузнати.**

**Знаходити** *гл.* **знайти**

**Знахоръ** *знахар:* byli u iakohoś znachora (ИЮМ, VI, 320, 1687).

**Значала** *гл.* **изначала**

**Значити (значыти)** 1) *азначаць:* вода в крещеніи значитъ о$^{т}$роженье духовное (Дзід., 18); 2) *памячаць:* въ той сосне знакъ ихъ чымъ бортное дерево значыти (АЮЗР, II, 82, 1623); 3) *указваць:* въ томъ листе значитъ, ижъ ее милость... зоставила его при всей отчизне (РПП, 123, 1558); 4) *благаслаўляць:* чола свои значили кре$^{с}$томъ (Зб. 82, 14б). – **Значачий, значеный (значоный), значенье, значитися (значытися).**

**Значный** 1) *значны:* значную ребелию старосте нашому чыните (Арх. ЮЗР, VIII-5, 348, 1605); 2) *слушны:* омешканья своего оказалъ явную значную причину (АЗР, IV, 35, 1590);

3) *прыкметны:* пляцы делить межа значъная (АВК, XX, 92, 1583); 4) *знатны:* было при Алекса$^{н}$дру два велможи значные (Алекс. 1697, 96б). – **Значне (значно), значней, значнейший, назначней, на(й)значнейший, незначне (незначно), незначный.**

**Значокъ** *гл.* **знакъ**

**Значыти** *гл.* **значити**

**Знашати** *гл.* **знести**

**Знаючий** *гл.* **знати**

**Зневажити (зневажыти)** *зняважыць:* соборы святыи зневажилъ (Дыяр., 174). – **Зневага, зневажаный, зневажати, зневажатися, зневажачъ, зневажаючий, зневаженый (зневажоный), зневаженье, зневажитель (зневажытель), зневажливый, зневажца, незваженье.**

**Зневеритися** *гл.* **невера**

**Зневестити** *гл.* **невеста**

**Зневнима (зневнимка)** *непазбежна:* зневнима зломиться (Зб. 262, 95б).

**Зневолити (изневолити, сневолити)** *зняволіць:* зневолили насъ египтяне (Скар. ЛК, 44б). – **Зневоленство, зневоленый, зневоленье (-ние), зневолитися, зневоляти, зневолятися, незневоленый, незневоленье.**

**Знедзити** *гл.* **нендза**

**Знелитованье, знелютованье** *гл.* **литость**

**Знемочи** *гл.* **немоцъ**

**Зненавидети** *гл.* **ненависть**

**Зненацка** *знянацку:* зненацка неоповедне на не$^{г}$ удари$^{л}$ (Стрыйк., 613).

**Знендзеный** *гл.* **нендза**

**Знеобачка (знеобачки)** *неспадзявана:* Вънезапу: … зна$^{г}$ла, знеобачка (Бяр., 22).

**Знести (изнести, снести)** 1) *сабраць у адно месца:* начиня знесли до купъ (Мак., 31); 2) *разабраўшы, зняць:* мають все будоване... доброволне знести (Пін., 75, 1549); 3) *перамясціць:* дошчки вода знесла (Еўл., 31); 4) *адмяніць:* баницыю на нихъ выданую знесли (КЛС, 173, 1596); 5) *сцярпець:* кри$^{в}$ды свое$^{г}$ сщ$^{н}$ника зне$^{с}$ти не могла (Бельск., 332б); 6) *адкласці яйцо:* пташекъ... знеслъ яйце (Алекс., 3б). – **Знашаный, знашати, знашатися, знесеный (снесеный), знесенье (снесенье), знесеньеся, знестися (снестися), зносити (износити, сносити), зноситися (сноситися), зносней, зноснейший, зносный, зносъ, зносячий, зношати (сношати), зношеный (зношоный), зношенье, зношивати (зношывати), зношоватися, позносити.**

**Знеханый** *гл.* **нехати**

**Зниденье** *гл.* **знийти**

**Знижити (знижыти, знизити, снижити, снизити)** 1) *панізіць (узровень):* воды знижылъ и греблю… о$^{т}$копалъ (Ст. 1588, 368); 2) *прынізіць:* вывышилъ тыхъ которыи себе знижили (Каліст, II, 245). – **Знижати (снижати), знижатися, зниженый (знижоный, сниженый), зниженье, знижитися (знижытися, снизитися).**

**Знийти (иснити, снийти, снити)** 1) *пайсці куды-н.:* знишла в гумно (Зб. 262, 32б); 2) *сысці, спусціцца:* зниду въ адъ (Будны, 181). – **Зниденье (сниденье), зниходити, зниходящий, снийтися, снитие.**

**Зникнути** 1) *знікнуць:* зникну$^{л}$ зъ очью ихъ (Біблія, 1); 2) *ухіліцца, пазбегнуць:* о$^{т}$стоупники хотячи казни за свое о$^{т}$ступство зникнути... забегали тому (Апакр., 208б). – **Зниканье, зникати, зникаючий, зникненье.**

**Зникчемнети** *гл.* **никчемный**

**Знимати** *гл.* **зняти**

**Знине** *гл.* **ныне**

**Знитованье** *заклёпванне:* за знитоване железъ на ноги дали ковалю осм. осемъ (ИЮМ, XI, 92, 1697).

**Знисходити** *гл.* **знийти**

**Зничэмнети** *гл.* **никчемный**

**Знищити** *гл.* **нищити**

**Зновити** *гл.* **взновити**

**Зновъ (знова, знову, изнова, изнову, изновъ)** *зноў:* панъ Хрептовичъ и пани малжонка его... зновъ до посесіи и вечистого держанья… уступили (АВК, XII, 464, 1676).

**Зной** *спякота:* зной солнечный и барзо срокгіе зимна... те^р^пели (Варл., 102).

**Зноряженый** *гл.* **нарадити**

**Зносити, зносъ, зношивати** *гл.* **знести**

**Знудити** *гл.* **нендза**

**Знутра** *гл.* **нутро**

**Зныдевати** *гл.* **нендза**

**Зныти** *гл.* **ныти**

**Зняти (сняти)** 1) *здзець:* мялъ сермягу зъняти зъ Миклаша (АВК, XVII, 88, 1540); 2) *сабраць пасля паспявання:* ярыну вольно будеть пожати и зняти (КВС, 494б, 1552); 3) *апанаваць:* знела все^х^ боязнь (Зб. 259, 103б); 4) *адмяніць:* шаленость знела умыслъ тво^й^ (Алекс., 24); 5) *звольніць:* знявши зъ его… кашталянию меньскую, дали есмо ему тое воеводъство (КЛС, 124, 1597). – **Здеймованье, здеймовати (здыймовати, зыймовати, зымовати, сыймовати), здыймоватися (сыймоватися), знимати (зыймати, зымати, снимати), зниматися (сниматися, соиматися, сыматися), знимокъ (узнимокъ), знятися (снятися, соинятися, сонятися), знятый (снятый), знятье (снятье), зыманый.**

**Зо** *гл.* **зъ**

**Зобаполъ** *гл.* **обаполъ**

**Зобидети, зобижати** *гл.* **обида**

**Зобопольный, зобопулъ** *гл.* **обаполъ**

**Зобрати** *гл.* **собрати**

**Зобусторонний** *узаемны:* упросивши мы зобусторонних приятел своихъ... зостановене вчинили (АВК, XXXVI, 377, 1582).

**Зовдячне** *гл.* **вдячный**

**Зовемый** *гл.* **звати**

**Зовлечи** *гл.* **волочи**

**Зовнеръ** *гл.* **жолнеръ**

**Зовнутръ** *гл.* **нутро**

**Зовомый** *гл.* **звати**

**Зовсимъ (зовсемъ, совсимъ)** *зусім:* корабль зовси^м^ перевернуло (Зб. 752, 113б).

**Зовучий** *гл.* **звати**

**Зогбати** *гл.* **гнути**

**Зогнати** *гл.* **согнати**

**Зогненый** *гл.* **гнути**

**Зогнетеный** *гл.* **гнести**

**Зогнутый** *гл.* **гнути**

**Зогрети** *гл.* **согрети**

**Зодей (задей, зодий)** *кожнае з сузор'яў задыяка:* Близнецъ: ... зодіе маіево, планета нб[с]на[а] (Бяр., 7). – **Зодейский.**

**Зодного** *гл.* **одинъ**

**Зодноченье** *гл.* **зъеднати**

**Зодрати** *гл.* **содрати**

**Зодхнути** *уздыхнуць:* зо[д]хну[в]шы в душы и рече[ш] са[м] в собе (Зб. 752, 591).

**Зожечи** *гл.* **зжечи**

**Зозвати** *гл.* **ззвати**

**Зозволенье** *гл.* **зезволити**

**Зознати** *гл.* **сознати**

**Зозывати** *гл.* **ззвати**

**Зоймати** *гл.* **заняти**

**Зойти** *гл.* **сойти**

**Золвица** *залоўка:* седечи у светлицы… изъ золвицею моею (АВК, XVII, 420, 1540).

**Золгати** *гл.* **лгати**

**Золданъ** *гл.* **султанъ**

**Золнеръ** *гл.* **жолнеръ**

**Золо** *гл.* **зелье**

**Золото і злато, злото** 1) *золата:* учинишъ тежъ бляху з золота (Біблія, 145); 2) *вырабы з золата, залатыя манеты:* дарую ему... серебро, золото (РПП, 68, 1545); 3) *залатыя ніткі:* хустокъ сорокъ золотомъ едвабемъ и белію вышиваныхъ (АВК, VIII, 485, 1599); 4) *пазалота:* Псалтыра, золотомъ писана (КСД, 872, 1526). – **Златница, золотарова (злотаровая), золотарка, золотарский (златарский, злотарский), золотарство, золотарчицъ, золотаръ (златаръ, злотаръ), золотистый (злотистый), золотитися, золотковый (злотковый), золотникъ (златникъ, злотникъ), золотницкий (злотницкий), золотництво (злотництво), золотничий (злотничий), золотый (златый, злотый), золоченье (злоценье, злоченье), золочоный, озолотити, ползолотника, ползолотый (пулзолотый), полузолотникъ.**

**Золотоверхий** *залатаверхі:* игуменъ… церкви золотове[р]хое (Ст. бр., 3).

**Золотоглавъ і златоглавъ, злотоглавъ (злотогловъ)** *тканіна з залатой ніткай:* золотоглавы, оксамиты и иншіе дорогіе речи до казны своее росказалъ брать (АЗР, III, 165, 1573). – **Золотоглавный (злотоглавный), золотоглавовый (злотоглавовый).**

**Золотоустый** *гл.* **златоустый**

**Золотошвея** *вышывальшчыца золатам:* з двема дочками, Оленою и Полонеею, золотошвеею, которая жонка... в неволю взята была (АВК, XXII, 272, 1566).

**Золотый, золоченье** *гл.* **золото**

**Золчь** *гл.* **жолчь**

**Зольжыти** *гл.* **зелжити**

**Зомдленый** *гл.* **мдлый**

**Зомерти** *гл.* **мертвый**

**Зомлети** *гл.* **мдлый**

**Зомстити** *гл.* **мстити**

**Зоочити** *гл.* **зъочити**

**Зопачити** *умацаваць:* до оной сполечности римской, которая римской церкви веру и давные преданія зопочила… оутекли (Апакр., 190). – **Зопакованый.**

**Зопобрати** *гл.* **брати**

**Зополне** *гл.* **зуполный**

**Зополчитися** *гл.* **ополчитися**

**Зопочинути (сопочинути)** і **соопочити** *адпачыць:* не дасть зопочинути духу моему (Скар. КІ, 14).

**Зопретися** *гл.* **заперти**

**Зопсовати** *гл.* **сопсовати**

**Зопхнути** *гл.* **сопхнути**

**Зора** *гл.* **заря**

**Зорати** *гл.* **взорати**

**Зорвати** *гл.* **сорвати**

**Зореница, зорухна** *гл.* **заря**

**Зослати** *гл.* **заслати**

**Зособна (зъособна)** *асобна, паасобку:* прыказуемъ вамъ всимъ одностайне и зъособна кождому (СДГВ, 50, 1609).

**Зосоромотити, зосромотити** *гл.* **засоромотити**

**Зостава** *гл.* **застава**

**Зоставати** *гл.* **застати[1], зостати[1]**

**Зоставити** *гл.* **заставити**

**Зостановити** *гл.* **застановити**

**Зостарелый** *гл.* **застаретися**

**Зостати (застати, изостати)[1]** 1) *застацца:* челедь быдло мають при име[н]ю зостати (Ст. 1566, 70); 2) *уцалець:* тотъ ранъны[й] с тыхъ ранъ… живъ зостанеть (Ст. 1588, 11); 3) *апынуцца ў якім-н. становішчы:* она… вдовою зостала (Ст. 1529, 26). – **Зоставаный, зоставати (заставати), зоставатися (заставатися), зостаючий, зоставший, зосталый, зостаный, зостатися (застатися, состатися), зостаючий (-ющий), позоставати, позосталое, позосталый (позасталый), позостати, позостатися, позостаючий.**

**Зостати[2]** *гл.* **застати[1]**

**Зостоятися** *гл.* **стати**

**Зостречаючий, зостреченье** *гл.* **стретити**

**Зострити** *гл.* **острый**

**Зосхнути** *гл.* **сохнути**

**Зотерти** *гл.* **затерти**

**Зоткнути** *гл.* **заткати**

**Зотнути** *гл.* **стяти**

**Зотрвати** *гл.* **трвати**

**Зотреный** *гл.* **стерти**

**Зотцети** *згнісці:* кгарнецъ заплюгавены[й], в которы[й] штокольвекъ влеетъ, зара[з] зотцее (Зб. 255, 425б).

**Зофиста** *гл.* **софиста**

**Зочести, зочтеный** *гл.* **счести**

**Зошлость, зошлый** *гл.* **сойти**

**Зпалити** *гл.* **спалити**

**Зпасти** *гл.* **спасти[1]**

**Зпевати** *гл.* **пети**

**Зперва, зпервотку** *гл.* **сперва**

**Зпереду** *гл.* **передъ[2]**

**Зпертися** *гл.* **спертися**[1]

**Зписати** *гл.* **списати**

**Зплести** *гл.* **сплести**

**Зпложати, зпложоный** *гл.* **сплодити**

**Зплутати** *заблытаць:* подобне они… птахови которы[й] коли зплутаеть ноги в сети юж[ж] летати не може[т] (Зб. 261, 133б).

**Зплюгавити** *гл.* **плюгавый**

**Зповиноватитися** *гл.* **сповиноватитися**

**Зпоганелый** *спаганены:* Богъ законныхъ оферъ не потребовал, але… для самой зпоганелой грубости жидовской закономъ до часу змоцни[л] ихъ былъ (Каліст, I, 137).

**Зпоеный, зпоенье** *гл.* **споити**

**Зпознитися** *гл.* **позный**

**Зпоити** *гл.* **споити**

**Зпокойный** *гл.* **спокой**

**Зполечность** *гл.* **сполечный**

**Зполна** *гл.* **полный**

**Зполнитися** *гл.* **сполнити**

**Зпораженье** *гл.* **спорядити**

**Зпоранку (споранку)** і **зрана (зранья, израна)** *зранку:* великая мгла была зпора[н]ку (Стрыйк., 585).

**Зпорожнити** *гл.* **спорожнити**

**Зпоряжати** *гл.* **спорядити**

**Зпосередку, зпосродъ** *гл.* **спосродъ**

**Зпотваряти** *гл.* **потваръ**

**Зпотребу** *гл.* **спотребу**

**Зпочатку** *гл.* **почати**

**Зпрацованый** *гл.* **праца**

**Зпредвековъ** *спрадвеку:* зпре[д]вековъ во всемъ досконалый будучи, досконалшимъ быти можетъ (Каліст, II, 296).

**Зпречатися** *гл.* **спречатися**

**Зприсяженье** *гл.* **сприсячися**

**Зприязливый, зприязнитися** *гл.* **сприязливый**

**Зпровадити** *гл.* **спровадити**

**Зпровергнути** *гл.* **спровергнути**

**Зпродку** *гл.* **спродку**

**Зпромежъ** *гл.* **промежъ**

**Зпроста, зпростоватися** *гл.* **спростати**

**Зпрудка** *гл.* **прудкий**

**Зпрягати** *гл.* **спрягчи**

**Зпсоватися** *гл.* **сопсовати**

**Зпустити** *гл.* **спустити**

**Зпустошити** *гл.* **пустошити**

**Зпущати** *гл.* **спустити**

**Зпыхати** *гл.* **сопхнути**

**Зрабованье** *гл.* **рабовати**

**Зрада, зрадецство** *гл.* **здрада**

**Зрадити (зрядити, изрядити)**[1] 1) *устанавіць, вызначыць:* Богъ рачилъ то зрадити (АЗР, III, 4, 1547); 2) *сабраць, арганізаваць:* зрядивши шики мужне станули (Алекс., 24б). – **Зраженье (зрадзенье, зрядженье, зряженье), зряжати, зряженый.**

**Зрадити**[2] *гл.* **здрада**

**Зрадоватися** *гл.* **радость**

**Зражати** *гл.* **здрада, зразити**

**Зразити** 1) *дабіцца адмены чаго-н.:* сторона позву зразити и з року зрыватися не можетъ (АВК, XXXII, 36, 1596); 2) *збіць:* моцне его с коня зрази[л] (Троя, 55б). – **Зражати, зраженый (зражоный), зраженье (сражение), зразитися (сразитися).**

**Зразу** *адразу, спачатку:* Авраа[м]... и[х] подобно зразу бы[л] не позналъ (Выкл., 15б).

**Зразумети** *гл.* **зрозумети**

**Зразъ** *форма для адліўкі:* вчинилъ зразъ яко чинять и сливатели и вделалъ имъ телецъ слианъ (Скар. КВ, 60б).

**Зрайца** *гл.* **здрада**

**Зракъ** *гл.* **взрокъ**

**Зрана** *гл.* **зпоранку**

**Зранити** *гл.* **рана**

**Зранья** *гл.* **зпоранку**

**Зрастъ** *гл.* **взростъ**

**Зратовати** *гл.* **ратовати**

**Зраховати** *палічыць, злічыць:* пенязей всихъ зраховалъ есми полтрети копы (АВК, XVII, 390, 1541). – **Зрахованый, зрахованье.**

**Зревидовати** *гл.* **ревизия**

**Зредка** *гл.* **редкий**

**Зреестровати** *гл.* **реестръ**

**Зрезати (срезати)** *зрэзаць:* як бритвою шоло[м] зреже[т] по[д]ле головы (Алекс. 1697, 38б). – **Зрезаный (срезаный), зрезанье (изрезанье), зрезатися, зрезь** *мясныя абрэзкі.*

**Зрейстровати** *гл.* **реестръ**

**Зрекати** *гл.* **зречи**

**Зрелый** *гл.* **зрети**[2]

**Зрение** *гл.* **зрети**[1]

**Зреница** і **зеница, зенка** *зрэнка:* да не преставает зреница ока твоего (Скар. ПЕ, 7).

**Зрети**[1] 1) *бачыць:* того бы[с] богоу мерьзко зрети (Увар., 91); 2) *глядзець:* не могоу[т] зрети на не[г] (Чэцця, 117б). – **Зрение (зренье), зрételней, зретися, зримый, зритель, зрячий (зрящий), неизренность, подзирати, призиранье, призирати, призоръ, призракъ, призренье, призрети, созирати, созрети.**

**Зрети**[2] *спець:* овоцы... зрею[т] и доспеваю[т] (Бельск., 3б). – **Дозревати, дозрелость (доздрелость), дозрелый (дойзрелый), дозрети, зрелость, зрелый, недозрелый, позрети, созревати, созрелый, созрель, созрети.**

**Зречи (изречи)** 1) *сказаць, прамовіць:* о прошлыхъ короляхъ по[л]скихъ зречете (Апакр., 218); 2) *адрачыся:* помененыхъ подданыхъ нашихъ вечне зрекли (АСД, I, 291, 1635). – **Зрекати, зрекатися, зреченый (зречоный, изреченный), зреченье (изречение), зреченьеся, зречися, неизреченно, неизреченный.**

**Зрижацемный** *гл.* **зрыжатемный**

**Зрижачалый** *гл.* **зрыжачалый**

**Зримый** *гл.* **зрети**[1]

**Зринути (изринути, низринути)** *скінуць:* его з велико$^{г}$ кня$^{з}$ства сполною помо$^{ч}$ю зрину$^{т}$ могли (Стрыйк., 540). – **Изринутися.**

**Зритель** *гл.* **зрети[1]**

**Зробити** 1) *зрабіць:* банку новую зробили въ дорогу (ИЮМ, I, 22, 1679); 2) *апрацаваць:* тыми людми пашъни зробити не может (КПД, 588, 1557). – **Зробитися, зробленый (зробеный), зробленье (зробенье), зробляти.**

**Зровнати (изравнати, сровнати)** 1) *зрабіць роўным, гладкім:* богъ гори зровнае$^{т}$ коли схоче$^{т}$ (Бельск., 45б); 2) *зрабіць аднолькавым:* тое име$^{н}$е собе на части зро$^{в}$нали (Ст. 1588, 374). – **Зровнаный (зровняный), зровнанье, зровнатися (зровнятися, сровнатися), зровновати, зровнывати, зровныватися (сровнаватися).**

**Зродити** 1) *нарадзіць:* Лия тежъ иные сыны зродила (Скар. КВ, 54); 2) *урадзіць:* ярыны досыть добре зродили и буйны были (АВК, XXXVI, 188, 1582). – **Зроджовати, зродитель, зродитися (изродитися), зродокъ** *дзіця,* **зроженый (зрожоный), зроженье.**

**Зродло** *гл.* **жродло**

**Зродокъ** *гл.* **зродити**

**Зродство** *гл.* **родъ**

**Зрожайный** *гл.* **урожай**

**Зроженье** *гл.* **зродити**

**Зрозумети (зразумети)** *зразумець:* того было явне зрозумети нелзе (Барк., 140). – **Зрозумеванье, зрозумевати, зрозуменый, зрозуменье (зразуменье, зрозумение), зрозуметися, зрозумяне, незрозуменье.**

**Зроистый** *гл.* **здрой**

**Зрокъ** *гл.* **взрокъ**

**Зрослый, зрости** *гл.* **взрости**

**Зростися** *зрасціся, злучыцца:* рана зъ раною зрослася (Алекс. 1697, 71).

**Зростропный** *гл.* **ростропный**

**Зростъ** *гл.* **взростъ**

**Зрочитися** *гл.* **рокъ**

**Зрощати** *гл.* **взрости**

**Зрубати (зрубити, изрубити)** 1) *пасячы:* плоты по$^{ж}$гли и испу$^{ст}$ зрубали (КВЗС, 24б, 1537); 2) *засячы:* Тикуна татары зрубали (АЗР, V, 67, 1641); 3) *ссячы:* хто кому дерево зрубить (Вісл., 37); 4) *пабудаваць з бярвення:* змовилъ дойлидовъ лазню зрубить (ИЮМ, XI, 147, 1697). – **Зрубаный (изрубаный), зрубанье, зрубленый, зрубный, зрубъ (изрубъ, иструбъ, струбъ).**

**Зруйновати** *гл.* **руина**

**Зруцити** *гл.* **рутити**

**Зручити** *гл.* **ручити**

**Зручно** *зручна:* дали есмо имъ... кгрунтъ, где имъ зручно (АВК, II, 146, 1592).

**Зрушити (зрушыти, изрушити)** 1) *зрушыць:* реки зроушити васъ могли (Апакр., 186); 2) *скасаваць:* хотела была тотъ записъ сво$^{й}$ зрушити (КСД, 615, 1509); 3) *парушыць:* тую угоду зрушылъ (КВС, 458, 1552). – **Зрушаный, зрушеный (зрушоный), зрушенье, зрушиваный, зрушитель, зрушитися.**

**Зрывати** *гл.* **сорвати**

**Зрыжарябый** *рыжа-рабой масці:* пограбилъ... корову дойную шерстью зрыжарябую (АВК, XX, 36, 1578).

**Зрыжастрокатый** *рыжа-стракаты:* взялъ... два волы на той шкоде, одного шерсти зрыжастрокатого (АВК, XVIII, 132, 1595).

**Зрыжатемный (зрижацемный)** *цёмна-рыжы:* продал коня... шерстью зрижацемъного (АВК, XXXIX, 284, 1579).

**Зрыжачалый (зрижачалый)** *рыжа-шараваты:* заменил коня... шерстью зрыжачалого (АВК, XXXIX, 319, 1579).

**Зрыжеплеснивый** *рыжы з сівізной:* пограбилъ... коня шерстью зрыжеплеснивого (АВК, XXXI, 249, 1595).

**Зрядити** *гл.* **зрадити**[1]

**Зрядца** *гл.* **здрада**

**Зряжати** *гл.* **зрадити**[1]

**Зрячий** *гл.* **зрети**[1]

**Зсадити** *гл.* **ссадити**

**Зсати** *гл.* **ссати**

**Зсеканый, зсекъ** *гл.* **зсечи**

**Зселый, зсести** *гл.* **ссести**

**Зсечи (изсечи, иссечи, ссечи)** *зсячы:* тотъ маеть… лезиво зсечи (АЗР, II, 27, 1507). – **Зсекъ (ссекъ), изсечоный, ссеканый (зсеканый), ссекати.**

**Зсинети** *ссінець:* тваръ… вся спухла, зсинела (Зб. 255, 252).

**Зскочити** *саскочыць:* оулекшисе о неи. зскочилъ з столицы (Хран., 380).

**Зскробовати** *гл.* **скребти**

**Зслабети** *гл.* **слабый**

**Зслатися** *гл.* **слати**[1]

**Зсмядый** *гл.* **смядый**

**Зсоритися** *сварыцца:* ижъ бы войско народу нашого съ людьми вашими будучи въ одномъ месте не зсорилося (АЗР, IV, 492, 1615).

**Зсоромотити (изсоромотити, ссоромотити)** і **сосрамотити** *зганьбіць, зняважыць:* ее зсоромотила неучстивыми словы (АВК, XXII, 159, 1565). – **Зсоромоченый (зсоромочоный), зсоромоченье (зсромоценье).**

**Зсподний** *гл.* **сподъ**

**Зспоеный** *гл.* **споити**

**Зспоряжати** *гл.* **спорядити**

**Зсрожити (засрожыти)** *зрабіць жорсткім:* вшетеченство… тихое и скромное прироже$^{н}$е лю$^{д}$ское збестило и зсрожило (Каліст, II, 328).

**Зсромоценье** *гл.* **зсоромотити**

**Зставати** *гл.* **стати**

**Зставити** *гл.* **ставити**

**Зстаретися** *гл.* **состарети**

**Зстародавна** *гл.* **стародавный**

**Зстати, зстатися** *гл.* **стати**

**Зстекати** *гл.* **стечи**

**Зстрашитися** *гл.* **застрашити**

**Зстривожитися** *гл.* **трвога**

**Зстручати** *гл.* **тручати**

**Зступити (исступити, сступити)** 1) *сысці:* зступи$^{л}$ з гори (Алекс., 37); 2) *саступіць:* ослица не зступила з дороги (Хран., 147); 3) *навальіцца:* зступи$^{л}$ на ни$^{х}$ и помо$^{р}$дова$^{л}$ (Пс. XVII, 66б). – **Зступати (из-), зступенье (изступление, изступленье), зступитися (изступитися, исступитися, соступитися), зступованье, зступовати (сступовати),**

**зступоватися, зступуючий (исступуючий, сступующий), изступленый, исступившийся, исступъ (соступъ, сступъ).**

**Зстягнути** *гл.* **тягнути**

**Зсуканый** *гл.* **сукати**

**Зсучий** *гл.* **ссати**

**Зсушити, зсушоный** *гл.* **сушити**

**Зсхилнейшый** *гл.* **схилити**

**Зсховатися** *гл.* **ховати**

**Зсходити** *гл.* **сходити**

**Зсцегно** *гл.* **стегно**

**Зсылати, зсылка** *гл.* **заслати**

**Зсыпати (ссыпати)** *ссыпаць:* тотъ хмель отмерили бочокъ семь и у одинъ мехъ зсыпали (АВК, XXVIII, 246, 1619). – **Зсыпаный (изсыпаный, ссыпаный), зсыпанье, зсыпованье (ссыпованье), зсыповати.**

**Зтамтоля, зтамтуль** *гл.* **стамтоля**

**Зтарговати** *гл.* **торгъ**

**Зтачати** *гл.* **сточити**

**Зтвердети** *гл.* **твердый**

**Зтвердити, зтвержати** *гл.* **ствердити**

**Зтворити** *гл.* **створити**

**Зтегнути** *гл.* **стягнути**

**Зтекати, зтекъ** *гл.* **стечи**

**Зтерти** *гл.* **стерти**

**Зтечи, зтечися** *гл.* **стечи**

**Зтиратися** *гл.* **стерти**

**Зтисненый** *гл.* **стиснути**

**Зтлумити (стлумити)** *стрымаць, уціхамірыць:* Г^с^дь зтлумилъ грехъ кр^с^томъ и о^д^ оного часу южъ внутръ насъ его нетъ (Мак., 133). – **Стлуменый.**

**Зтоваришитися** *гл.* **товаришъ**

**Зтовченый** *гл.* **столчи**

**Зтолко** *гл.* **столько**

**Зтоль, зтондъ** *гл.* **оттуль**

**Зтоптаный** *гл.* **топтати**

**Зторгати** *гл.* **сторгнути**

**Зторговати** *гл.* **торгъ**

**Зточити** *гл.* **сточити**

**Зтравити** *гл.* **травити**

**Зтрасти** *гл.* **страсти**

**Зтрвожитися** *гл.* **трвога**

**Зтрезвитися** *гл.* **трезвый**

**Зтрудети, зтрудити** *гл.* **струдити**

**Зтрудователый** *гл.* **трудъ$^2$**

**Зтрутити** *гл.* **тручати**

**Зтрухлелый** *гл.* **трухлети**

**Зтрученье** *гл.* **тручати**

**Зтулити** *гл.* **стулити**

**Зтупити** *гл.* **ступити**

**Зтурбоватися** *гл.* **турбовати**

**Зтылу** *гл.* **тылъ**

**Зтыранизовати** *знявечыць:* которого панъ Белецкій на дорозе добровольной збивши, зранивши, зтыранизовавши (АВК, XV, 410, 1680).

**Зтягнути** *гл.* **стягнути**

**Зубный** *гл.* **зубъ**

**Зубожити (зубожыти, субожити)** *збядніць, разарыць:* если ми мае$^{т}$но$^{ст}$ побере$^{ш}$, не убогати$^{с}$ся, а мене не зубожи$^{ш}$ (Бельск., 285б). – **Зубожалый (зубожелый), зубожати (зубожети, субожати), зубоженье (субоженье), зубожоный (зубожаный, зубоженый, субожоный).**

**Зубополне** *гл.* **обаполъ**

**Зубръ** *зубр:* заехали у ловы и убили зубро$^{в}$ елене$^{й}$ сарнъ и дики$^{х}$ кобы$^{л}$ ве$^{л}$ми мно$^{г}$ (Стрыйк., 241б). – **Зубрина, зубриный (зубрыный), зубровый.**

**Зубъ** 1) *зуб:* зубы ми два выбили (КСД, 299, 1516); 2) *востры выступ на прыладзе:* маючи вилки о тре$^{х}$ зуба$^{х}$ в руце своей (Біблія, 302); 3) *востры выступ на паверхні чаго-н.:* пришо$^{л}$ на ва$^{л}$ где было каме$^{н}$е завесистое я$^{к}$ зубы в скале (Бельск., 95). ◊ **Зубъ за зубъ** *адплачваючы за зло той жа меркай;* **мети языкъ за зубами** *не гаварыць лішняга.* – **Зубный, зубовый.**

**Зуважати** *гл.* **завести**

**Зугранникъ** *гл.* **суграпь**

**Зумеватися** *гл.* **зуметися**

**Зумети** *змагчы:* значне исповедати зумееть (Будны, 231). – **Зуменье.**

**Зуметися (изуметися)** 1) *здзівіцца, уразіцца:* то слышавшы зуме$^{л}$ся Арый (Царств., 73); 2) *разгубіцца:* изумелся кому бы о$^{т}$дати листъ (Алекс. 1697, 7). – **Зумеватися, изумленье (изумение).**

**Зумлети** *гл.* **мдлый**

**Зуниеватися** *гл.* **уния**

**Зупа** *гл.* **жупа**

**Зупокойный** *гл.* **спокой**

**Зуполный (зупелный, зупольный, суполный, супольный)** 1) *поўны:* сеножати… деръжати маютъ до зуполъное заплаты (КВС, 451, 1552); 2) *вычарпальны:* доводъ зуполный далъ (АВК, XXI, 14, 1555); 3) *супольны:* служъбу зуполную служатъ (АВК, XXXVI, 127, 1582). – **Зуполне (зополне, зупелне, зуполно), зуполней, зуполнейший, зуполность (зупелность), на(й)зуполнейший, незуполность, незуполный (незупелный, несуполный), несуполна, суполникъ.**

**Зупорчиве** *гл.* **упоръ**

**Зуптелный** *гл.* **субтельный**

**Зусобный** *гл.* **особный**

**Зусоромотити** *гл.* **засоромотити**

**Зуставати** *стамляцца:* составы члo$^{н}$ко$^{в}$ его зуставали (Зб. 752, 373б).

**Зуставенье** *гл.* **ставити**

**Зуставъ** *гл.* **суставъ**

**Зустретити** *гл.* **стретити**

**Зутлити** *гл.* **вонтлети**

**Зухвалый (зуфалный, зуфалый, зухвальный)** *дзёрзкі:* цеса$^{р}$ лю$^{д}$ оны$^{й}$ яко зухвалы$^{й}$ скара$^{л}$ великими пеняжными пода$^{т}$ки (Бельск., 291б). – **Зухвале (зуфале, зухваль-**

**не), зухвалецъ (зуфалецъ), зухвалость (зуфалость), зухвал(ь)ство (зуфал(ь)ство), зухвал(ь)ца (зуфал(ь)ца).**

**Зученый** *гл.* **изучити**

**Зушкодный** *гл.* **зашкодити**

**Зфалшовати (сфалшовати)** *сфальшывіць:* декрет твоя милост кгволи собе написал и зфалшовал (АВК, XXXII, 11, 1596). – **Зфалшованый (зхвалшованый, сфалшованый), зфалшованье (сфалшованье).**

**Зфолькговати** *гл.* **фолькга**

**Зформовати** *гл.* **форма**

**Зфрасоватися** *гл.* **фрасовати**

**Зфукати** *гл.* **фукати**

**Зхажка** *гл.* **схадзка**

**Зхарчити** *гл.* **харчъ**

**Зхачка** *гл.* **схадзка**

**Зхвалшованый** *гл.* **зфалшовати**

**Зхватити** *гл.* **схватити**

**Зхворалый** *гл.* **зхорети**

**Зхизма** *гл.* **схизма**

**Зхилити** *гл.* **схилити**

**Зхованье** *гл.* **ховати**

**Зходити, зхоживати** *гл.* **сходити**

**Зхолярый** *гл.* **схолярый**

**Зхорети** *знясілець:* колени мои зхорели о$^{т}$ посту (Пс. XVII, 122б). – **Зхорелый (зхворалый, зхоралый, схорелый).**

**Зхотети** *гл.* **хотети**

**Зхудети** *гл.* **худый**

**Зцелити** *гл.* **цельба**

**Зцептрумъ** *гл.* **скипетръ**

**Зчарованый** *заварожаны:* пане$^{н}$ка о$^{д}$на о$^{т}$ млоде$^{н}$ца... тя$^{ж}$ко зчарованая шалела и оного спро$^{с}$ника взывала (Зб. 752, 451–451б).

**Зчатокъ** *гл.* **нащадокъ**

**Зчезнути** *гл.* **исчезнути**

**Зчернети** *гл.* **счернети**

**Зчести** *гл.* **счести**

**Зчирый** *гл.* **щирый**

**Зчистити (исчистити, счистити)** *ачысціць:* суть чищенъцы, которие зчисътили о$^{т}$ людей (Цяп., 26). – **Изчиститися (исчиститися, счиститися).**

**Зчорнастрокатый** *гл.* **счорнастрокатый**

**Зчорнети** *гл.* **счернети**

**Зчужоложити** *гл.* **чужеложство**

**Зшарпати** *гл.* **шарпати**

**Зшванковати** *гл.* **шванкъ**

**Зшедший** *гл.* **сойти**

**Зшивати** *гл.* **шити**

**Зшиковати (зшиховати, исшиховати, сошиховати)** *выстраіць:* филистінове... зшиковали войско противъ Ізраилю (Хран., 201). – **Зшикованый, зшиковатися.**

**Зшитый** *гл.* **шити**

**Зшиховати** *гл.* **зшиковати**

**Зщезнути** *гл.* **исчезнути**

**Зъ (зе, зо, изе, изо, изъ, исъ, со, съ)** 1) *з:* зъ дому моего вышла вонъ (КСД, 26, 1510); 2) *з-за:* то з многихъ слушныхъ а певныхъ прычынъ быти не можеть (КПД, 195, 1551); 3) *па:* хто бы з охоты на службу военную выехалъ (КПД, 414, 1507); 4) *ад:* з суботы на неделю (АВК, XXII, 187, 1560).

**Зъедати, зъеденый** *гл.* **зъести**

**Зъединачити** *гл.* **зъеднати**

**Зъедлость, зъедлый** *гл.* **зъести**

**Зъеднати (изъеднати) і зъедночити (зъединачити)** 1) *з'яднаць:* зъедна[л] насъ штобы не было кровопролития (Рач., 320); 2) *наняць:* зъеднали пана економа (ИЮМ, X, 48, 1695); 3) *стаць пасрэднікам:* именье у пана своего пану Кондеревскому купити зъедналъ (АВК, II, 256, 1584). – **Зъеднальный, зъеднанье, зъеднатися (изеднатися), зъедначати (зъеднывати), зъеднота, зъедночатися, зъедноченый (зъедночоный, соединаченый), зъедноченье (зодноченье, зъединаченье, содноченье, соодиноченье), зъедноченьеся, зъедночитися (зодночитися, содиночитися, соединачитися).**

**Зъеждчати, зъездити, зъездъ** *гл.* **зъехати**

**Зъести і зъясти, изъести** 1) *з'есці:* того быка онъ… зарезати и зъести мелъ (АВК, XVIII, 227, 1611); 2) *загрызці:* волки коня зъели (ИЮМ, X, 106, 1695); 3) *спаліць, знішчыць:* огонь… пожеръ и зъелъ олтаръ (Мак., 292); 4) *паглынуць, ахапіць:* жебы его смуто[к] не зъе[л] теште его (Зб. 261, 246). – **Зъеданый, зъедати, зъедатися, зъеденый, зъеденье, зъедлость, зъедлый.**

**Зъехати (изъехати, съехати)** 1) *выехаць, паехаць:* онъ передъ нами съ тыхъ селъ зъехалъ (АСД, I, 68, 1546); 2) *прыехаць, прыбыць:* на местъцо зложоное до Новагородъка зъехали (КПД, 28, 1538). – **Зъеждчанье (зъезджанье), зъеждчати (зъездчати, изъеждчати, съездчати), зъеждчатися (зъезджатися, изъежджатися, изъежчатися), зъездити (изъездити, съездити), зъездокъ, зъездъ (зъяздъ, съездъ), зъеханый (изъеханый), зъеханье (съеханье), зъеханьеся, зъехатися (изъехатися, соехатися, съехатися), незъездъ, незъеханье.**

**Зъимрети** *гл.* **мертвый**

**Зъинвентованый** *гл.* **инвентаръ**

**Зъискати** *гл.* **зыскати**

**Зъистити** *гл.* **истити**

**Зъити** *гл.* **сойти**

**Зъобча, зъобща** *гл.* **общий**

**Зъособна** *гл.* **зособна**

**Зъочити (зоочити)** *убачыць:* зъочитъ в немъ ясный выкладъ (Бяр., прадм.).

**Зъ подъ (съ подъ)** *з-пад:* цеглу возиль зъ подъ ратуши (ИЮМ, VIII, 178, 1691).

**Зъявити (изъявити)** *паказаць, паведаміць:* передъ насъ пришли и то намъ зъявили (КЗ, 381, 1482). – **Зъявитися, зъявленый (зъявеный, изъявленый), зъявленье (зъявенье, изъявленье), зъявляти (изъявляти), зъявлятися (изъявлятися).**

**Зъяздъ** *гл.* **зъехати**

**Зъясти** *гл.* **зъести**

**Зыбкий** *зыбкі, хісткі:* зыбки следы ее (Зб. 262, 95). – **Зыбанье (-ние), зыбати, зыбатися, незыблющийся, позыбати.**

**лениве (лениво), ленивей, ленивейший, ленивети, ленивецъ, ленивость (леность), ленивство, ленивший, ленитися (леноватися), леностный, неленивей, нелениво (нелениве), неленивый, нелености, обленитися (обленети), обленятися, преленость, розленитися (раз-), розленятися.**

**Ленкъ** *частка сядла:* седло справлялъ, ленкъ, попруги (ИЮМ, II, 151, 1698).

**Ленный**[1] *ленны:* се$^{л}$цо до$^{р}$кги правомъ ле$^{н}$нымъ... уступили и пустили урожоному Аполону Вроблевъскому (ККСС, 1б, 1605).

**Ленный**[2] *гл.* **ленъ**

**Леноватися, леность** *гл.* **ленивый**

**Лентваръ** *выробленая шкурка ягняці:* купили... лентвари два на подшите кунтуша (ИЮМ, I, 300, 1682). – **Лентваровый.**

**Лентвойтъ (лантвойтъ, летвойтъ, летьдвойтъ, лянвойтъ, лянтвойтъ)** *намеснік войта:* бурмистры и радцы безъ войта або безъ лентвойта ни одного сказанья вделати не мають (АЗР, I, 181, 1498). – **Лентвойтовский (лянтвойтовский), лентвойтовъ (летвойтовъ).**

**Лентие** *паласа тканіны; ручнік:* препояса$^{л}$ся ленътие$^{м}$ (Зб. 255, 233).

**Ленцугъ** *гл.* **ланцугъ**

**Ленъ** 1) *лён:* льну шесть лехъ по$^{р}$вали (КВС, 507, 1552); 2) *семя лёну:* посеял... ильну бочъку (АВК, XXXVI, 258, 1582); 3) *льняное валакно або палатно:* не облечешися в ризу ту еже зъ волны со льномъ соткана (Скар. ДЗ, 43). – **Льнованое** *падатак ільном,* **льняный (алляный, ильненый, ильняный, ленный, льненый), лянка** *доўгая льняная кашуля.*

**Леный** *гл.* **ленивый**

**Леопардъ** *леапард:* леопардъ вредитъ и$^{х}$ (Скар. IС, 46б).

**Лепакъ** *ж, жа; аднак:* балванъ лепакъ е$^{ст}$ фалшивое подобе$^{н}$ство (Выкл., 40).

**Лепей** *гл.* **лепший**

**Лепити** 1) *вылепліваць:* горнъчаръ... бога лепитъ (Скар. ПБ, 23); 2) *ствараць:* досветчайте... едности, которую наши о$^{т}$стоу$^{п}$ніи митрополи$^{т}$ и владыкове лепити почали (Апакр., 217б). – **Залепити, злепити (слепити), злеплеваный, злепленый, злепянье, лепитися, лепкий, лепленый (лепеный), лепленье, полепленый, прилепитися, прилепленый, прилепленье, прилепляти, прилеплятися, слепляти.**

**Лепоглаголный** *прыгожы ў вымаўленні:* Риторіка: лепоглаго$^{л}$наа. Наука третяа о$^{т}$ свободны$^{х}$ (Бяр., 306).

**Лепота** *гл.* **лепый**

**Лепта** *дробная манета:* Медница: дробны$^{й}$ пенязь, або гарель, зри лепта (Бяр., 83).

**Лепший (лепшый)** *лепшы:* лепшій на его месце нехай боуде$^{т}$ выбранъ (Апакр., 134б). – **Злепшити, лепей (лепее), лепшати, лепшъ (лепше, лепшее, лепшей), лепшейшый, лепшость, на(й)лепей, на(й)лепше (налепшей), на(й)лепший, найналепший, налепшейший, полепей, полепшати, полепшатися, полепшеватися, полепшенье (полепшение, полепшэнье), полепшивати, полепшити (полепшыти), полепшитися (полепшытися).**

**Лепъ** *клей, мазь:* кого иного до того лепу вабъ (Апакр., 200).

**Лепый** *прыгожы:* ты красенъ есь любыи мои и лепыи (Скар. ПП, 4). – **Лепо, лепота, лепотный, нелепо** *недарэчна.*

**Леругание** *намёк:* шаты о$^{т}$меняла, непочтивымъ леруганіемъ и смешки... и словы кгамрацкими скланяючи его ср$^{д}$це къ собе (Хран., 64).

**Лесанокъ** *гл.* **лесъ**[1]

**Лесвица** *гл.* **лествица**

**Леска (ляска)** 1) *кій; посах:* мо$^{и}$се$^{й}$ кгды ра$^{з}$ лескою в скалу ударилъ, вода потекла (Зб. 259, 69); 2) *скіпетр, жазло:* не буде взята ляска кроле$^{в}$ская жидо$^{м}$ (Бельск., 165). – **Лесковый (лясковый).**

**Лескотанье** *гл.* **ласкотанье**

**Лесникъ** *гл.* **лесъ$^{1}$**

**Лесница** *гл.* **лествица**

**Лесничий** *гл.* **лесъ$^{1}$**

**Леснующийся** *гл.* **льснитися**

**Лесованый** *крыты:* возъ робочы лесованый (АВК, XX, 137, 1598).

**Лесокъ** *гл.* **лесъ$^{1}$**

**Лестба** *гл.* **лесть**

**Лествица (лесвица, лесница)** 1) *лесвіца:* изъ сеней вышли… близко лесницы (АЗР, II, 268, 1538); 2) *назва адной з апакрыфічных кніг:* евангеліе толковое четье, книжка лествица (АЗР, I, 137, 1494). – **Лествичникъ.**

**Лестецъ, лестки** *гл.* **лесть**

**Лестнокупленый** *спакушаны:* Февроніа: лестнокуплена (Бяр., 319).

**Лесть** 1) *хлусня:* дорога правды скрылася... лесть и прелесть наступила (Карп., 7); 2) *ліслівасць:* поча$^{л}$ часто посылати лестью и грозою, абы поклонилъся скверънымъ болвано$^{м}$ (Чэцця, 56); 3) *ілжывае вучэнне:* оубега$^{и}$ о$^{т}$ всякои еретической лести (Каз. Кір., 217б). – **Лестба, лестецъ, лестки, лестный, лщенье, льстиве (ильстиве, льстиво), льстивость (ильстивость), л(ь)стивый (ил(ь)стивый, лестивый, лисливый), л(ь)стити, льститися, нелестный, облесть, обольстити, улищати, ульстити.**

**Лесъ$^{1}$** і **лясъ** *лес:* посекши лесъ оумуровалъ горо$^{д}$ (Увар., 99). – **Взлесье, залесье, лесанокъ** *хмызняк,* **лесникъ, лесництво (лесницство, лесничство), лесничанка, лесничий (лесничый, лешничы), лесничое, лесный, лесовый, лесокъ, лесунъ** *лясны разбойнік,* **лешня** *лясны промысел,* **надлесье, подлесничий, поллеса.**

**Лесъ$^{2}$** *гл.* **лиосъ**

**Летавецъ** *гл.* **лятавецъ**

**Летарня** *гл.* **лятарня**

**Летати** *гл.* **летети**

**Летвойтъ** *гл.* **лентвойтъ**

**Лете** *гл.* **лето**

**Летети** 1) *ляцець:* крукъ... летелъ так высоко (Атыла, 220); 2) *імкліва бегчы:* ко$^{н}$ мо$^{й}$ якъ яки$^{й}$ быстри$^{й}$ пта$^{х}$ лете$^{л}$ (Зб. 82, 186б); 3) *падаць:* летелъ зъ мосту у воду (АВК, XVII, 88, 1540). – **Влетати, влетети, вылетати, вылетети, вылетовати, долетети, залетати, залетети, злетети, летанье (лятанье), летати (лятати), летаючий (летающий, лятаючий), летучий, летячий (летящий), налетати, налетети, облетати, перелетати, полетети, прилетати, прилетаючий, прилетети (прылетети), прилетывати, пролетети (прелетети), розлететися, слететися, улетаючий, улетети.**

**Летешний** *гл.* **летось**

**Летити** *умешвацца:* свецкій урадъ летити его не маетъ (АВК, VII, 20, 1595).

**Лето** і **лято** 1) *лета:* по до$^{л}$го$^{й}$ зиме лето овоцы приноси$^{т}$ (Зб. 259, 522б); 2) *год:* былъ чтыри лета папежомъ (Царств., 74); 3) *мн. узрост:* заста$^{л}$ о$^{т}$ца живо$^{н}$буда ба$^{р}$зо хоро$^{г}$, бо бы$^{л}$ в лете$^{х}$ (Стрыйк., 520б); 4) *мн. працягласць жыцця:* лета твои не боудоу$^{т}$ оуме$^{н}$шены (Пс. XVI, 101б). – **Безлетне, безлетний** *бессмяротны,* **летний, летникъ, летность** *старасць,* **летомъ (влете, лете), подлетный, полетное, полетный.**

**Летописецъ (летописца) і лятописецъ** 1) *летапіс:* онъ узялъ в мене книгу летописе$^{ц}$ (КВЗС, 94б, 1539); 2) *летапісец:* того жаде$^{н}$ з наши$^{х}$ летописцо$^{в}$ не описа$^{л}$ (Стрыйк., 436). – **Летописание, летописный.**

**Летопроводецъ** *свята ў гонар Семіёна Столпніка:* бы$^{л}$ имъ бои с Швитригаиломъ на Семенъ день, на летопроводца (Увар., 106).

**Летоосль (летораслъ, летораст)**

**Летосль**

**Летось** *летась:* летось о Еване дні прізывали нашю бра$^{т}$ю на ратушоу (ПГ, I, 154, 1458). – **Летошний (летешний).**

**Летръ** *гл.* **лотръ**

**Летучий** *гл.* **летети**

**Летьдвойтъ** *гл.* **лентвойтъ**

**Леувитъ** *гл.* **левитъ**

**Леха** *ляха:* цыбули греды две, ботвинья леха немалая (АВК, XXXVI, 287, 1582).

**Лехкий** *гл.* **легкий**

**Лехтаръ** *гл.* **лихтаръ**

**Лехъ** *гл.* **ляхъ**

**Леченье** *гл.* **лечити**

**Лечи (лечы)** 1) *легчы:* ме$^{ст}$це было… якобы о$^{д}$ному мужу лечи (Бельск., 361); 2) *загінуць у баі:* в то$^{й}$ битве легло кгданьща$^{н}$… чотыри тисечи (Хр. п., 23б). – **Вылежати, вылежатися, долежати, легалница, леганье, легати (лягати), легающий, легший (легшый), лежа, лежанье, лежати, лежачий (лежащий, лежечий), лежень, леженье, леживати (лежывати), лежня, перележати, полежати, прележати, сполягнути.**

**Лечити (лечыти)** *лячыць:* взя$^{л}$ его и нача лечити (Віл., 446). – **Вылеченье, вылечити, вылечитися, злечанье, злечати, злеченый (злечоный), злеченье (злечение, излеченье), злечити (злечыти, излечити), злечитися (из-), злечовати, лечачий, леченье (лечба), лечецъ, лечитися (лечытися), лечный, лечоный, невылеченый (незлеченый).**

**Лечъ** 1) *але:* тотъ василецъ не есть тивунъ лечъ хлопъ (КВС, 447б, 1552); 2) *толькі:* я у право… ни передъ кимъ не хочу уступати, лечъ передъ господаремъ (КСД, 8, 1511).

**Лечы** *гл.* **лечи**

**Лечыти** *гл.* **лечити**

**Лешнегъ** *алешнік:* лешнегъ моцно кгвалтомъ высек (АВК, XXXI, 193, 1594).

**Лешничы, лешня** *гл.* **лесъ**[1]

**Лещикъ** *гл.* **лещъ**

**Лещина** *ляшчына:* на дрова... дубъ, березу, грабину, лещину они брати маютъ (РПП, 250, 1545). – **Лещинникъ, лещка** *прут.*

**Лещъ (лящъ)** *лешч:* взяли… щук и лещов и подлещыков двесте (АВК, XXXVI, 356, 1582). – **Лещикъ (лещыкъ), подлещовка, подлещъ, подлещыкъ, поллещъ.**

**Лжа** *гл.* **ложь**

**Лжейший (льжейший)** 1) *лягчэйшы:* кды бы и$^{х}$ посполу вси$^{х}$ на вагу вложоно, теды буду$^{т}$ лже$^{й}$шими ни$^{ж}$ сама про$^{ж}$но$^{ст}$ (Выкл., 129); 2) *менш значны:* да$^{л}$ по$^{д}$ него коцыкъ и подушку по$^{д}$ головы, абы ему льжейшая хороба была (Пралог, 668б); 3) *менш пакутлівы:* маетъ быти у везенью лже$^{й}$шомъ до со$^{й}$му осажонъ (Ст. 1588, 13). – **Лжей (ильжий), лжейшей (ильжийше).**

**Лжемовный** *хлуслівы:* оуста лжемовного чл$^{в}$ка сквернятся (Каліст, I, 139).

**Лженье** *гл.* **ложь**

**Лжепророкъ** *ілжэпрарок:* Іоаннъ обличалъ… пророци, лжепророки (Будны, 99).

**Лжеучительство** *распаўсюджванне лжэвучэння:* лжеучите$^{л}$ство не здалося бы$^{т}$ приято (Бельск., 271б).

**Лжехристъ** *ілжэхрыстос:* о$^{т}$ геретиковъ лжехрістовъ зведеныи... порезали себе и погинули (Каліст, II, 235).

**Лживый, лжити** *гл.* **ложь**

**Лжыца** *гл.* **ложка**

**Лза** *гл.* **слеза**

**Лзе** *гл.* **льзе**

**Ли (ль)** 1) *ці:* мы его до тре$^{х}$ кроть опытывали ставитъ ли шапъку до тыхъ светъко$^{в}$ (КВЗС, 11, 1533); 2) *калі:* хочеш ли видети невесту святобливую на$^{д}$ тебе иди$^{ж}$ до того манастыра паненского (Зб. 107, 119).

**Лианикъ** *праснак:* возьми съ собою десятеро хлебовъ и лианикъ (Скар. ТЦ, 160).

**Либертация (либертацыя)** *дакумент на вызваленне ад падаткаў:* у тое либертаціи печать большая (АВК, V, 163, 1661). – **Либертацыйный.**

**Либерыя** *ліўрэя:* съ которого сукъна пошыли пляцовымъ, на осмъ человековъ, либерыи (ИЮМ, X, 57, 1695).

**Либивый (либевый)** *схуднелы:* после и$^{х}$ выступовало иная се$^{д}$мъ кра$^{в}$ велми злыхъ и либевыхъ (Скар. КБ, 74б). – **Либивость.**

**Либо** *або, ці:* хто бы... на село либо на кгрунтъ наехавши... шкоду якую учынилъ (Ст. 1588, 200).

**Либра** 1) *мера паперы, роўная 25 аркушам:* купили паперу либеръ пять (ИЮМ, XIII, 130, 1689); 2) *мера вагі, фунт:* вага все$^{г}$ лихтара и$^{з}$ начине$^{м}$ его либру золото вынесе (Бельск., 506). – **Поллибры (пуллибры).**

**Либрария** *бібліятэка:* ме$^{л}$ свою либрарию, бо бы$^{л}$ учоны$^{й}$ (Бельск., 239).

**Либро** *глава, раздзел:* Право майдебурское, артыкулъ трыдцать шостый и пятдесятъ пятый, либро первое (ИЮМ, VIII, 399, 1624).

**Ливанъ** 1) *колер Ліванскіх гор, на схілах якіх многа мелу:* тваръ его яко ливанъ (Скар. ПП, 8); 2) *ладан:* о$^{т}$дали ему дары: золото ливанъ и сми$^{р}$ну (Зб. 82, 269б). – **Ливановый.**

**Ливиянинъ (лувиянинъ)** і **ливийчикъ** *жыхар старажытнай Лівіі:* притягнули з ни$^{м}$ зъ египту… ливияне и трого$^{л}$дитове (Біблія, 429).

**Лигургъ (лигурикъ, ликгурисъ)** і **лигирионъ** *гатунак бурштыну:* во третиемъ ряду лигургъ, ахатесъ и аметистъ (Скар. КВ, 73б).

**Лиджба, лидзба** *гл.* **личити**

**Лидимъ** *высека:* тотъ островокъ он самъ Богъдан от часу давнего лидимомъ посек (АВК, XVIII, 95, 1596).

**Лидцо** *гл.* **лицо**

**Лидъ** *прадстаўнік старажытнай семіцкай народнасці:* гу$^{н}$ны и лиды до веры свято$^{й}$ навороча$^{л}$ (Зб. 752, 22б).

**Лизати** *лізаць:* псы и свине кровь небощыковскую лизали (АВК, XVIII, 207, 1607). – **Злизованье, лижучий, подлизень** *дэталь у калёсах,* **полизачъ.**

**Ликаянинъ** *жыхар Лікіі:* собрали проти$^{в}$ку ни$^{м}$… ликая$^{н}$, мисо$^{в}$, меоня$^{н}$ (Тр. гіст., 69).

**Ликга** *саюз, аб'яднанне:* вырозумевши поляки ликгу и$^{х}$ або замыслъ, зара$^{з}$ ся рушили (Стрыйк., 561).

**Ликгурисъ** *гл.* **лигургъ**

**Ликовати (ликствовати)** *лікаваць:* звитя$^{ж}$ци все$^{х}$ непріателе$^{в}$ ликоуютъ (Апакр., 162б). – **Ликованье.**

**Ликъ** 1) *колькасць:* раховано всихъ ликомъ таляровъ тисеча и сто (ИЮМ, VIII, 96, 1691); 2) *сукупнасць:* ап$^{с}$ловъ ли$^{к}$ и м$^{ч}$никовъ почетъ... зневажили (Варл., 335б).

**Лилия (лелея, лелия, лилея)** *лілія:* лилиями на$^{д}$ жерело$^{м}$ речки плынучои услано мякко (Бельск., 248б). – **Лелейка, лилеевый (лилиовый).**

**Лиманъ** *ліман:* лима$^{н}$ гала$^{т}$ски$^{й}$ бы$^{л}$ по$^{л}$ны$^{й}$ крови и трупо$^{в}$ (Бельск., 387).

**Лимитовати** *адтэрміноўваць разгляд судовай справы:* вси справы, которие на реляцыи нашо$^{й}$ зостали, вси таковые лимитовали (АВК, XXXIX, 177б, 1598). – **Лимитация (лимитацыя), лимитованый, лимитованье.**

**Лимония (лимона)** *лімон:* на банкетъ купили... лимонии 2 (ИЮМ, XVIII, 66, 1710).

**Лина** *вяроўка:* купили лину пенковую до завешаня ваги подъ зегаръ у звоницы (ИЮМ, XIII, 80, 1699). – **Линникъ** *вяровачнік.*

**Линия (линея)** 1) *лінія, рыса:* Черта: правило, лінея (Бяр., 201); 2) *граніца:* линею есте округу тое земли Виленское... оказовали (КПД, 495, 1568); 3) *паслядоўны рад пакаленняў:* пишетъ о выводе линии для дохоженья спадковъ (АВК, XX, 63, 1591).

**Линникъ** *гл.* **лина**

**Линути** *гл.* **лити**

**Линь (линъ)** *лінь:* ведро живыхъ линей (ИЮМ, XXX, 51, 1715).

**Лиодъ** *гл.* **ледъ**

**Лиозный** *гл.* **люзный**

**Лиокалный** *лакальны:* заприщеніе ліокалное или местцовое есть (Зб. вып., 62).

**Лиондъ (лондъ)** *суша:* съ купцовъ, которые до Полши ездятъ... ліондемъ, зъ воза каждого по шести осмаковъ маютъ дати (ИЮМ, VIII, 377, 1623).

**Лионтъ (лонтъ)** *шнур, насычаны гаручым рэчывам:* пороху выдали къ девятнику фунт. 25 и ліонту саженъ три (ИЮМ, I, 43, 1679).

**Лиосъ (лесъ, лосъ)** 1) *жэрабя:* кому ся лесъ выйдетъ, тотъ маетъ присягнути (КСД, 147, 1514); 2) *лёс:* на то$^{м}$ што и$^{х}$ сча$^{ст}$е и ліосы вое$^{н}$ныи принесли, укгру$^{н}$товалися (Стрыйк., 524). – **Лиосованый, лиосовати.**

**Лиохъ** *падзямелле, пограб:* копано, где ліохъ былъ, а в тымъ ліоху пожитки были Хмельницкого (АЗР, V, 192, 1686).

**Липа** *ліпа:* на то$^{м}$ местцы липы выросли (Рач., 303). – **Липецъ** *ліпавы мёд; ліпень,* **липовка** *пасудзіна з драўніны ліпы,* **липовый, липцовый** *ліпеньскі,* **липье.**

**Лисавый, лисеня, лисица** *гл.* **лисъ**

**Лискавица** *гл.* **блискавица**

**Лисливый** *гл.* **лесть**

**Лисоватый** *гл.* **лисъ**

**Листантъ** *гл.* **лифляптъ**

**Листвие** *гл.* **листъ[1]**

**Листовникъ** *гл.* **листъ[2]**

**Листопадъ** *лістапад:* в листопаде 20 дня ума$^{р}$лъ... криштофъ радиви$^{л}$ (Еўл., 54).

**Листъ[1]** 1) *ліст (частка расліны):* ста$^{л}$ я$^{к}$ сухая липа, с которо$^{й}$ листы опадаю$^{т}$ (Зб. 82, 41); 2) *лістота:* у восень о Покрове на дереве листъ не опалъ (Барк., 152б). – **Листвие, листвяный, листокъ, листочекъ, листье.**

**Листъ[2]** 1) *ліст (паперы):* листа ис чернило$^{м}$ проси$^{л}$ (Жыц. Ал., 98); 2) *ліст (у кнізе):* въ томъ же Порадку листъ десятый (ИЮМ, VIII, 399, 1624); 3) *пісьмо:* презъ почту присланый былъ листъ (ИЮМ, III, 113, 1685); 4) *афіцыйны дакумент:* приказуемъ, штобысте сесь нашъ листъ... объволати (Гр. 1589). ◊ **Листъ баницийный, вызнаный, граничный,**

**даровный, едналыный, завитый, заручный, кглейтовный, комисийный, купчий, присяжный, ревизорский, сублевацыйный, судовый, увяжчий, умоцованый, универсальный, фундацыйный** і інш. *назвы дакументаў living рознага прызначэння.* – **Листишка, листовне, листовникъ** *кур'ер,* **листовня** *папка,* **листовый, листокъ.**

**Лисъ (лишъ)** 1) *ліс:* може$^{т}$ з птаха во$^{л}$ко$^{м}$ и лисо$^{м}$ ся переве$^{р}$нути з лиса во$^{л}$ко$^{м}$ и лвомъ быти (Дыяр., 171б); 2) *футра ліса:* колъпак чорный утерфиновый лишами подшытый (АВК, XXXVI, 42, 1582); 3) *перан. хітры, лісліві чалавек:* знаемость з его женою взя$^{л}$, хотечы оного лиса розумо$^{м}$ улови$^{т}$ (Зб. 752, 513б). – **Лисавый** *хітры,* **лисеня, лисий, лисица, лисичий (лисичный), лиска (лишка), лисоватый** *руды.*

**Литвинъ** *жыхар Вялікага Княства Літоўскага:* мне великому князю Казимиру блюсти псковитина какъ и своего литвина (АЗР, I, 51, 1440). – **Литовка, литовчичъ, литовщина** *гатунак сукна.*

**Литера (литэра)** *літара:* межи писмом свежым литеры старые (АВК, XXXII, 11, 1596). – **Литерално, литеральный** *літаральны, дакладны,* **литерка.**

**Литея (лития)** *кароткае маленне аб памерлых:* меншы помяникъ мает прочитан быти на всихъ литеях (СДГВ, 31, 1635).

**Лити** і **ильяти** 1) *ліць:* воду лилъ (Навука, 20); 2) *выплаўляць:* стре$^{л}$бу... вымисли$^{л}$ з спижи або з меди лити (Стрыйк., 542б). – **Долити, линути, линутися, литися, литый, литье, лиющий, ляный, наливаный, наливанье, наливати (налиати), наливачъ (наливка)** *чарпак,* **налити, налитися, налянье (нальянье), наляный, отливаный (од-), отливачъ, отливный, отлити (од-), переливати (пре-), перелити, перелитие, перелитый, поналивати, приливанье, приливати, прилити.**

**Лития** *гл.* **литея**

**Литовати** *гл.* **литость**

**Литовка, литовщина** *гл.* **литвинъ**

**Литонъ** *пакрывала:* треба тежъ до службы Божой литону о$^{с}$щенаго чистого непошарпаного, ляного любъ конопного (Зб. вып., 30).

**Литоргия** *гл.* **литургия**

**Литость (лютость)** *літасць:* мордеръ безъ литости маетъ быти каранъ (Ст. 1588, 402). – **Злитованье (слютование), злитованьеся, злитоватися (злютоватися, слютоватися), знелитованье (знелютованье), литовати (лютовати), литоватися, литостивый (лютостивый), литуючийся, нелитованье (нелютованье), нелитостиве (нелютостиве), нелитостивецъ, нелитостивый (нелютостивый), нелитость (нелютость), политованье, улитованье (улютованье), улитованьеся, улитоватися (улютоватися), улитостивитися.**

**Литра** 1) *мера вагі:* литра шолку бурского (ИЮМ, XXXII, 219, 1577); 2) *мера аб'ёму:* купи$^{л}$ тежъ тамъ вина литру (Зб. 82, 425). – **Литрованый** *фасаваны,* **поллитры.**

**Литургия (литоргея, литоргия)** *літургія:* литургію съ папежниками змешавшися служили (АЗР, IV, 224, 1605). – **Литургизающий, литургисати (литоргисати).**

**Литуючийся** *гл.* **литость**

**Литцо** *гл.* **лицо**

**Литье** *гл.* **лити**

**Литэра** *гл.* **литера**

**Лифа** *гл.* **лихва**

**Лифлянтъ (вифлянтъ, выфлянтъ, инфлянтъ, ифлянтъ, листандъ, листантъ)** *жыхар Ліфляндыі:* немъцы лифлянътове землю нашу псковъскую воевали (КЗ, 345, 1480).

**Лихадей** *гл.* **лиходей**

**Лихва (лифа)** 1) *прыбаўка, прыбытак:* взялъ свое зъ лихвою (Каліст, II, 413б); 2) *ліхвярскія працэнты:* жидове... купчатъ, торгуютъ лифы берутъ (КПД, 448, 1568). – **Лихварский (лифарский), лихвити, лихвярство, лихвяръ (лихваръ).**

**Лихо** 1) *зло:* много лиха поделали великому княжству Литовскому (Рач., 336); 2) *адчайна, рызыкоўна:* лихо ездишъ, втратишъ себе (КСД, 1175, 1515). – **Лихий, лихое, лихость (лихоть), лихота, лишше, лишший, прелихий.**

**Лиходей (лихадей)** *ліхадзей:* связа$^{н}$ поворозомъ лиходеи дъяволъ (Чэцця, 207). – **Лиходейство.**

**Лихожитность** *пустазелле:* много в томъ снопе коколю, при которомъ раче$^{й}$ мовити лихожи$^{т}$но$^{ст}$ (Зб. 259, 239б).

**Лихоимецъ** *ліхвяр:* не перебаченъ былъ старшій мытникъ сей, лихоимецъ (Каліст, II, 196б). – **Лихоимание (лихоимение), лихоимство, лихоимствовати.**

**Лихолетье** *ліхалецце:* мы сами в тое лихолетье вси отъ неприятеля... з домовъ своихъ розошлися (КВЗС, 57б, 1538).

**Лихосердый** *злы, ліхі:* ярости людеи лихосеръды$^{х}$ низашто не о$^{т}$бали (Чэцця, 212б).

**Лихость, лихота** *гл.* **лихо**

**Лихтанъ** *барка:* мелъ до Кгданска... шкуту одну и лихтанъ, наладованые пшеницею (АСД, IV, 263, 1583).

**Лихтаръ (лехтаръ, лыхтаръ, ляхтаръ)** *ліхтар:* посеродъ избы лихтаръ завешоный (АСД, IV, 292, 1593). – **Лихтарикъ, лихтарня (лехтарня).**

**Лихтовати** *чысціць:* войтъ маеть мети шнуръ одънакое меры... и часу мокърого альбо сухого завъжды его лихътовати (КПД, 547, 1557).

**Лице** *гл.* **лицо**

**Лицевидца** *той, хто бачыць чый-н. твар:* лицеви$^{д}$цы ц$^{р}$вы седящіи оу первы$^{х}$ оу цр$^{с}$тва (Зб. 262, 127).

**Лицемеръ (лицемерый) і лицемерникъ** *крывадушнік:* межи нихъ суть лицемери, которіи только оусты бога исповедуютъ, а сер$^{д}$цомъ далече о$^{т}$стоятъ (Будны, 157). – **Лицемерие, лицемерне, лицемерный, лицемеровати, лицемерство, нелицемерный, по лицемерски.**

**Лиценцыя** *дазвол:* ксендзу канонику за лиценцыю… робимы (ИЮМ, I, 177, 1681).

**Лицо (лидцо, литцо, лице)** 1) *твар:* лице ему пре$^{ч}$ зче$^{р}$нело все о$^{д}$ пороху (Дыяр., 178); 2) *асоба:* Съставъ, ипостась: … особа, лице (Бяр., 166); 3) *паверхня:* поущаи воды по лицу оулиць (Зб. 262, 14); 4) *доказ злачынства:* для того тебе не вешали, што лицо мало (АВК, XVIII, 43, 1582). ◊ **Въ поте лица** *гл.* **потъ**. – **Злицовати (зличковати), лицованый (личкованый), лицовати (личковати), личко, лично, личный, обличковати.**

**Личити (личыти)** 1) *лічыць:* почалъ есми иншие пенязи личити (КСД, 252, 1515); 2) *адлічваць:* жидове пере$^{д}$ ты$^{м}$ м$^{с}$ци свои дорочныи личи$^{т}$ починали во осени (Біблія, 120); 3) *залічваць:* ее межи богами личили (Царств., 74б); 4) *расцэньваць:* ле$^{т}$ см$^{р}$ти за лета живота никгды не личу (Варл., 151б). – **Доличитися (доличытися), личачий, личба (лиджба, лидзба), личеный (личоный), личенье, личитися, личманъ** *бляшка для лічэння,* **наличити (наличыти), наличоный, приличатися, приличовати, приличоный.**

**Личковати** *гл.* **лицо**

**Личманъ** *гл.* **личити**

**Личный** *гл.* **лицо**

**Личоный** *гл.* **личити**

**Лишай (лишей)** *лішай:* све$^{р}$бъ уставичны$^{й}$ если лишаи на теле (Біблія, 171).

**Лишати** *гл.* **лишитися**

**Лише (лишей)** 1) *толькі:* тутъ лише одною азбукою, а по нашому литерою онъ помылился (АЗР, V, 32, 1637); 2) *акрамя:* то оусе лишей яслей и$^{с}$ собою до ко$^{н}$стантинополимъ принесла (Валх., 70).

**Лишей** *гл.* **лишай, лише**

**Лишитися (влишитися, улишитися)** *пазбавіцца:* коли миръ станетъ, юрью князю города лишитися (АЗР, I, 1, 1340). – **Лишати, лишатися, лишеный (лишоный), лишенье, полишати, полишити.**

**Лишка** *гл.* **лисъ**

**Лишний (излишний)** *лішні:* въ королевское житло будъто приписываютъ лишніе житла (АЗР, V, 32, 1637). – **Злишей, злишковый, злишку, злишокъ (взлишокъ, излишекъ, лишокъ, слишокъ), злишъ (взлишъ, излишъ), излишество, лишнее, лишней, лишность, презлишний (преизлишний), презлишъ, преизлишество.**

**Лишоный** *гл.* **лишитися**

**Лиштва (лишта)** *ліштва:* купили гвоздя до прыбиваня лиштвы до дверей (ИЮМ, XII, 35, 1698).

**Лишший** *гл.* **лихо**

**Лишъ** *гл.* **лисъ**

**Лиющий** *гл.* **лити**

**Лкати** *гл.* **лыкати**

**Лнути** *гл.* **льнути**

**Лобзати (лобызати)** *цалаваць:* руце его лобзаю (Зб. вып., 84б). – **Лобызание, облобызание, облобызати.**

**Лобный** *гл.* **лобъ**

**Лобода** *гл.* **лебеда**

**Лобошъ** *гл.* **локгошъ**

**Лобъ** і **лебъ** 1) *лоб:* коня... въ лобъ ранилъ (АВК, I, 319, 1646); 2) *чэрап:* каза$^{л}$ ему голову утя$^{т}$ а зо лба его да$^{л}$ чару уроби$^{т}$ (Стрыйк., 444). – **Лобный.**

**Лобызати** *гл.* **лобзати**

**Ловити** 1) *здабываць (звяроў, птушак, рыбу) з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў:* ко$^{ж}$дому во$^{л}$но на свое$^{й}$ земли зве$^{р}$ ловити (Ст. 1566 I, 79б); 2) *хапаць каго-н.:* шахта... ловитъ бо на пути яко лотръ (Скар. ПС, 36); 3) *спакушаць каго-н. да чаго-н.:* шата$^{н}$ многи$^{х}$ лови$^{т}$ коли$^{с}$ веселя$^{т}$ (Зб. 261, 150). – **Залавяти, ловеный (ловленый), ловенье (ловленье), ловецкий, ловецъ, ловитва** *улоў,* **ловище (ловищо), ловка, ловливаный, ловливати (лавливати), ловный, ловушка, ловцевъ, ловчество (ловчое), ловчий, ловчиная, ловъ, ловы, ловячий, наловити, неловенье.**

**Логовина** *гл.* **логъ**

**Логовиско** *гл.* **леговище**

**Логофетъ** *гл.* **локгофетъ**

**Логошъ** *гл.* **локгошъ**

**Логунъ** *гл.* **лагунъ**

**Логчина (лащина, ложчина, ложчына, лохчина, лощина, лощына)** і **лощовина** *лагчына:* логчины оумножа$^{т}$ пшеницу (Пс. XVI, 63).

**Логъ** *лог:* почали назадъ идти подле реки Олеи логомъ (АВК, XXIV, 106, 1547). – **Логовина, логовинка.**

**Лодка** *гл.* **лодья**

**Лодонь** *гл.* **долонь**

**Лодья (лодь)** і **ладья** *ладдзя:* судами, лодьею и чолнами... привозятъ тутъ товары свое (ИЮМ, VIII, 378, 1623). – **Лодка, лодяный.**

**Лоевый** *гл.* **лой**

**Ложе (ложа, ложо)** 1) *ложак, пасцель:* по смерти жоны мает остат у мужа ложе услано (АВК, XXXIX, 50, 1578); 2) *драўляная частка ружжа:* за осаду круцицы въ ложе новое заплатили (ИЮМ, VI, 130, 1689); 3) *лафет:* выкладано въ цекавзе гармату на ложы (ИЮМ, I, 239, 1682); 4) *рэчышча:* людъ презъ сухое ложе преходилъ (Хран., 101б). – **Ложевницкий, ложеный (ложоный), ложенье, ложесно, ложитися, ложко (лужко), ложница** *спальня,* **ложничий, ложовникъ** *рамеснік, які вырабляў ложы для ружжаў.*

**Ложечка** *гл.* **ложка**

**Ложиско** *гл.* **леговище**

**Ложка (лошка, лыжка)** 1) *лыжка:* дали есми ему шесть ложекъ серебреныхъ (КСД, 209, 1515); 2) *ладанка:* ложекъ 12, полныхъ кадила (Хран., 131); 3) *прылада для зараджання гарматы порахам:* дела господарьскии... три куле и ложъка железная (КСД, 1155, 1517); 4) *ніжняя частка грудной клеткі, лыжачка:* щюпа[л] по чреву... оу лошки (Арыст., 196). – **Ложечка, ложица (лжыца, ложеца, ложыца, лыжица), ложочникъ.**

**Ложко, ложница, ложничий** *гл.* **ложе**

**Ложный** *гл.* **ложь**

**Ложо, ложовникъ** *гл.* **ложе**

**Ложочникъ** *гл.* **ложка**

**Ложчина** *гл.* **логчина**

**Ложыца** *гл.* **ложка**

**Ложь (ложъ)** і **лжа** *мана, хлусня:* рекли до иеремея пророка: ложъ ты мовишъ (Біблія, 527). – **Лганье, лгарство, лгаръ, лгати (илгати), лгучий, лженый (лжоный), лживе (лжыве), лживити, лжитися, ложно (ложне), ложный, л(ь)женье, л(ь)живый (илживый, лжывый), л(ь)жити (илжыти, л(ь)жыти), неложный, солганый, солгати (золгати), сол(ь)женье.**

**Лоза** 1) *лаза:* не мает... сеножати подкошывати и лозы теребити (Ст. 1529, 81); 2) *галлё вінаграду:* ви[н]ная лоза обрезана (Зб. 752, 31б). – **Лозина, лозка, лозникъ (лозовка)** *лазняк,* **лозовый, лозье.**

**Лоика** *логіка:* пак ли ти ся любить разумети лоику, она же учитъ з доводомъ розознати правду о[т] кривды (Скар. КБ, 3).

**Лой** *лой:* с коморы украдено лою яловичого... пудов тридцат (АВК, XXXIX, 517, 1579). – **Лоевый (лоиовый).**

**Локгофетъ (логофетъ)** *канцлер Малдаўскага княства:* у друго[г] столу локгофе[т] и еремия[ш] гетма[н] его и другая волоская рада села (Стрыйк., 624).

**Локгошъ (лагошъ, лакгошъ, лобошъ, логошъ, логощъ)** *лаўка ззаду карэты для гайдука:* обивалъ логошы у колясы (ИЮМ, XI, 82, 1697). – **Локгошовый.**

**Локгумина** *гл.* **лекгумина**

**Локоть (локеть, локецъ)** і **лукоть** 1) *локаць:* оутноу[т] ему рукоу по локоть (Арыст., 219); 2) *мера даўжыні, роўная прыблізна 0,5 метра:* за локецъ полотна кождый по грошей осми (АВК, XX, 126, 1597); 3) *згіб:* другій копецъ... на заворочанью локтя тое границы (АВК, XXIV, 392, 1583). – **Локтевый (локцевый), локтемъ, поллоктя (пуллоктя), полокотное** і **полокотщина (полокотщизна)** *пошліна з гандляроў,* **полокотный.**

**Локтати** *прагна піць:* писклята его локчу$^{т}$ кро$^{в}$ (Зб. 262, 29б).

**Локтушие** *хустка:* взяша людие смоченую муку... и свезавши у локтушия возложиша на рамена своя (Скар. КВ, 24б).

**Ломати (ламати)** і **ломити (ламити)** 1) *ламаць:* и$^{ж}$ по$^{д}$ковы лама$^{л}$ По$^{д}$ковою его про-$^{з}$вали (Стрыйк., 631б); 2) *парушаць:* имъ мы привилеи ломали (АВК, XVII, 303, 1541); 3) *рэзка змяняць:* стара$^{л}$ся… волю власную ломати (Зб. 107, 107б). – **Ломаный (ламаный), ломанье (ламанье), ломатися (ламатися, ламитися, ломитися), ломаючий (ламаючий, ламлючий), ломимый, ломовье, ломъ, наломити, наломленый, обломитися, обломокъ, оламати, оломеный, отламовати, отломити, розломати (разламати, розламати, розломити), розломитися, розломовати.**

**Лона** *гл.* **лонщакъ**

**Лонгобардъ** *гл.* **лонкгобардъ**

**Лондъ** *гл.* **лиондъ**

**Лони** *гл.* **лонщакъ**

**Лонка** *гл.* **лука**

**Лонкгобардъ (ленгобардъ)** *лангабард:* лонгоба$^{р}$ды в оную сторону пришли (Зб. 752, 338).

**Лоно** 1) *ніжняя частка чэрава:* руси$^{н}$... удари$^{л}$ печенига в то$^{л}$стое брухо головою праве на$^{д}$ лоно$^{м}$ (Стрыйк., 448); 2) *улонне, калені:* тое хлопя... о$^{ц}$ на лоне де$^{р}$жа$^{л}$ (Зб. 107, 194); 3) *нетры:* цветы… зъ внутрнего лона земли выходятъ (Мак., 100). – **Лонко.**

**Лонский** *гл.* **лонщакъ**

**Лонтъ** *гл.* **лионтъ**

**Лонцугъ** *гл.* **ланцугъ**

**Лонщакъ (лонща)** *пярэзімак:* быковъ лонщаковъ 14 (АСД, I, 146, 1571). – **Лонский** *мінулагодні,* **лони** *летась,* **лонщачка (лона), лонщачокъ.**

**Лопата (лапата)** 1) *лапата:* лапатъ десять купили для выгребаня улицъ (ИЮМ, I, 226, 1682); 2) *вясло:* повстала буря... лопаты еже есть весла з ру$^{к}$ повыбивало (Зб. 752, 113б). – **Лопатка** *невялікая лапата; лапатачная косць; лапатачная частка тушы.*

**Лопотень** *разец у выглядзе жолаба:* резецъ лопотень (КСД, 1522, 1521).

**Лосеня, лосина** *гл.* **лось**

**Лоскотати** *казытаць:* Скоктаю, скокощу: лоскочу (Бяр., 148).

**Лоскъ** *глянец:* малая кро$^{в}$ знаменуетъ соухоту... кожи чревнои не имущи лоску (Арыст., 187).

**Лосось** *ласось:* лосося купилъ самъ панъ райца (ИЮМ, IX, 173, 1692).

**Лосъ** *гл.* **лиосъ**

**Лось** *лось:* виделомъ месцо, где лося забито (АВК, VI, 24, 1589). – **Лосеня, лосий, лосина (лосицка)** *скура лася,* **лосиный (лосиневый).**

**Лотакъ (латакъ, латокъ, лотокъ)** 1) *латак:* егда посеютъ семя на поли тогда воды ведены бываютъ лотоками и смочиваютъ поля (Скар. ДЗ, 25б); 2) *жолаб на ніжнім краі даху для сцёку вады:* латаковъ паръ две до светелки (ИЮМ, II, 145, 1684); 3) *поласць:* лотоки его полны молока (Зб. 262, 21).

**Лотръ (летръ)** 1) *нягоднік:* яко што на сво$^{й}$ пожитокъ обе$^{р}$не$^{т}$ слуга, уже е$^{ст}$ злоде$^{й}$, лотромъ не слугою (Зб. 259, 315); 2) *разбойнік, грабежнік:* маетъность... отъ тыхъ же лотровъ козаковъ забрана (КЛС, 24, 1596). – **Лотрикъ (лотрыкъ), лотровати, лотровский, лотровство (лотерство), лотрыня (лотриня).**

**Лотъ** *адзінка вагі, роўная прыблізна 12 г:* купили... гвоздиковъ лоты два, шафрану лотъ (ИЮМ, XI, 40, 1697). – **Повлота (поллота).**

**Лотышъ** *латыш:* о выпроваденe… неволного лотыша (АВК, XXXVI, 355, 1582).

**Лоханья (лоханя)** *балея, ражка:* котлов 3, триногъ, лоханья (АВК, XVII, 243, 1540). – **Лохан(ь)ка (лаханка).**

**Лохчина** *гл.* **логчина**

**Лошадь** *рабочы конь:* По$^{д}$яре$^{м}$ни$^{к}$: ... конь простый, лоша$^{д}$ (Бяр., 109).

**Лошина (лошына)** *локшына:* крупъ полъкоръца, лошины полоть (КПД, 680, 1563).

**Лошка** *гл.* **ложка**

**Лощина** *гл.* **логчина**

**Лснитися** *гл.* **льснитися**

**Лубъ** *луб:* купили лубовъ десять до покрытя вежы (ИЮМ, XII, 120, 1698). – **Лубеный, лубка (лубня)** *лубянка,* **лубокъ, лубочка, лубье.**

**Лугъ** 1) *луг:* Матвей оные кони исъ лугу ее кгвалтовне взял (АВК, XXXVI, 139, 1582); 2) *забалочаны лес:* конь шол под ним у наигущыи луг и содралъ ему всю парсуну (Бава, 156). – **Луговина, луговый, лужный, лужокъ.**

**Луданъ** *гл.* **лауданъ**

**Лудити** *падманваць, ашукваць:* ма$^{р}$не нами духовници лудя$^{т}$, которие поведаю$^{т}$, же души по семъ животе живи суть (Пралог, 596). – **Вылудити, вылудитися, вылужати.**

**Лужа** *лужына:* заплатили за чотыри возы хворосту на мощене лужы за брамою (ИЮМ, X, 100, 1695).

**Лужко** *гл.* **ложе**

**Лужокъ** *гл.* **лугъ**

**Лука (люка)** і **лонка** 1) *лука:* я былъ есми на луце реки великое (Зб. 262, 124); 2) *луг, які абгінаецца ракой:* коса$^{р}$ вы$^{й}$де$^{т}$ на луку и$^{з}$ косою (Зб. 259, 272б). – **Залука** *пойма.*

**Лукавый (лукавный)** 1) *каварны, хітры:* мужъ же ея бе скупъ и лукавъ и злобивъ (Скар. ПЦ, 52б); 2) *хлуслівы:* слова ваши лукавые, и нельзе тому вери няти (АЗР, IV, 447, 1615). – **Лукавецъ, лукаво, лукавство.**

**Лукно** *мера сыпкіх і вадкіх рэчываў:* взялъ лукно муки (АВК, XVII, 250, 1541). – **Полуконное** *падатак ад сыпкіх і вадкіх рэчываў.*

**Лукоморье** *марскі заліў:* станъ ихъ бе подле лукоморья (Скар. ЛК, 2б).

**Лукоть** *гл.* **локоть**

**Лукошко** *кошык:* купили дуль лукошко и яблыкъ лукошко (ИЮМ, XI, 154, 1697).

**Лукъ$^{1}$** 1) *лук:* зброя в ни$^{х}$ луки стрелы (Царств., 80); 2) *выгіб пярэдняга краю сядла:* Бово прыгнулся на седелныи лук (Бава, 155). – **Лучникъ, налучъ, перелуковатый.**

**Лукъ$^{2}$** *цыбуля:* на паметь пришли намъ дыне и огурки лукъ (Скар. ЛК, 27). – **Лучокъ.**

**Луна** 1) *месяц:* луна... промени свои зъ себе выпускаетъ (Каліст, I, 74); 2) *першы месяц паводле месячнага календара:* припадалъ четве$^{р}$ты$^{й}$на$^{д}$цать день луны м$^{с}$ца первого (Унія, 236). – **Лунникъ** *табліца фаз месяца,* **лунный, люнатика (лунение)** *лунацізм,* **люнатыкъ (лунатикъ, лунятыкъ, люнатикъ).**

**Лундышъ, лунский** *гл.* **люндышъ**

**Лупежъ** *гл.* **лупити**

**Лупина** і **лущина** 1) *лупіна, шкарлупіна:* для одержанья ядерка менше бы$^{м}$ ся емоу зъ лупиною дорожилъ (Апакр., 43б); 2) *луска:* ести имате все еже имаютъ на собе плытвы и лупины (Скар. КЛ, 21б). – **Лупинка (лущинка).**

**Лупити** 1) *абдзіраць:* скуры лупи$^{л}$ з живы$^{х}$ (Царств., 77б); 2) *вырываць:* очи еи лупили (Зб. 82, 67); 3) *грабіць, рабаваць:* домы лупили вылупи$^{в}$ши палили (Бельск., 89). – **Вылупаный, вылупанье, вылупати (вылупяти), вылупенье, вылупити, вылупи-**

**тися, вылупленый (вылупеный), вылуповати, лупанье, лупати, лупежити, лупежникъ (лупежца, лупезца), лупежный, лупежство (лупезство, лупеньство), лупеный, лупенье, лупъ (лупежъ), нелупленый, розлупити (раз-).**

**Луска** *луска:* межи рыбами каждую ежте которая луску мае$^{т}$ (Бельск., 55б). – **Лусчастый (лущастый).**

**Лутший** *гл.* **лучший**

**Луциперъ** *гл.* **люциферъ**

**Луча** *гл.* **лучъ**

**Лучанинъ** *жыхар Луцка:* грабежи сталися людемъ твоимъ лучаномъ (АЗР, II, 98, 1511).

**Лученье** *гл.* **лучити**

**Лучина (лучына)** і **лучица** *лучына:* боръ на лучину и тежъ на цаморъ и на мастъ заводили (АСД, I, 16, 1536).

**Лучити** 1) *далучаць:* до того… панъ Цитринскій жалобу свою лучитъ (АВК, XV, 502, 1686); 2) *кідаючы, трапіць у каго-н.:* мя тотъ Юхно каменемъ у бровь лучилъ (АВК, XVII, 298, 1541). – **Влучити (улучити), влучоный (улучоный), долончоный, лученье, лучитися, лучный** *прыхільны, прыязны,* **улучати, улучевати.**

**Лучица** *гл.* **лучница**

**Лучникъ** *гл.* **лукъ$^{1}$**

**Лучница (лучица)** *смаляны факел:* сувиде$^{л}$ ихъ здалека к собе приходящи$^{х}$ с походнями и с лучницами (Пак. Хр., 6).

**Лучный** *гл.* **лучити**

**Лучокъ** *гл.* **лукъ$^{2}$**

**Лучший (лутший)** *лепшы:* лучшии е$^{ст}$ овощъ мои нежели злато (Скар. ПС, 15). – **Лучше (лутше), лучшей (лутшей), найлучший.**

**Лучъ (луча)** 1) *прамень:* мгла… загнана бываетъ лучами солнечными (Скар. ПС, 4б); 2) *зарава, святло:* яко полуденная лучь повъстанетъ тобе на вечеръ (Скар. КІ, 16б).

**Лучына** *гл.* **лучина**

**Лущастый** *гл.* **луска**

**Лущина** *гл.* **лупина**

**Лщенье** *гл.* **лесть**

**Лыжка** *гл.* **ложка**

**Лыкати (лкати)** *усхліпваць:* нарекалъ и лыкалъ плачучи (Пралог, 599б). – **Лыкание (лкание), полыкати.**

**Лыко** 1) *лыка:* бортнико$^{м}$ во$^{л}$но лы$^{к}$ на лезиво... взяти (Ст. 1529-Ф, 122); 2) *нізка рыбы:* купили рыбъ лыко (ИЮМ, II, 140, 1684); 3) *вяроўка з лыка як мерная прылада:* границъ того именья... лыкомъ есмо вымерали (АВК, XVII, 307, 1541); 4) *адзінка вымярэння зямлі:* батько нашъ далъ отцу ихъ... одмену въ поли въ тое жъ лыко (АВК, XVII, 11, 1539). – **Лычакъ** *вяроўка з лыка,* **лычный (лычаный, лыченый).**

**Лысина** 1) *лысіна:* Пле$^{ш}$: лысина (Бяр., 105); 2) *белая пляма на лбе некаторых жывёл:* о украденье зъ стайни коня... рыжого, надъ очима лысина белая (АВК, XVIII, 342, 1645); 3) *светлы конскі налобнік:* лысины две золотомъ вышитые (АВК, XXI, 168, 1557). – **Лысинка, лысый, прилысый.**

**Лыскавица** *гл.* **блискавица**

**Лыскаръ** *рыдлёўка:* вземъ лыскаръ нача$^{л}$ копати (Чэцця, 203б).

**Лыстъ** *гл.* **лытка**

**Лысый** *гл.* **лысина**

**Лытка** і **лысть** 1) *лытка:* почали лытъки его до коленъ пороти (Зб. 82, 191б); 2) *свіная лапатка:* мяса секъ до печеня и лытку до вареня (ИЮМ, V, 95, 1688). – **Лыточный.**

**Лыхтаръ** *гл.* **лихтаръ**

**Лычакъ, лычный** *гл.* **лыко**

**Ль** *гл.* **ли**

**Львеня, львица** *гл.* **левъ**

**Львовецъ** *жыхар Львова:* руси на львовьце не помагати (АЗР, I, 1, 1340).

**Льгота** *ільгота:* въ речи и потребе земской… льгота не будетъ (АЗР, III, 101, 1559).

**Льжейший** *гл.* **лжейший**

**Льживый, льжити** *гл.* **ложь**

**Льзе (лзе)** *можна:* льзе бы намъ то дело делати (АЗР, I, 108, 1486).

**Льнованое** *гл.* **ленъ**

**Льнути (лнути)** 1) *ліпнуць:* гды бы ся еще тая трутизна тымъ медомъ не осолодила, певне бы... мухи на ней не льнули (АЗР, IV, 90, 1595); 2) *хіліцца:* не льнешъ до света (Мак., 265). – **Лнучий, прильнувший, прил(ь)нути (прыл(ь)нути), сольнутися, улнути.**

**Льняный** *гл.* **ленъ**

**Льснитися (лснитися, льстнитися)** і **льснутися (льстнутися)** *ільсніцца:* половица того паркгамину тончейшая и од натираня льснится (АВК, XXXII, 15, 1596). – **Леснующий-ся (ильснущийся), лснячийся, л(ь)сненье, л(ь)щючий, ольщение.**

**Льстивый, льстити** *гл.* **лесть**

**Любезный** 1) *прыемны, мілы:* наименова$^{л}$ оную оферу собе любезную (Каз. Кір., 209б); 2) *прывабны:* есть велми любезная земля и велми красная (Валх., 86б); 3) *шаноўны, паважаны:* любезные презвитеры отнюдь ставити и совершати не маемъ (АЗР, IV, 35, 1590). – **Любезнейший, любезникъ, любезно (любезне), любезность, прелюбезный.**

**Любити** 1) *любіць:* мене вся бра$^{т}$я любили (Зб. 752, 562); 2) *кахаць:* рахи$^{л}$... се якович подобала... бо ю люби$^{л}$ (Бельск., 22); 3) *мець цягу да чаго-н.:* любите справедливость (Скар. ПБ, 3). – **Залюбити, любимикъ, любимый, любитель, любительно, любительный, любитися, любленый, люблєнье, люблятися, любо, любовати, любовне (любовно), любовникъ, любовница, любовный, любовь, любость, любый, любячий (любящий), нелюбимый, нелюбовъ, нелюбящий, полюбити, полюбитися, полюбленый, полюбовно, полюбовный, прилюбити, прилюбляти.**

**Любо** *гл.* **любити, любъ**

**Любовь** *гл.* **любити**

**Любодарованье (любодарование)** *шчодрасць:* Любочестіе: ... любодарова$^{н}$е, охотное а гойное дарованье (Бяр., 75).

**Любодей (любодейца)** *пралюбадзей:* любодеи жоноцкии недостаточныи ср$^{д}$цемъ (Зб. 262, 96). – **Любодеевъ, любодейница (любодеица, любыдеица), любодейный, любодеяние, любыдействовати (любыдеяти).**

**Любомудрие** *любоў да мудрасці, ведаў; філасофія:* Філософіа: мудро$^{ст}$, люблєніе мудрости, любомудріе (Бяр., 320). – **Любомудрецъ, любомудрый.**

**Любоплотный** *які дагаджае свайму целу:* любопло$^{т}$ны$^{х}$ емле$^{г}$ бесъ (Зб. 82, 413).

**Любоподвижный** *дзейсны:* любоподвижный бегъ провадилъ (Смату., 36).

**Любоприимный** *які з прыхільнасцю прымаецца ўсімі:* манита... была любопріимна вси$^{м}$ люде$^{м}$ (Вісл., 34б).

**Любопытный** *дапытлівы:* Буесловный: любопытный (Бяр., 197). – **Любопытствовати.**

**Любость** *гл.* **любити**

**Любочестие** *славалюбства:* пыхи ветвіе любочестіе, похлебство, хелпливость, порожняя слава (Навука, 55). – **Любочестный.**

**Любучанинъ** *жыхар Любуча:* люди твои... мценяномъ и любучаномъ многіе шкоды починили (АЗР, I, 107, 1486).

**Любъ (любо)** 1) *або, ці:* если бы Пан Бог поветрее любъ голод допустити рачыл (АВК, XXXII, 183, 1596); 2) *хоць, хаця:* дети зъ небожчикомъ маемъ, любо еще недорослые (ИЮМ, VIII, 528, 1636).

**Любыдействовати** *гл.* **любодей**

**Любый, любячий** *гл.* **любити**

**Людвисаръ** *ліцейшчык:* Петру людвисару на горелку… дали (ИЮМ, X, 149, 1695).

**Люди (люде, людзи)** 1) *людзі:* людземъ шкоды починилъ (АСД, I, 346, 1643); 2) *жыхары:* люди оного места… браны позамыкали (Алекс., 10б); 3) *падданыя:* его люде… не мають въ заставу подъ ворота ходити (РПП, 72, 1517); 4) *сведкі:* маешъ ли ты на то люди, передъ кимъ онъ тебе билъ (КСД, 21, 1510); 5) *воіны:* умыслили есьмо замъки наши тамошніе людьми посилити (КПД, 652, 1563). – **Безлюдный, безлюдье, людишки, людки, людникъ** *сведка,* **людничество, людность, людный, людованье, людский, людско, людскость, людство (людейство), людцы, людщина** *від пабору,* **людъ.**

**Люзный (лезный, лиозный)** *вольны, нічым не заняты:* су$^{д}$ шляхе$^{т}$но$^{г}$ братоше$^{в}$ско$^{г}$ яко чоловека люзно$^{г}$ бе$^{з}$ слу$^{ж}$бы в ме$^{с}$те розбое$^{м}$ ба$^{в}$лючогосе... всказа$^{л}$ (КАР, 83б, 1648).

**Люка** *гл.* **лука**

**Люкгомина** *гл.* **лекгумина**

**Люкреция** *гл.* **лякрыцея**

**Люнатикъ** *гл.* **луна**

**Люндышъ (лундышъ, люндишъ)** *гатунак сукна (першапачаткова выраблялася ў Лондане):* шубка невестья сукна люндышу чорного (АВК, XXVIII, 58, 1605). – **Люндышовый (люндышевый), люнский (лунский).**

**Люра** *палонка:* тое вже время наступуе, же на Днепру люры оказують и речки иные малые роспущаитъ (АЗР, V, 256, 1692).

**Люстрация** *праверка, інспекцыя:* подавалась просьба объ оставленіи въ своей силе люстраціи п. Антоневича (ИЮМ, XXV, 43, 1715).

**Лютейший** *гл.* **лютый**

**Лютеранинъ (лютерианинъ)** і **люторъ (лютаръ)** *лютэранін:* лютеранове и евангеликове въ томъ артыкуле зъ рымляны згажаются (Гарм., 178). – **Лютеранский (лютерский).**

**Лютня (лютина)** *лютня:* Трыщану исполнилося серцэ веселем слухаючи лютни (Трыст., 102). – **Лютниста.**

**Лютовати** *гл.* **литость**

**Люторъ** *гл.* **лютеранинъ**

**Лютость** *гл.* **литость, лютый**

**Лютый** 1) *злы, крыважэрны; бязлітасны:* пуска$^{и}$ з нами лвы лютые (Алекс. 1697, 42б); 2) *пакутны:* сме$^{рт}$ грешнико$^{м}$ люта (Дыяр., 169б); 3) *поўны выпрабаванняў:* времена люта суть (АСД, II, 25, 1605); 4) *вельмі моцны ў сваім праяўленні:* была зима велми лютая (Патр. К, 53); 5) *люты (назва месяца):* изали ныне не естъ месяцъ люты$^{й}$ (Зб. 752, 535). – **Люте (люто), лютее, лютейший, лютое, лютость, наслютейший.**

**Лютэцыянинъ** *жыхар Лютэцыі:* лютэцыяны и брытанны… зъехалися (Атыла, 190).

**Люциферъ (луциперъ, люциперъ, люцыперъ)** *д'ябал:* на люциферу теды… якобы корона была (Зб. 261, 81). – **Люциперский, люциферианинъ, люциферовъ.**

**Люцыдовати (люцидовати)** *высвятляць абставіны:* две службы Лясковских... с певным ограниченем люцыдовавшы лекговал (ИЮМ, XXVI, 184, 1667).

**Люцыянинъ** *жыхар Люцыі:* з люцыяны, арморыки… зъехалися были (Атыла, 190).

**Лябиринтъ** *лабірынт:* если мне веришъ вступишъ і ты жебы тебе света сего зло[с]ливы[й] лябири[нт] якъ поча[л] не звелъ (Зб. 107, 66б).

**Лявда** *гл.* **ляудумъ**

**Лявданъ** *гл.* **лауданъ**

**Лявдумъ** *гл.* **ляудумъ**

**Лявета** *лафет:* за роботу ляветы дубовые сталмаху дали (ИЮМ, X, 151, 1695).

**Лягати** *гл.* **лечи**

**Лягонъ (лагонъ, ляконъ)** *гатунак віна:* купили... гарнецъ лягону (ИЮМ, XI, 147, 1697). – **Лягонский (лагонский, ляконский).**

**Ляда** *гл.* **леда**

**Лядакуды** *абы-куды:* не пытаючися, лядакуды, але бы заразъ пошолъ (АЗР, IV, 233, 1605).

**Лядахто** *гл.* **ледахто**

**Лядашто** *гл.* **ледашто**

**Лядаякий** *гл.* **ледаякий**

**Лядвие** 1) *бядро:* свирепа не может ити: лядви ей отбиты заднии (АВК, XVII, 172, 1540); 2) *паясніца:* оувязоуетъ поя[с] на ля[д]ви ихъ (Зб. 262, 17); 3) *нырка:* веселитися будутъ лядви мое (Скар. ПС, 35б). – **Лядвина (ледвина).**

**Лядо** *ляда:* розроблено ново лядо на засеянье жита (ИЮМ, XXII, 380, 1653). – **Лядище.**

**Лядованье** *гл.* **ладовати**

**Лядовница, лядунка** *гл.* **ладовница**

**Лядунокъ** *гл.* **ладунокъ**

**Лязуръ** *гл.* **лазоръ**

**Ляикъ (лаикъ)** *міранін:* Людинъ: мірскій чловекъ, ляикъ (Бяр., 75).

**Ляймецъ** *гл.* **лямецъ**

**Лякатися** *гл.* **лекатися**

**Ляконъ** *гл.* **лягонъ**

**Лякрыцея (люкреция)** *лакрыца:* люкреціи полъфунта (АВК, VIII, 513, 1634).

**Лякъ** *лак:* купили ляку на потребу мескую (ИЮМ, XIV, 40, 1700).

**Лямбрыонъ** *прадстаўнік старажытнай заходнееўрапейскай народнасці:* з люцыяны, арморыки… рыпарыялами, брыкгоны, лямбрыоны… зъехалися (Атыла, 190).

**Ляментъ (ламентъ)** *лямант:* бы[л] в месте велики[й] плачъ и ляме[нт] по детка[х] свои[х] о[т] матокъ (Біблія, 38). – **Ляментацыя** *элегія,* **ляментовати, ляментоватися.**

**Лямецъ (ляймецъ)** *лямец:* за лямецъ до хомута 27 вос. (ИЮМ, XXI, 40, 1711). – **Лямованье** *аблямоўванне.*

**Лямпа (лампа)** 1) *лямпа:* горела лямпа завжды въ намету (Хран., 105); 2) *лампада:* пре[д] образо[м] збавителя свечи запаленые або лямпы горя[т] (Зб. 261, 208б).

**Лямпартъ (лампартъ, лемпартъ)** 1) *леапард:* не е[ст] та[к] прудки[й] елень, ани ля[м]па[р]тъ, ани тигрисъ (Пралог, 547б); 2) *шкура леапарда:* седло дей шарълатъное, лемъпартовъ три (АВК, XVIII, 44, 1582).

**Лянвойтъ** *гл.* **лентвойтъ**

**Ляндкграфъ (ландграфъ, лянткграфъ)** *удзельны нямецкі князь:* але ся тое даромное разрешенье и бл[с]веніе не надало ляндкграфовн (Апакр., 174).

**Лянка** *гл.* **ленъ**

**Лянтвойтъ** *гл.* **лентвойтъ**

**Лянткграфъ** *гл.* **ляндкграфъ**

**Ляный** *гл.* **лити**

**Ляска** *гл.* **леска**

**Ляскати** *ляскаць:* зубами ля$^{с}$кали… а кости моро$^{з}$ проникалъ (Пралог, 503).

**Лясковый** *гл.* **леска**

**Лясъ** *гл.* **лесъ**[1]

**Лятавецъ (летавецъ)** *здань:* лятаве$^{ц}$ приходи до тэ$^{й}$ ту невясты (Еўл., 5).

**Лятарня (латарня, летарня, лятарка, лятерня)** *паходня, ліхтар:* писалъ въ обозе у лятерни (АЗР, III, 195, 1576).

**Лятати** *гл.* **летети**

**Лято** *гл.* **лето**

**Лятописецъ** *гл.* **летописецъ**

**Лятороска** *гл.* **леторосль**

**Лятрия** *пахвала ў гонар Бога:* лятрія есть честь самому Богу (Зб. вып., 101).

**Ляудумъ (лавдумъ, лаудумъ, лявдумъ)** і **лявда** *рашэнне сейміка:* ляудумъ ку активованью поданое есть до книгъ кгродскихъ (АВК, IV, 46, 1668).

**Ляховица** *гл.* **ляхъ**

**Ляхтаръ** *гл.* **лихтаръ**

**Ляхъ (лехъ)** *паляк:* ляхо$^{м}$ о$^{т}$чизна власная придавала смелости (Стрыйк., 485б). – **Ляховитинский, ляховица, ляшокъ.**

**Ляцедимонянъ** *гл.* **латедемонъ**

**Ляцнути** *гл.* **лакнути**

**Ляшокъ** *гл.* **ляхъ**

**Лящъ** *гл.* **лещъ**

# М

**Маавитянка** *гл.* **моавитъ**

**Маврь (мауръ)** *негр:* маврове бе$^{з}$ лито$^{с}$ти и$^{х}$ пудили (Зб. 107, 94).

**Магарычъ** *гл.* **могоричъ**

**Магерка** *гл.* **макгерка**

**Магистеръ (маистеръ)** і **мештеръ (мейстеръ, местеръ), мистръ (мийстръ)** 1) *кіраўнік духоўна-рыцарскага ордэна:* бы$^{л}$ магисте$^{р}$ еквиту$^{м}$, то е$^{ст}$ гетма$^{н}$ (Бельск., 166б); 2) *настаўнік:* мистра школьного... плебанъ посылалъ до дому тыхъ Козельскихъ (АВК, XVII, 265, 1541). – **Магистровство, местеревъ.**

**Магистратъ (маистратъ, майстратъ)** *магістрат:* постановенье... за позволеньемъ всего магистрату места Полоцкого записано (АСД, I, 321, 1640). – **Маистратовский, маистратовый.**

**Магуметанинъ** *гл.* **махометанинъ**

**Магъ** *гл.* **макгъ**

**Маджаръ (макгаръ)** *жыхар Стаўрапальшчыны:* сами ся мяную$^{т}$ макгарами, а ту$^{р}$ки зову$^{т}$ и$^{х}$ маджарами (Стрыйк., 420б– 421).

**Мадианинъ (мадиянинъ)** і **мадиамлянинъ (мадыамлянинъ), мадианитъ (мадиянитъ, мадыанитъ), мадианитянинъ, мадиянъ (мадиямъ)** *жыхар Мадыі:* пошли теды ста$^{р}$шыи моавиты и мадияны (Біблія, 201). – **Мадианитка (мадиянитка).**

**Маевый** *гл.* **май**

**Маентность** *гл.* **маетность**

**Маеранъ** *маяран:* звыкли грекове до оливы и балсаму прикладати... маеранъ, ладанъ, кадило (Зб. вып., 16).

**Маеръ** *гл.* **маиоръ**

**Маестатъ (маистатъ, майстатъ, мойстатъ)** 1) *каралеўская годнасць, улада:* отозвалися до мо$^{й}$стату нашого кролевъского (КСД, 1043, 1522); 2) *усемагутнасць:* бо$^{г}$... славе$^{н}$ оу маистате своемъ (Валх., 57); 3) *трон:* маестатъ с перелъ и дорогого каменя будованы$^{й}$ (Зб. 259, 104). – **Маестатный, маестатовый (майстатовый), маестовати** *караляваць,* **маестуючий.**

**Маетность (маентность, майность)** *маёмасць:* дарую того мужа моего Марътина дво$^{р}$цомъ моимъ лутишскимъ зо всею мае$^{т}$ностью (КВС, 439б, 1552). – **Маетностка, маетный, маетокъ** *маёнтак,* **немаетность, немаетный, полмаетности.**

**Маждзеръ** *гл.* **можджеръ**

**Мазати** 1) *мазаць:* мазали оливою мъноги$^{х}$ немоцныхъ (Цяп., 50б); 2) *памазваць:* повиненъ Іерей мазати окрещеннаго на челе (Зб. вып., 17); 3) *абмазваць:* мазали тараны материею смо$^{л}$ною (Бельск., 230б); 4) *ганьбіць:* чужоложствомъ себе не мажу (Мак., 24). – **Вымазаный, вымазати, вымазовати, замазаный, замазати, мажучий, маза** *націранне,* **мазанка, мазаный, мазанье, мазатися, мазница, мазнути, мазь, немазаный, обмазаный, обмазати, омазание, подмазати, умазаный, умазати.**

**Мазуръ** і **мазовшанинъ** *мазур:* поляки, помо$^{р}$чицы, мазурове тыи напре$^{д}$не$^{й}$шие боги мели (Стрыйк., 433).

**Мазь** *гл.* **мазати**

**Маиевый** *гл.* **май**

**Маиоръ (маеръ)** *маёр:* заплатили за чтыри гарцы меду, узятыхъ для маіора и офицеровъ (ИЮМ, XIII, 43, 1699).

**Маистатъ** *гл.* **маестатъ**

**Маистеръ** *гл.* **магистеръ**

**Маистратъ** *гл.* **магистратъ**

**Май** 1) *май:* Авъ: май м$^{с}$цъ, або траве$^{н}$ (Бяр., 221); 2) *зялёнае веццe:* маю къ духу святому до ратушы купили возъ (ИЮМ, I, 45, 1679). – **Маевый (маиевый).**

**Майность** гл. **маетность**

**Майстатъ** *гл.* **маестатъ**

**Майстеръ (мастеръ)** 1) *спецыяліст у якой-н. справе, які кіруе вытворчым працэсам:* Архімагиръ: … кухмистръ, майсте$^{р}$ кухаро$^{м}$ (Бяр., 237); 2) *умелы работнік:* сей былъ мастеръ досконалый дела медяна (Скар. ТЦ, 138). – **Майстерство (майстровство, мастерство), майстровалъ (майстровичъ), майстровати, майстровъ (мастеровъ).**

**Майстратъ** *гл.* **магистратъ**

**Майстровати** *гл.* **майстеръ**

**Макгаръ** *гл.* **маджаръ**

**Макгерка (магерка)** *магерка:* макгерка чорная з дзвема перы белыми жоравыми (АВК, XXXVI, 369, 1590).

**Макгнесъ (макгнетъ)** *магніт:* макгне$^{с}$ которую штуку великую железа до себе тя$^{г}$не$^{т}$ (Зб. 259, 183).

**Макгула** *гл.* **макула**

**Макгъ (магъ)** *маг:* в египте и пе$^{р}$сеи кроли звали макги (Бельск., 199б).

**Македонъ (макидонъ, мацэдонъ)** і **македончикъ, македонянинъ (макидонянинъ)** *македонец:* о$^{т}$ которого певною енеалокгиею пошли македонове (Стрыйк., 421б).

**Маккавей** *кнігі Старога Запавету:* ма$^{к}$каве$^{й}$ 3 ли$^{ст}$ (Бельск., 93). – **Маккавейский (маковейский, махавейский), макхавейчикъ** *старазапаветны свяшчэннік.*

**Маковица** *упрыгожанне акруглай формы на верхняй частцы прадмета:* на$^{д}$ престоло$^{м}$... учини$^{л}$... яблоко або маковицу золотую (Бельск., 327б). – **Маковичка.**

**Маковый** *гл.* **макъ**

**Макула (макгула, макуля)** *загана, недахоп, пляма:* на$^{м}$не$^{и}$шая змаза и макула до него прильнути не можетъ (Карп., 34б). – **Макулка.**

**Макхавейчикъ** *гл.* **маккавей**

**Макъ** 1) *мак:* маки, горохи, ячмень... морозъ побилъ (Барк., 165б); 2) *насенне маку:* в томъ свирне маку бочка (АВК, XXI, 186, 1557). – **Маковый.**

**Малако** *гл.* **молоко**

**Маланья** *гл.* **молонья**

**Маларъ** *гл.* **малевати**

**Малвасия** *гл.* **малмазия**

**Малдрикъ (мандрикъ, мандрыкъ)** *салодкі сырок:* за малы$^{й}$ округлы$^{й}$ сыръ албо за ма$^{л}$дрикъ осмъ пенези$^{й}$ (Ст. 1588, 514).

**Малевати (малиовати, маловати)** 1) *маляваць:* маляръ… тваръ кролевскую малюетъ (Мак., 283); 2) *уяўляць:* выображеньемъ образы малевалъ (Хран., 19б). – **Малеваный (малиованый, малованый), малеванье (малиованье), малярский (малерский, молярский), малярство (малерство, модлярство), маляръ (маларъ, малеръ, молеръ), молярова, намалеваный (намалюваный), намалевати, немалеваный, обмалевати, одмаловывати, отмалеванье (отмалиованье), подмалеваный.**

**Маледиктъ** *ліхадзей:* коли ся и$^{м}$ назва$^{т}$ не хотелъ, называли, маледикте… што з нами маешъ за справу (Пралог, 517).

**Малейший** *гл.* **малый**

**Маленъ (мелионъ)** *кавун:* орехи маючи овочъ велики$^{й}$ яко малены (Алекс., 40).

**Маленький** *гл.* **малый**

**Малеръ** *гл.* **малевати**

**Малефитъ** *член старажытнай рэлігійнай секты:* квинафи малефици (Валх., 56б).

**Малечко** *гл.* **малый**

**Малжонка (малженка)** *жонка:* просилъ ее абы ему была ма$^{л}$жо$^{н}$кою (Патр. П, 94б). – **Малженский (малжонский), малженство (малжонство), малжонковъ, малжонокъ (молжонокъ), молжонецъ.**

**Малигна** *ліхаманка:* захоровалъ на горячку малигну (АСД, XI, 117, 1753).

**Малинникъ** *настойка з маліны:* отъ барилы кестранку и малиннику по 6 грошей (АЗР, III, 194, 1576).

**Малиовати** *гл.* **малевати**

**Малиогранатъ** *гл.* **малокгранатъ**

**Малитва** *гл.* **молити**

**Малити** *гл.* **малый**

**Малицыя** *каварства, хітрасць:* для пробованя своихъ лиценцый, або рачей малицый, але и высокостей небесныхъ тыкаются (Пыт., 95).

**Малмазия (малвасия, малмазея, малмазыя, мальвазея)** *гатунак віна:* отъ куфы малмазіи копа одна (АЗР, IV, 250, 1605).

**Мало** *гл.* **малый**

**Малобачный** *патаемны:* послалисмы до него, прекладаючи ему... малобачные поступки (Апакр., 13).

**Маловажный** *малаважны:* слабые неякіе и малова$^{ж}$ные вносячи словца (Варл., 253). – **Маловажити** *пагарджаць.*

**Маловати** *гл.* **малевати**

**Маловерный** *малаверны:* чи можемъ брати за кумовъ еретиковъ или инныхъ маловерныхъ (Зб. вып., 12). – **Маловерие, маловерство.**

**Маловременный** і **малолетный** *кароткачасовы:* не лишемся за маловременныя страсти житья сего (Чэцця, 315б).

**Малогласне** *немнагаслоўна:* Низвутлежно: смеренне и малогласне (Бяр., 98).

**Малогодный** *малапрыгодны:* настали слабы и малого$^{д}$ны цесарове (Бельск., 395б).

**Малодушный** *маладушны:* вла$^{с}$но$^{ст}$... тая приналежи$^{т}$ до дару породы которою святые малодушъныхъ утве$^{р}$жаю$^{т}$ (Зб. 259, 525). – **Малодушие.**

**Малозрачный** *які дрэнна бачыць:* боудет ли подобни$^{к}$ очима животны$^{м}$... малозрачніи сеи е$^{с}$ глоупъ (Арыст., 176).

**Малокгранатъ (малиогранатъ)** 1) *плод граната:* у долу при ногахъ тоеи$^{ж}$ ризы въоколо учинишъ яко малокгранаты зъ иаки$^{н}$фу (Біблія, 145); 2) *віно, прыпраўленае гранатам:* не можетъ ся засъ о$^{т}$правовати служба Божая... на вине піолунковымъ, декокте, агресте, маліогранате (Зб. вып., 19).

**Малокормящий** *малапажыўны:* кормъ... малокормящіи оугодни соу$^{т}$ якобы марулія и яблоко (Арыст., 217).

**Малолетный** *гл.* **маловременный**

**Малолюбие** *непрыхільнасць:* мнози власы на ср$^{д}$цы и на чреве оуказуетъ прироженіе скотъское и малолюбіе до правды (Арыст., 176).

**Маломожный** *бядняк:* маломожнымъ не сотвористе мл$^{с}$тне (Чэцця, 289б).

**Маломоцный** і **маломощный** *слабы, нядужы:* Вредны$^{и}$: вродоватый, бедный, маломощный (Бяр., 17).

**Маломясный** *худы:* весь живо$^{т}$ соу$^{х}$, а груди маломясныи (Арыст., 186).

**Малооголошеный** *малавядомы:* на томъ малооголошеномъ поместномъ синоде... зъедноченье с римскимъ западнымъ костеломъ будовано и чинено не было (Апакр., 14).

**Малопожиточный** *малакарысны:* млынокъ малопожиточный, кгдыжъ вода барзо мала (АВК, XIV, 619, 1597).

**Малопотребный** *які не з'яўляецца неабходным:* где бы на ме$^{ст}$цу малопотребно$^{м}$ было скробано... то$^{г}$ды шкодити не можэ$^{т}$ (Ст. 1566, 88б).

**Малопочесный** *які не карыстаецца пашанай:* габи$^{т}$ зако$^{н}$ныи... як малопочесный ненавиделе$^{с}$ (Варл., 23).

**Малопристойный** *які мала адпавядае правілам прыстойнасці:* маетъ в собе беседа пытаня и о$^{д}$казы якіись малопристойныи (Мак., 20б).

**Малослыханый** *малачутны:* его за тотъ срокги$^{й}$ а малослыханы$^{й}$ учинокъ почтивости и го$^{р}$ла о$^{т}$судили (КЛС, 93, 1597).

**Малосонный** *які мала спіць:* боуде$^{т}$ то$^{л}$стъ… и малосоненъ (Арыст., 184).

**Малость** *гл.* **малый**

**Малоукъ** *недавук:* некоторыи малоукове, которыи безъ розсудку писмо бж$^{с}$тве$^{н}$ное читаютъ... споръ чинятъ (Каліст, II, 32). – **Малоучоный.**

**Малоумный** *слабы на розум:* князь малооумныи и многообидливый (Зб. 262, 108). – **Малоумие.**

**Малоучоный** *гл.* **малоукъ**

**Малпа** *малпа:* та$^{м}$ была незличоная велико$^{ст}$ ма$^{л}$пъ (Алекс., 40). – **Малпий.**

**Малый** 1) *невялікі:* котловъ малыхъ пять (АЗР, III, 49, 1553); 2) *кароткі па часе:* вжо ночи малыи бываютъ (АЗР, III, 3, 1506); 3) *нешматлікі:* король поехалъ з малою дружыною (Трыст., 28); 4) *малалетні:* мы въ тотъ часъ еще есмо были малы (КСД, 162, 1514); 5) *малаважны:* нарека$^{л}$ упа$^{д}$ку велико$^{г}$ з малои причыны (Бельск., 84б). – **Замало (замала), змалити, змалу, малейший, маленький, маленько (малечко), малети, малехонько, малити, малитися, мало, малость, маль, малютка, малюткий, малючкий, малючко, намале, немало, немалый, нимало, помалети, понемалу.**

**Мальвазея** *гл.* **малмазия**

**Малюмъ** *зло, бедства:* Зло: злое, лютое, малюмъ (Бяр., 45).

**Малютка** *гл.* **малый**

**Маляръ** *гл.* **малевати**

**Мама** *мама:* дитя оное... мовило мама, мама (Зб. 752, 6). – **Мамка.**

**Маманихоликъ** *меланхолік:* николи маманихоликомъ ся не показалъ (Пралог, 646б).

**Мамзеръ (манзеръ)** *пазашлюбнае дзіця:* не войдеть резанецъ до дому божего ани мамзеръ (Біблія, 226).

**Мамна** *гл.* **манна**

**Мамона (маммона)** *багацце:* бруху и мамоне служатъ (Карп., 7б).

**Мамрамъ, мамранъ** *гл.* **мембранъ**

**Манастыръ** *гл.* **монастыръ**

**Мандатъ (мондатъ)** і **мандатолъ** *каралеўскі ўказ:* мандатъ нашъ подалъ пречонымъ бурмистромъ (Арх. ЮЗР, VIII-5, 349, 1605). – **Мандатовый.**

**Мандополинъ (мандополюсъ)** *прадстаўнік старажытнай хрысціянскай секты:* хрестіане… тамо мандополи соу$^{т}$ везваны (Валх., 83б).

**Мандрагора (мандрогора)** *мандрагора:* на$^{р}$ва$^{л}$... яблочо$^{к}$, которы$^{х}$ зову$^{т}$ мандрагора (Бельск., 22). – **Мандрагоровый.**

**Мандрикъ** *гл.* **малдрикъ**

**Манеля (манела, манелля)** *бранзалет:* позна$^{й}$ чи$^{й}$ то пе$^{р}$стень и манеля (Біблія, 88). – **Манелька.**

**Манета** *гл.* **монета**

**Манея** *манія:* и$^{х}$ манея... ростирки це$^{р}$кви божей чини$^{т}$ (Стрыйк., 510).

**Манзеръ** *гл.* **мамзеръ**

**Манипуляръ** *пояс, які ксёндз вешае ў час абедні на левую руку:* стула зъ манипуляромъ (АСД, VIII, 176, 1601).

**Манисто** *гл.* **монисто**

**Манистъ** *паслядоўнік пратэстанцкай секты Сімоніса Меннона:* еретиковъ естъ безъ числа, которыи называются… анабаптистове, квакрове, манистове (Зб. вып., 87).

**Манита** *гл.* **монета**

**Манити** *маніць, хлусіць:* намъ манилъ и проклинался, будто онъ правдиво господарю своему... служитъ (АЗР, IV, 480, 1615). – **Подманеный, подманити, подманывати.**

**Манифестацыя** *публічнае выступленне:* манифестацыя противо тое конституцыи одъ велю ихъ... занесена естъ на сейме (АВК, I, 97, 1666).

**Манихей** і **манихейчикъ** *маніхей (член секты, заснаванай Манесам):* которыи называются… семипелягіане, манихеи (Зб. вып., 87). – **Манихейский.**

**Маница** *від вопраткі:* маница, лисами подшытая (АВК, XXVIII, 79, 1605).

**Маниячество** *гл.* **маньякъ**

**Манка** *муфта:* возме$^{т}$ собе клобу$^{к}$ ша$^{п}$ку ма$^{н}$ку (Зб. 261, 87б).

**Манна (мамна)** 1) *манна:* манну богъ послалъ с небеси на пищу (Скар. КВ, 2); 2) *манныя крупы:* возми молока... вложи в него манны (Арыст., 214).

**Мановение** *узмах рукой, які перадае чый-н. загад, жаданне:* оные знаки и мановенія... внутръные призволе$^{н}$я явне показали (Навука, 157).

**Мановица** *абочына:* соблазни$^{л}$ и$^{х}$ ити мановицею а не по дорозе (Пс. XVI, 110б).

**Маностыръ** *гл.* **монастыръ**

**Манотолита** *гл.* **моноталита**

**Мантачъ** *гл.* **матати**

**Мантикоръ** *міфічнае стварэнне:* ма$^{н}$тикори… маю$^{т}$ три ряды зубо$^{в}$ (Бельск., 12б).

**Мантия (мантыя, мантъ)** *мантыя:* обачиле$^{м}$ млоде$^{н}$ца въ ма$^{н}$тіи (Дыяр., 151б).

**Мантянистъ** *гл.* **монтанистъ**

**Манье** *гл.* **мети**

**Маньякъ** *маньяк:* слоуги его били и иръвали и посмевали его ка$^{к}$ бы одного маньяка (Пак. Хр., 9). – **Маниячество, маньячити, маньячливый.**

**Мара** *прывід, здань:* Мечтаніе: облуда, мара, тма, видо$^{к}$ фа$^{л}$шивы$^{и}$ (Бяр., 78).

**Марграбя** *гл.* **маркграбя**

**Марграмъ** *гл.* **маркграмъ**

**Маргъ** *прадстаўнік старажытнай азіяцкай народнасці:* Фома проповеда Ев$^{г}$ліе… ераканомъ, германомъ, викторомъ, маргомъ (Зб. вып., 89).

**Мардерство** *гл.* **мордеръ**

**Марена** *ласось:* марены взяли гвалтомъ (ИЮМ, XXIII, 24, 1711).

**Марецъ** і **мартъ** *сакавік:* тотъ месецъ былъ вже в нихъ апрель, а мы его за маре$^{ц}$ личили (Унія, 27). – **Марцовый.**

**Марзлый** *гл.* **мерзнути**

**Мари** *гл.* **мары**

**Маринъ (морынъ, муринъ)** і **марияниннъ** *жыхар Эфіопіі:* пановалъ на$^{д}$ марины або ефиопляны Елеозба$^{н}$ (Зб. 81, 51).

**Маркграбя (марграбя, маркграбъ)** *маркграф:* присылалъ до ихъ милости посла своего панъ маркграбя (АЗР, I, 159, 1496). – **Маркграбиная, маркграбство.**

**Маркграмъ (марграмъ)** *гранат:* зацвели маръкграмы (Зб. 262, 85).

**Маркевъ** *гл.* **морковъ**

**Маркионита (маркианита, марцыониста)** *прадстаўнік старажытнай хрысціянскай секты:* бы$^{л}$ ма$^{р}$кионита ерет$^{ык}$ (Зб. 82, 148).

**Марколянъ (маркоманъ)** *прадстаўнік германскага племені:* ма$^{р}$комани ве$^{н}$гри и немцы по$^{л}$щу стискали великими наяздами (Хр. п., 2б).

**Маркотати** *мармытаць:* Ропщу: нарекаю, неслушне нарекаю, ворчу, маркочу, ше$^{м}$ру (Бяр., 140). – **Маркотанье, маркотливый.**

**Маркотный** *маркотны:* яко при$^{ш}$ли голо$^{д}$ные та$^{к}$ и о$^{д}$ходя$^{т}$ те$^{с}$кливыя ма$^{р}$ко$^{т}$ные (Зб. 261, 70).

**Марморъ** *гл.* **мармуръ**

**Мармурокъ** *футра чарнабурай лісы:* лисъ мармурку чорного (АЮЗР, I, 265, 1596). – **Мармурковый.**

**Мармуръ (марморъ)** і **мраморъ** *мармур:* да$^{л}$ цеса$^{р}$ уроби$^{т}$ труну з ма$^{р}$муру (Зб. 752, 135б). – **Мармуровый (марморовый, мраморовый).**

**Марне, марность** *гл.* **марный**

**Марнотравный (марнотратный)** *марнатраўны:* сынъ ма$^{р}$нотравны$^{й}$ былъ (Зб. 259, 302б). – **Марнотравне, марнотравство (марнотрацство), марнотравца.**

**Марнохвалца** *той, хто сам сябе хваліць:* марнохвалцемъ и кацеремъ того жаль вельми было (Валх., 74б).

**Марный** 1) *бескарысны:* до марнои и порожнеи славы приложилися (Варл., 129б); 2) *мізэрны:* за такъ марные и такъ малые пенязи ме$^{л}$ прода$^{н}$ быти (Пак. Хр., 1б); 3) *нікчэмны:* марный воистинну и бе$^{з}$розъсудный ч$^{л}$вкъ (Каліст, II, 266). – **Марне (марно), марность.**

**Марронитъ (маронитъ)** і **марроминъ (марреминъ)** *прадстаўнік хрысціянскай секты ў Сірыі:* кацери… николаите марроните сыріане (Валх., 84б).

**Марсъ** *ваенная справа:* раче$^{й}$ ся в клопо$^{т}$ливо$^{м}$ ма$^{р}$се анижели в споко$^{й}$ны$^{х}$ муза$^{х}$ кохали (Стрыйк., 435б). – **Марсовый.**

**Мартвый** *гл.* **мертвый**

**Мартъ** *гл.* **марецъ**

**Марулья (марулия)** *шаўкоўніца:* на$^{м}$ о$^{т}$даляти сочевицоу… и марулью (Арыст., 211).

**Марципанъ** *марцыпан:* люде све$^{т}$ские заживаю$^{т}$... цюкры ма$^{р}$ципаны (Зб. 261, 148б).

**Марцовый** *гл.* **марецъ**

**Марцыониста** *гл.* **маркионита**

**Маршалокъ (маршалекъ, моршалокъ)** і **маршалко** 1) *маршалак, міністр пры велікакняжацкім двары; кіраўнік павятовага дваранства:* Альбрыхт Радивил, маршалокъ дворный великого князства Литовского (АВК, XXXII, 5, 1582); 2) *той, хто кіруе якой-н. цырымоніяй:* Архітріклан: маршало$^{к}$, або староста на веселю (Бяр., 238). – **Маршалковати, маршалковая, машалковичъ, маршалковна, маршалковский, маршалковство, маршалковъ, маршальство (моршальство).**

**Маршъ** *марш, паход:* с коня спа$^{л}$ оу марши (Троя, 25б).

**Мары (мари)** *насілкі для нябожчыкаў:* поткавши бовемъ мертвого збавитель мары задержалъ (Каліст, II, 117).

**Масакгетъ** *прадстаўнік качавога племені паўночнага Ірана:* подня$^{л}$ на не$^{г}$… рены, масакгето$^{в}$, скито$^{в}$ Бельск., 330б).

**Масалбасъ** *гл.* **муселбесъ**

**Масленица** *гл.* **масло**

**Маслина (масличина)** *масліна:* маслина цвитущая и кипарисъ (Скар. ІС, 79). – **Маслинный (масличный), масличие (масличиние).**

**Масло** 1) *масла:* взя$^{л}$ тежъ масла и молока (Біблія, 44); 2) *алей:* взялъ на дорогу... вина о$^{ц}$ту и масла древяного (Зб. 82, 107б); 3) *ялей:* росказалъ масломъ недужные помазовати (Навука, 116). – **Масленица, масленый (масляный).**

**Маслосвященье (маслоосвященье, маслосвещение, маслосвящение)** *абрад мірапамазання:* повинни ходити до епископа... на маслосвященье (АЗР, IV, 55, 1592).

**Массаретъ** *адзін са складальнікаў кананічнага тэксту Бібліі:* массаретове то$^{т}$ и вы$^{ш}$шы$^{й}$ и ни$^{з}$шы$^{й}$ вершъ дивне затруднили (Выкл., 129б).

**Массилиянинъ** *прадстаўнік старажытнай паўднёваеўрапейскай народнасці:* сикилияне, массилияны… народами грецкими намножили (Стрыйк., 421б).

**Мастеръ** *гл.* **майстеръ**

**Мастика** *смала масцікавага дрэва:* трапилися купцы... несучи коре$^{н}$е и ресину и стакту або мастику (Біблія, 85).

**Мастистый** *умяшчальны:* з однои стороны ве$^{л}$ми мастисты$^{й}$ входъ (Алекс., 26).

**Мастити** *гл.* **масть$^{1}$**

**Мастъ** *гл.* **маштъ**

**Масть$^{1}$** 1) *ялей:* его дорогими ма$^{ст}$ми помазали (Бельск., 35); 2) *алей:* пришла жона, маючи скленицу масьти спіканардовое (Цяп., 63б); 3) *мазь:* горячыми мастьми его злечилъ (Мак., 146). – **Мастити, маститися, намастити, омастити, помастити, помащение, умастити, умащати.**

**Масть$^{2}$** *масць, колер:* летникъ китайки дупли, масти золотое (ИЮМ, VIII, 208, 1593).

**Матамство** *гл.* **матати**

**Матарацъ** *гл.* **матерацъ**

**Матати** *махляваць:* и$^{ж}$ матае$^{ш}$ людо$^{м}$, забие тебе г$^{с}$дъ (Бельск., 139). – **Матацтво (матамство, матацство, мотацтво), матачъ (мантачъ, мотачъ).**

**Математикъ (математыкъ)** *матэматык:* цеса$^{р}$... люде$^{й}$ учоны$^{х}$ пре$^{ч}$ выгна$^{л}$, звлаще астрономи и математики (Бельск., 237б). – **Математицкий (математыцкий).**

**Матерацъ (матарацъ)** *матрац:* матерацъ зъ двумя подушками... отцу наместнику буйницкому оферую (ИЮМ, X, 426, 1686).

**Материалный** *гл.* **материя**

**Материзна, материнство** *гл.* **мати**

**Материя (матерыя, матэрыя)** 1) *матэрыя:* душе розумнои не потребовалъ, то$^{л}$ко самую матерію, тело супте$^{л}$ное взя$^{л}$ (Каз. Кір., 96); 2) *матэрыял:* золото срэбро и иншую матэрыю належачую и прислухаючую ку мынцы фа$^{л}$шова$^{л}$ (Ст. 1566, 12); 3) *тканіна:* купили матерыи полпята локтя (ИЮМ, XII, 101, 1698); 4) *прадмет размовы:* сеи духовнои беседы моеи матерія есть жалю и плача полная (Сматр., 10–11). – **Материалный (материялный, матерыялный).**

**Матероявленый** *які явіўся мацеры:* Митрофа$^{н}$: матероя$^{в}$ле$^{н}$ (Бяр., 297).

**Матерызный, матерыстость** *гл.* **мати**

**Матерыя** *гл.* **материя**

**Мати (мать) і матерь, матка** 1) *маці:* мы пытали янушъка чи венъчальная… мати того детины (КВЗС, 22, 1537); 2) *аснова:* всехъ речей добрыхъ она естъ мати (Скар. ПБ, 11). – **Материзна (материзнина, матерызна)** *спадчына пасля маці,* **материзный (матерызный), материнский (матерынский), материнство, материнъ (матерынъ), материстый (матерыстый), матерний (матерный), матерский, матерыстость, матица** *матачная расліна; аснова,* **матка, маткинъ, матухна, матчинский, матчинъ.**

**Матизма** *адзенне:* о матизме моей метали жеребей (Пс. XVI, 23б).

**Матиорка** *кабыла:* мужъ зъ ри$^{н}$ку пришедъши жону свою въ постати матіорки обачилъ (Мак., 12).

**Матица, матка** *гл.* **мати**

**Матня** *матня:* насъ до тоей жъ матне в которую са$^{м}$ влезъ хитро оуправити помышляе$^{т}$ (Апакр., 13б). – **Уматняти.**

**Матокъ** *гл.* **мотокъ**

**Матрица** *гл.* **метрыка**

**Матрона** *матрона:* некоторое матроны которая слоужебница была (Пак. Хр., 23б).

**Матухна, матчинъ** *гл.* **мати**

**Матычка** *гл.* **мотыка**

**Мать** *гл.* **мати**

**Матэрыя** *гл.* **материя**

**Мауръ** *гл.* **мавръ**

**Махавейский** *гл.* **маккавей**

**Махати** *махаць:* махаю$^{т}$ по лицю своемоу (Чэцця, 285б). – **Махало, маханье.**

**Махиваръ** *тканіна з махрамі:* махрома – махіва[р], колъдра (Зіз., 111).

**Махина** *махіна:* великая махина на ве[л]ми слабыхъ... столпехъ есть збудована (Апакр., 92б).

**Махляръ** *махляр:* бы[л] розбо[й]никъ яки[й] або махля[р] му[ж] яки[й] в селе (Зб. 107, 175б). – **Вымахлевати, вымохляватися, махлярство (махлерство).**

**Махометанинъ (магуметанинъ, мехометанинъ)** *магаметанін:* прилеглыи и[м] па[н]-ства махометане почали поседати (Зб. 752, 413б). – **Махометанский (мехометанский).**

**Махрый** *які мае махры:* взяли… рукавицы двои махрыи (АСД, I, 178, 1590).

**Маца** *мера збожжа:* овса маца одна, гусь одна (АВК, VI, 58, 1589).

**Мацати** *мацаць:* при выбира[н]ю папежа мацае[т] дъяко[н] пре[з] столо[к] диравы[й] мае[т] ли папе[ж] реликве домовое (Бельск., 371б). – **Намацати, омацати, омацовати, помацати.**

**Мацеръ** *назва расліны:* звыкли грекове до оливы и балсаму прикладати... азаръ, мацеръ, теребинтъ (Зб. вып., 16).

**Мацэдонъ** *гл.* **македонъ**

**Мачавина, мачка** *гл.* **мочити**

**Мачоха (мачаха, мачеха)** *мачаха:* мачоха его еще ненавидит (Трыст., 13). – **Мачошинъ (мачешинъ).**

**Мачуга (мочукга)** *булава:* намъ посла[л] пилу мачугу и завой (Алекс., 8).

**Мачула** *перакладзіна ў рыштаванні:* лыкъ не стало до увязованя мачулъ (ИЮМ, V, 110, 1688). – **Мачулный.**

**Машкара** *маска:* абы ся з ни[х] зодрала тая машкара (Апакр., 39).

**Машна** *гл.* **мошна**

**Машталеръ (маштарелъ, маштелеръ)** *страмянны:* был Бово чотыры годы у конюшни служечы машталеромъ (Бава, 13б). – **Машталеровая, машталерский, маштарня** *канюшня.*

**Маштъ (мастъ)** 1) *мачта:* сты[р]никъ... нахиляе[т] маштъ жакге[л] складае[т] (Зб. 259, 579б); 2) *дрэва, прызначанае для мачт:* въ той пущи... мастъ робилъ (АСД, I, 16, 1536).

**Маючий** *гл.* **мети**

**Мгла (имгла)** *імгла:* мгла роспрашится еже загнана бываетъ лучами солнечными (Скар. ПБ, 4). – **Мглистый.**

**Мглый** *гл.* **мдлый**

**Мгненье** і **мгновенье** *імгненне:* што мгне[н]е ока, то ближей къ концу (Каліст, II, 202).

**Мдлый** і **мглый (мкглый)** *слабы:* ку полепшенью мдлыхъ животовъ людскихъ церкви зъ добрымъ обварункомъ будовали (АВК, I, 3, 1588). – **Мдла** *слабасць,* **мдле, мдлейший (мглейший, млейший), мдлелый (млелый), мдлети (млети), мдлеючий (млеючий), мдлити, мдлость (мглость, млость), мдлявый (млялый), помлети, сомгленый (земдленый, змлелый, зомдленый, зомлелый, изомгленый), сомленье (земленье), сомлети (зомлети, зумлети, сомглети).**

**Мевати** *гл.* **мети**

**Медведь** і **недведь (недведзь)** 1) *мядзведзь:* з Реткова и Сакова лоси, медведи и свине проч выгнали (АВК, XXXVI, 353, 1582); 2) *шкура мядзведзя:* шапка чорная медведемъ подшита (АВК, XXI, 125, 1557). – **Медведица, медведка (медведна, недведка, недведна)** *шкура мядзведзя,* **медведникъ, медведный, медведя, медвежий (недзвежий).**

**Медвеный** *гл.* **медъ**

**Меденаръ** *гл.* **медь**

**Медза** *гл.* **межа**

**Медзь** *гл.* **медь**

**Медиаторъ (медыяторъ)** *пасрэднік:* былъ медіаторомъ до згоды (ИЮМ, XIII, 158, 1699).

**Медикъ** *гл.* **медыцина**

**Медиоламчикъ** *жыхар Міжземнамор'я:* много медиоламчикоъ до енны было оуехало (Апакр., 75).

**Медитовати** *разважаць:* потреба и$^{н}$те$^{н}$ци$^{й}$ абы ведали для чо$^{г}$ медитуе$^{т}$ (Зб. 261, 71). – **Медитация (медитацыя).**

**Медиумъ** *публічнасць:* въ которомъ прыволаню пущано на медиумъ (ИЮМ, XI, 174, 1697).

**Медлити** *марудзіць:* приедь ко мне не медлечи (Скар. КБ, 83б). – **Замедление, замедленый, замедлити, медление, омедлети, помедлети, умедление.**

**Медница** 1) *мядніца:* наполни$^{л}$ медницу росы (Біблія, 265); 2) *мядніца як адзінка вымярэння мёду і масла:* меду пресного медницъ осмъ, масла медницъ две (АВК, VIII, 466, 1593). – **Медничка.**

**Медный** *гл.* **медь**

**Медоварца** *медавар:* медоварцомъ Виленъскимъ 7 бочокъ ржи (КЗ, 229, 1486).

**Медовенный, медокъ** *гл.* **медъ**

**Медосытца** *той, хто займаўся сычэннем мёду:* оповедался мне медосытца господарьский городенский (АВК, XVII, 164, 1540).

**Медоточный** *красамоўны:* мо$^{л}$чати постановилъ и медоточную науки реку загамовати (Пралог, 560б).

**Медулля** *стрыжань:* Б$^{л}$гота: ... шпикъ, стрижень въ дереве, медулля (Бяр., 6–7).

**Медци** *гл.* **межи**

**Медъ (миодъ)**[1] 1) *мёд:* зъ влостное бчолы ме$^{д}$ несъ (Вісл., 19); 2) *хмельны напітак з мёду:* казал шынкару… напитку давати міоду, пива (АВК, XXXVI, 2, 1582). ◊ **Медъ лесный, липецъ** *гатункі мёду;* **медъ квасный, сычоный** *гатункі хмельных напіткаў з мёду.* – **Медовенный, медовничокъ** *мядовы пернік,* **медовый (медвеный), медокъ.**

**Медъ**[2] *гл.* **мидъ**

**Медыесатисъ** *палавіна:* форумъ ексцыповалъ… о тое фавторство и о медыесатисъ добру (АВК, I, 193, 1664).

**Медыцина** *медыцына:* Ян Маясъ, докторъ медицины... созналъ (АВК, XX, 341, 1645). – **Медыкъ (медикъ).**

**Медыяторъ** *гл.* **медиаторъ**

**Медь (медзь)** 1) *медзь:* меди купили фунтовъ десять (ИЮМ, IV, 118, 1686); 2) *вырабы з медзі; медныя манеты:* не набывайте, мовитъ, золота, ане серебра, ане меди (Каліст, II, 231б). – **Меденаръ (медейникъ, меденикъ)** *меднік,* **медный, медяный (меденый, медзеный).**

**Медянинъ** *гл.* **мидъ**

**Межа і медза** *мяжа:* межи старовечные попсованы (АВК, XXXVI, 304, 1582). – **Замежокъ, межованье, межовати, межовый, обмежекъ, обмеженный, обмежъ.**

**Между** *гл.* **межи**

**Междуречие** *гл.* **межиречие**

**Меженский** *галодны, з недахопам хлеба:* тотъ ро$^{к}$ былъ меже$^{н}$ски$^{й}$ а$^{л}$бо голодны$^{й}$ (Барк., 156б).

**Межи (медци, меже, межу, межы) і между (межку), межъ (мижъ)** 1) *паміж:* рекы теку$^{т}$ межі именьи (Вісл., 10б); 2) *сярод:* которая земля межи ними не делена (КСД, 20, 1510); 3) *унутры:* золото срэбро фа$^{л}$шуютъ и межи того мешаю$^{т}$ медь цы$^{н}$ (Ст. 1566, 12). – **Змежи (змежы), помежъ (помежы).**

**Межиречие** і **междуречие** *міжрэчча:* привели… сына мехорова о$^{т}$ межиречия (Скар. ДЗ, 44).

**Межисобный (межусобный)** *міжусобны:* по$^{в}$ставала... межисобна во$^{й}$на (Зб. 82, 28).

**Межный** *гл.* **мужный**

**Межовати** *гл.* **межа**

**Межусобный** *гл.* **межисобный**

**Межщанинъ** *гл.* **мещанинъ**

**Межъ** *гл.* **межи**

**Мезга** *мязга:* они... ядали былие и мезгу зъ древъ (Скар. КІ, 35б).

**Мезеный** *мезены:* два пальцы, то есть мезеный и другий подле того прочъ утялъ (АВК, XX, 292, 1629).

**Мезлева (мезлива)** *падатак за ўтрыманне быдла:* тивунъ казалъ въ насъ пограбити вола а яловицу за мезлеву (КСД, 118, 1514). – **Мезлевный, мезлевщина.**

**Мейский** *гл.* **место**[1]

**Мейстеръ** *гл.* **магистеръ**

**Мейстцо** *гл.* **местце**

**Мекина** *гл.* **мякина**

**Мeледия** *мелодыя:* о$^{д}$ное ночи услышала дивную меледию спеваючихъ вдячными голосы (Пралог, 649б). – **Мелодийный.**

**Меленколия (мэлянколия)** *меланхолія:* на него меле$^{н}$колия пришла (Пралог, 500).

**Меленье** *гл.* **молоти**

**Мелетианинъ (мелетиянинъ)** *паслядоўнік Мілецкай (іанійскай) школы:* веру богу… заховали ариа$^{н}$новъ се и мелетиано$^{в}$ стерегучи яко неприятеле$^{й}$ божы$^{х}$ (Зб. 752, 488б).

**Мелионъ** *гл.* **маленъ, милионъ**

**Мелкий** 1) *неглыбокі:* река дивная ме$^{л}$ка, по ней же агнець брести можетъ (Скар. ПБ, 2б); 2) *нязначны:* наука дольгая а паме$^{т}$ коро$^{т}$кая и розумъ мелъки$^{й}$ (Зб. 259, 281).

**Мелкость** *гл.* **мелъ**

**Мелный** *гл.* **мелый**

**Меловникъ** *гл.* **мелъ**

**Мелодийный** *гл.* **меледия**

**Мелъ** *мел:* мелу купили до побелы (ИЮМ, VIII, 147, 1691). – **Мелкость** *крэйда,* **меловица** *месца залягання мелу,* **меловникъ** *здабытчык мелу,* **меловый.**

**Мелый (мелный)** *змучаны, пакутлівы:* бы$^{л}$ та$^{м}$ то$^{й}$ обра$^{з}$ чти годны$^{й}$ и целы$^{й}$ мелы$^{й}$ взоръ г$^{с}$дни$^{й}$ (Зб. 82, 434).

**Мелькнути** *мільгануць, прамільгнуць:* о$^{т}$ворила есми милостнику своему и милостникъ мои ме$^{л}$кнувъ прошолъ (Зб. 261, 84б).

**Мельникъ, мельница** *гл.* **млынъ**

**Мельский, мелючий** *гл.* **молоти**

**Мембранъ (мамрамъ, мамранъ, мембрамъ, мемрамъ, мемранъ)** *дакумент на пергаменце, пергамент:* листъ писаны$^{й}$ а не мемъбрамъ показалъ (Ст. 1588, 313). – **Мемрамовый.**

**Мена** *гл.* **меняти**

**Мендыкъ (мендикъ)** *жабрак:* мендыка, тручаючи… били (АВК, VIII, 29, 1598).

**Мене** *гл.* **менший**

**Мененый** *гл.* **менити**[1]

**Менея** *гл.* **минея**[1]

**Менжный** *гл.* **мужный**

**Менжобойство** *гл.* **мужобойца**

**Мензство** *гл.* **мужный**

**Мениваный** *гл.* **меняти**

**Менити (мянити)**[1] і **именовати (имяновати), мяновати (меновати)** 1) *упамінаць:* буде$^{т}$ ли менити же при томъ лици много погинуло (Ст. 1566 I, 98б); 2) *называць:* гост… себе менит имем Еско (АВК, XXXVI, 1, 1582); 3) *лічыць кім-н.:* чимъ бо$^{л}$шъ научи$^{т}$ся, тымъ глупши$^{м}$ себе быти менитъ (Мак., 174); 4) *меркаваць:* ска$^{р}$бы грекове мяную$^{т}$ взя$^{т}$ (Бельск., 84б). – **Выменовати (выйменовати), мененый (именованый, имянованый, менованый, мяненый, мянованый), менитися (именоватися, имяноватися, меноватися, мянитися, мяноватися), менячый, мнянованье (именованье, менованье), мянуючийся (именующийся, менуючыйся), неменованый.**

**Менити**[2] *гл.* **меняти**

**Меновите** *гл.* **мяновите**

**Менсиво, менсо** *гл.* **мясо**

**Ментусъ** *мянтуз:* купили рыбы свежей, ментусы живые (ИЮМ, XVIII, 29, 1710).

**Менута** *гл.* **минута**

**Менуцыя** *гл.* **минуцыя**

**Менуючыйся** *гл.* **менити**[1]

**Менцунаръ** *місіянер:* съ тыхъ золотыхъ циншовыхъ менцунаромъ капличникомъ идетъ 80 золотыхъ (АСД, I, 31, 1531).

**Менший (меншый, меньший, меньшый)** і **мнейший (мнейшый)** 1) *меншы:* розынокъ великихъ и мнейшихъ фунты четыри (ИЮМ, IV, 69, 1686); 2) *малодшы:* е$^{ст}$ у мене оди$^{н}$ сы$^{н}$ ме$^{н}$ши$^{й}$ в дому (Стрыйк., 447б); 3) *ніжэйшы па рангу:* дъяво$^{л}$ ста$^{р}$ши$^{й}$ роскаже$^{т}$ мне$^{й}$ши$^{м}$ (Зб. 261, 214). – **Меншати (меньшети), меншатися (мен(ь)шитися), меншъ (мене, меншы, мен(ь)ше, мен(ь)шей, меньши, мней, мнейше, мнейшей, мнейшъ), на(й)менший (на(й)меньший, на(й)мнейший), на(й)меншъ (на(й)мней, намнейшей), неменший, немней, обменшати, поменшити, принаймней.**

**Меншица** *наложніца:* была е$^{ст}$ у саула меншица именемъ Ресфа (Скар. ДЦ, 70б). – **Меншицкий.**

**Меный, менье** *гл.* **мети**

**Меньший** *гл.* **менший**

**Меняти (менити)** *мяняць:* шлешъ до Риги попелъ свой… на соль меняти (АЗР, I, 150, 1495). – **Мена, мениваный, меняльный, меняный.**

**Менячый** *гл.* **менити**[1]

**Мера** і **мяра** 1) *мера:* о мерахъ и локтяхъ абы были ровные (Ст. 1588, 10б); 2) *пасудзіна для мерання:* в меру идет по три ушатки (АВК, XXXIX, 597, 1579); 3) *крытэрый для параўнання:* они мери не мели хвале свое$^{й}$ в писа$^{н}$ю (Бельск., 80); 4) *пэўны ўзровень:* вода в свое$^{й}$ мере стояла дне$^{й}$ сто (Стрыйк., 414б); 5) *мяжа дапушчальнага:* если пренесе$^{ш}$ меру в лека$^{р}$стве завади$^{т}$ (Зб. 261, 92); 6) *падстава:* овца бы$^{д}$ля$^{т}$ко... з многи$^{х}$ ме$^{р}$ пожите$^{ч}$но (Зб. 255, 156). – **Вмеру, мерка (мерица, мярка), мерне, мерникъ, мерница, мерницкий, мерничий (мерничый), мерность, мерный, меротщына** *плата збожжам за памол,* **мерочка, мерочный, мерчий (мерчый), полмерки, полмерокъ (полмярокъ, полумерокъ), полмеры, полумеръ.**

**Мерзкий** *брыдкі, агідны:* несправедливость мерзкій есть грехъ (Каліст, I, 4). – **Мерзено, мерзеность, мерзеный, мерзети, мерзити, мерзитися, мерзко, мерзость (мерз-**

**кость), мерзячка, омерзено, омерзеный, омерзенье (обмерзенье, омерженье), омерзети (омерзти), омерзити, омерзитися, омерзлый, омерзяный, омерзяти (омерзати), умерзкий.**

**Мерзнути** *мерзнуць:* много нагихъ было которыи мерзли зъ зимна (Каліст, II, 129). – **Вымерзати, вымерзненье, замерзати, замерзлый, замерзнути, змерзати, змерзатися, змерзлый, змерзнути (измерзнути), змерзнутися, мерзлый (марзлый), намерзати, перемерзнути, померзнути, померзший, примерзати, примерзнути.**

**Меринъ (мерынъ)** *кастрыраваны конь:* доброго мерина мелъ (КПД, 785, 1564). – **Меринецъ.**

**Мерити (мерыти)** і **мерати (меряти)** 1) *мерацъ:* волоки почато тамъ мерити (АЗР, III, 38, 1551); 2) *цэліць:* мерилъ и стрелити хотелъ (АВК, VIII, 126, 1637). – **Вмерити, домерити, мереный (мераный, мероный), меренье, мерило, меритися (мерытися), намереный (намероный), намеренье, намерити (намерати), намеровати, намеръ, немероный (немереный), обмеренье, обмерити (обмерыти), омериваный, отмерати (отмеряти), отмереный (отмероный), отмеренье, отмерити (одмерыти, отмерыти), отмеритися, отмерный, перемеренье, перемерити, умереный.**

**Мерка** *гл.* **мера**

**Мерковати (мярковати)** *меркавацъ:* ва$^{ж}$ную ре$^{ч}$ буду$^{т}$ ме$^{р}$ковати (Дыяр., 165). – **Вымярковати, замеркованье, замерковати, змерковати, меркованье (мяркованье), мерковный, мярковатися, померкованье (помяркованье), померковати (помярковати), померковатися, розмеркованый, умеркованый (умяркованый), умеркованье, умерковати.**

**Мерникъ, меротщына, мерочка** *гл.* **мера**.

**Мертвый** і **мартвый (мяртвый)** 1) *мёртвы:* дитя родила есми мертвое (КСД, 48, 1510); 2) *без прыкмет жыцця:* седи$^{т}$ на$^{д}$ водами ме$^{р}$твыми абы ихъ во воды жывые пременилъ (Зб. 255, 156); 3) *нежыццяздольны:* вера безъ делъ мертва естъ (Скар. ІС, 40). – **Замертвый, замерти, замирати, замяртво, змертвенье, змертвети (из-), змерлый (змарлый), змерти (из-), змерший, змирати, зомерти (зъимрети), мертвеный, мертвенье, мертвети (мяртвети), мертвецъ, мертвечина, мертвити, мертвость, мерти (мрети), мручий, омертвети, помертвити, поумирати.**

**Мерчий** *гл.* **мера**

**Мерынъ** *гл.* **меринъ**

**Мерыона** *гл.* **миронъ**

**Меряти** *гл.* **мерити**

**Месецъ** *гл.* **месяцъ**

**Месийчикъ** *гл.* **мессъ**

**Месити** *мясіць:* не придавши квасу до муки, робилъ, працовалъ, месилъ и переворачивалъ еи (Мак., 219). – **Замесити, замесный, замесъ, замешенье, замешоный, месъ (месь)** *прымесь,* **примесити.**

**Месия (мессия)** і **месияшъ (месиашъ, мессиашъ)** *месія:* правдивого месіи не приняли (Дыяр., 170). – **Месиашовъ (мессиашовъ).**

**Мескъ** *мул:* повадливъ яко мескъ, не$^{м}$ яко рыба (Арыст., 160).

**Месникъ, месница** *гл.* **мясо**

**Месопотанинъ** *жыхар Месапатаміі:* по$^{д}$ себе по$^{д}$би$^{л}$… месопотаны (Бельск., 406б).

**Месопусты** *гл.* **мясопусты**

**Месса** *гл.* **мша**

**Мессиашъ** *гл.* **месия**

**Мессъ** і **месийчикъ (месейчикъ)** *прадстаўнік старажытнай заходнееўрапейскай народнасці:* подня[л] на не[г] спеони[й], мессо[в] и и[л]лирио[в] (Бельск., 330б).

**Местеръ** *гл.* **магистеръ**

**Место (място)[1]** 1) *горад:* место славное и великое витебскъ звоевали (Барк., 163б); 2) *насельніцтва горада:* проводило его все место (Зб. 107, 204б). – **Местечко (мястечко), custom местиско, местицкий, местичъ (местицъ), местский (мейский, меский, месцкий), местовный, полместа.**

**Место[2]** *гл.* **вместо, местце**

**Местце (мейстцо, мейсце, мейсцо, местцо, местьцо, месце, месцо)** і **место** 1) *мясцовасць:* оно местце маетъ моцъ, ижъ ба[л]самъ оу не[м] росте[т] (Валх., 60); 2) *пункт, прызначаны для чаго-н.:* ме[ст]цо таковому соиму озна[й]мено (Ст. 1566, 6); 3) *пункт размяшчэння:* на ва[л]це е[ст] имъ месцо дано (Вісл., 10б); 4) *мясціна:* они тое озеро и ме[ст]цо хвалили (Рач., 298); 5) *пэўная частка прадмета:* листъ нашъ дали... и на многихъ мейсцахъ содранье передъ нами покладали (РПП, 352, 1544); 6) *пэўная частка тэксту:* есть то месце барзо трудное ку вырозуменю (Выкл., 6б); 7) *пасада:* на местъцо писарьское кого иного обрали (Ст. 1588, 128). – **Безместный, местцовый.**

**Месть** *гл.* **мстити**

**Месцкий** *гл.* **место[1]**

**Месчанинъ** *гл.* **мещанинъ**

**Месъ, месь** *гл.* **месити**

**Месяцъ (месецъ)** 1) *Месяц (спадарожнік Зямлі):* погане... слонце, месяцъ, перуны и прочя за боги маютъ (Зб. вып., 87); 2) *месяц (дванаццатая частка года):* в то[м] городе мелъ Александе[р] о[т]починокъ целый месяцъ (Алекс. 1697, 15). – **Месецевый, месячина (месечина)** *месячная плата,* **месячница (месечница)** *менструацыя,* **месячный (месечный, месячий), полмесеца.**

**Мета** *цэль, мішэнь:* стрелялъ къ мете (Скар. ПЦ, 44). – **Примеченый.**

**Метати** 1) *кідаць:* пенязи в воду метали (Зб. 261, 121); 2) *раскідаць:* риштова[н]е метаючи це[р]ко[в] нарушили (Бельск., 330). – **Вметаный, вметати (уметати), вметаючий, вметовати (вметывати), вметываючий, метаный, метанье, метаньесе, метатися, метма** *кідком,* **метне** *метка,* **метный, метъ** *пабор,* **мечучий, наметати, наметывати, переметати, переметчикъ (переметникъ), помета, пометаный, пометати, пометля, пометъ, помечоный, преметание, приметатися, уметаемый.**

**Метафорице** *метафарычна:* Скиніа: метафоріце, я[т]ка (Бяр., 310).

**Метелица** *мяцеліца:* копы жатые снегомъ позаметала метелица (Барк., 164).

**Метелка** *гл.* **метла**

**Мети (имети)** 1) *распараджацца чым-н.:* имъ волно было друкарни свои мети (Апакр., 37б); 2) *валодаць чым-н.:* зъ прироже[н]я не мети розуму есть речъ зносная (Каліст, І, 152); 3) *змяшчаць:* розде[л]… маетъ въ собе а[р]тыкуло[в] три[д]цать (Ст. 1566, 8); 4) *лічыць за каго-н.:* почали… за Бога его мети (Рач., 297). – **Маючий (маючый), маючийся (маючыйся), мевати (имевати), меватися, мевший, меный (мяный), менье (манье), метися (иметися), имеючий (имеющий, имущий), метый, немаючий.**

**Метла** *мятла:* вениковъ копу и метлу дали (ИЮМ, II, 133, 1684). – **Метелка, помести, умести (вмести), уметанье, уметати (умятати), уметеный, уметъ.**

**Метликъ** *гл.* **мятель**

**Метлица** *мятліца:* родять нивы былие, траву злую волчецъ и метлицю (Чэцця, 373).

**Метма, метне, метный** *гл.* **метати**

**Метрополитъ** *гл.* **митрополитъ**

**Метрыка (метрика)** і **матрица** 1) *канцылярская кніга рэгістрацыі дакументаў:* казали… имъ з метрык канцеляреи нашое видимус дати (СДГВ, 51, 1536); 2) *пасведчанне аб нараджэнні:* повиненъ о$^{с}$щаемый метрыку зъ собою мети летъ своихъ (Зб. вып., 56).

**Метъ** *гл.* **метати**

**Метый** *гл.* **мети**

**Метяница** *самаасадачная соль:* соли метяницы камень (АВК, XVIII, 101, 1660).

**Мехирь** *гл.* **михирь**

**Меховита** *член манаскага ордэна мехавітаў:* пишетъ нашъ меховита (Бер. саб., 46б).

**Меховникъ** *гл.* **мехъ**

**Мехометанинъ** *гл.* **махометанинъ**

**Мехъ** *мех:* мехъ соли (КВЗС, 336, 1537). – **Меховникъ, меховницкий, мешецъ, мешечникъ, мешище, мешокъ, мешочокъ (мешечокъ).**

**Мечетъ (мечеть)**[1] *мячэць:* маетъ тотъ Тазлакъ присегати у своемъ мечету на Лососне (АВК, XVII, 185, 1540).

**Мечетъ**[2] *гл.* **мечтанье**

**Мечикъ** *гл.* **мечъ**

**Мечка** *мядзведзіца:* вышла з трои ме$^{с}$та мечка а з грече$^{с}$кого во$^{й}$ска вепръ (Тр. гіст., 70б).

**Мечникъ** *гл.* **мечъ**

**Мечтанье (мечтание)** і **мечетъ** *мара, фантазія:* Мечтаніе: ... мечтанье, помышле$^{н}$е, албо мече$^{т}$ (Бяр., 78).

**Мечучий** *гл.* **метати**

**Мечъ (мечь)** 1) *меч:* учини$^{л}$ собе мечъ обаполъ остри$^{й}$ (Біблія, 120); 2) *зброя наогул:* мече$^{м}$ грани$^{ц}$ велико$^{г}$ кня$^{з}$ства лито$^{в}$ско$^{г}$... боронили (Стрыйк., 529б); 3) *знішчэнне:* лю$^{д}$ по$^{д}$ ме$^{ч}$ дано было яко упорны$^{й}$ (Еўл., 29); 4) *мужчынская лінія роднасці:* опекуно$^{в}$ прирожоны$^{х}$ по мечу ничого не было ино по ма$^{т}$цэ (Ст. 1566, 76б). ◊ **Вкинути мечъ** *пасеяць варожасць;* **огнемъ и мечомъ** *бязлітасна.* – **Мечикъ (мечыкъ), мечникъ (мечовникъ), мечницкий, мечничокъ, мечный, мечовый (мечевый).**

**Мешати (мяшати)** 1) *змешваць:* не меша$^{л}$ лну з волною (Бельск., 55); 2) *перамешваць:* кгды инкаустъ побелеетъ... его знову мешаютъ, и онъ почернеетъ (АВК, VIII, 446, 1588); 3) *блытаць:* православіе зъ еретичество$^{м}$ мешаютъ (Каз. Кір., 42); 4) *парушаць:* спо$^{л}$ны$^{й}$ поко$^{й}$ и згоду мешали (Зб. 255, 429). – **Мешанина, мешаный, мешанье, мешатися, машаючий, мешающийся, мешовати, намешати, перемешовати, помешаный, помешанье, помешати, помешатися, промешиваный, промешивати, розмешаный, розмешанье, розмешати.**

**Мешечникъ** *гл.* **мехъ**

**Мешиновый** *гл.* **мешына**

**Мешкати (мяшкати)** 1) *жыць:* мешъкалъ в дому (КВЗС, 111б, 1539); 2) *мець пэўныя адносіны:* мужеве не мешкаю$^{т}$ з ними сполны$^{м}$ пребыванье$^{м}$ (Алекс., 2б); 3) *марудзіць:* не мешкаючи воротитеся (Зб. 82, 391б). – **Вымешканье, вымешкати, домешкати, змешканье, змешкати (из-), змешкатися, мешкальный, мешканецъ, мешканый, мешканье (-ние), мешканьечко (мешканячко), мешкатися, мешкаючий (-чый), мешкивати (мешковати), помешка, помешканье, помешкати.**

**Мешовати** *гл.* **мешати**

**Мешокъ** *гл.* **мехъ**

**Мештеръ** *гл.* **магистеръ**

**Мешына** *выраблeная аўчына:* было седел чотыры, два сафъяномъ чырвонымъ крыты, а два мешынами жольтыми (АВК, XXXVI, 240, 1582). – **Мешинный, мешиновый.**

**Мещанинъ (межщанинъ, местчанинъ, месчанинъ, мещенинъ)** *гараджанін; прадстаўнік мяшчанскага саслоўя:* тотъ вильневецъ естъ мещанинъ (КВЗС, 18б, 1533). – **Мещанка (мещка), мещанский (месчанский).**

**Мжюрити** *гл.* **мружити**

**Мзда** *узнагарода, плата:* не дармо, але за великую працу достоинъ бовемъ делатель мзды своеи (Паўуст., 10б). – **Безмезникъ** *бяссрэбранік,* **мздити, мздяный.**

**Мздовздатель** *той, хто адплачвае:* Бога мей, а не того кому добре чинишъ мздовъздателя (Каліст, II, 91). – **Мздовздаание.**

**Мздоимецъ (мздоемецъ)** *хабарнік:* побачиш ли на свое$^{м}$ посланнику иже сребролюбецъ и мз$^{д}$оимецъ, не шли его (Арыст., 166).

**Мздяный** *гл.* **мзда**

**Мигати** *гл.* **мигнути**

**Мигдалъ** *гл.* **микгдалъ**

**Мигнути** *мігнуць, маргнуць:* они мигнули очима никодему штобы говори$^{л}$ (Пак. Хр., 37). ◊ **На миги** *пры дапамозе жэстаў.* – **Мигати, помиговати, помизати.**

**Мигтети** *мігцець:* Мжитъ въ очахъ: мигтитъ (Бяр., 78).

**Мидъ (медъ)** і **мидянинъ (медянинъ, мидеянинъ), мединецъ, медникъ** *жыхар Мідыі:* дамы те$^{ж}$ ва$^{м}$ на$^{д}$ миды и на$^{д}$ пе$^{р}$сы ца$^{р}$скую досто$^{й}$ность (Алекс., 20).

**Мижъ** *гл.* **межи**

**Мизаитъ** *старажытнаяўрэйскі святчэннаслужыцель:* слуги те$^{ж}$ це$^{р}$ковные… роздели$^{л}$ на три ряды, арониты, мизаиты и левиты (Бельск., 111б).

**Мизерный (мисерный)** 1) *нікчэмны:* на семъ мизерномъ свете нетъ ничого трвалого (ИЮМ, XXI, 462, 1626); 2) *няшчасны:* мизе$^{р}$ные тые которие уме$^{р}$лыхъ вожовъ маю$^{т}$ (Зб. 259, 243); 3) *бедны:* Беденъ: оубогій, жалосный, мизерный (Бяр., 11). – **Мизерия, мизерне (мисерне), мизерность, на(й)мизернейший.**

**Мийстръ** *гл.* **магистеръ**

**Микгдалъ (мигдалъ)** 1) *міндаль:* зацвитетъ микгдалъ (Каліст, II, 278); 2) *плод міндаля:* сто тисячъ кубелъ мигдаловъ на поживленіе воиску дали (Алекс. 1697, 27). – **Микгдаловый (мигдаловый).**

**Милейший** *гл.* **милый**

**Милионъ (мелионъ, миллионъ)** *мільён:* тисячныи міліоны стояли пере$^{д}$ нимъ (Каліст, I, 23).

**Милля** *гл.* **миля**

**Мило** *гл.* **милый**

**Миловати** 1) *любіць:* милуючи мене… рачыл мне записати некоторые речы (АВК, XXXVI, 71, 1582); 2) *кахаць:* почалъ миловати панию Барбару (Рач., 359); 3) *лашчыць:* она его… почала целовати и миловати (Трыст., 15). – **Милованый, милованье, миловатися, миловникъ, милуючий (-ющий), намиловатися, незмилование, розмиловатися, умилован(н)ый, умилованье (вмилованье), умиловати (вмиловати).**

**Милосердье (милосердзе, милосердие)** 1) *літасць:* таковы$^{й}$ маетъ каранъ быти безъ всякого милосердья (КСД, 1051, 1522); 2) *шчодрасць:* болшое есть его мл$^{с}$рдіе (Зб. вып., 51). – **Милосердне (милосердно), милосердный (милосерный), милосердствовати, немилосердне (немилосерне, немилосерно), немилосердникъ, немилосердный (немило-**

**сердый, немилосерный), немилосердье (немилосердие), умилосердитися, умилосерживатися.**

**Милость** 1) *любоў:* патріа$^{р}$хи… повинни жити зго$^{д}$не въ милости брате$^{р}$ско$^{й}$ (Дыяр., 173б); 2) *каханне:* оная па$^{н}$на… милостю палала (Зб. 259, 9); 3) *літасць:* надъ злодеемъ милости не надобе (АЗР, I, 82, 1468); 4) *ласка:* красны милости тво$^{и}$ сестро моя невесто (Зб. 262, 84); 5) *міласць (у пачцівым звароце):* прозба ихъ милости не будетъ отъ вашое милости даремъне опущона (КПД, 19, 1538). – **Безмилостивный, милоснейший, милостиве (милостивно, милостиво), милостивший, милостивый (милостивный), милостникъ (милосникъ, милостенникъ), милостница (милосница), милостный (милосный), милостыня (милостина), на(й)милостивший, премилостиве, премилостивый, пренаймилоснейший.**

**Милта** *талакно:* прясло – милта, толокно (Зіз., 55).

**Милуючий** *гл.* **миловати**

**Милченье** *гл.* **молчати**

**Милый** 1) *прыемны:* хорому милое бывае$^{т}$ лека$^{р}$ство (Зб. 259, 377б); 2) *мілы, каханак:* поедь... до моего милого (Бава, 129). – **Милая** *каханка,* **миле (мило), милей (милее), милейший (мил(ь)ший), миленко, на(й)милейший (на(й)мил(ь)ший), немило, немилый, премилый, примилитися.**

**Миля (милля)** *міля:* знашлося въ той мили пять верстъ (АВК, XVII, 349, 1541). – **Полмили (повмили), полмиля (полумиля), помильное.**

**Мимо** 1) *міма, мінаючы:* Трыщанъ шол мимо в другую комору (Трыст., 15); 2) *абмінаючы, у абход:* мимо су$^{д}$ сво$^{й}$ смелъ то вчини$^{т}$ (Ст. 1566, 52); 3) *насуперак:* если бы то инакъ учинилъ, мимо туюу уставу нашу (Ст. 1529, 35).

**Мимоидучий** *гл.* **мимоходный**

**Мимотекущий** *які праходзіць:* слава си е$^{ст}$... тленная мимотекущая (Дыяр., 169).

**Мимоходный** і **мимоидучий** *прахожы:* хто наимаетъ безумного наимуетъ мимохо$^{д}$ны$^{х}$ (Зб. 262, 106б). – **Мимоходящий, мимошедший.**

**Минати** *гл.* **минути**

**Минея (менея)**[1] *мінея:* миней дванадцать, треоди две (АЗР, I, 137, 1494).

**Минея (миния)**[2] *сурык:* купили минеи до фарбованя печы (ИЮМ, XII, 92, 1698).

**Министръ (министеръ)** 1) *памочнік ігумена, старшы член брацтва:* для отправованья хвалы Божое министеръ пры томъ зборе былъ (АВК, XI, 242, 1614); 2) *пратэстанцкі свяшчэннік:* розрух ся сталъ... противъ людемъ и министромъ евангелицкого и саского збору (Апакр., 31б). – **Министрыня.**

**Минница** *гл.* **мынца**

**Миновати** *гл.* **минути**

**Минога** *мінога:* купили... миногъ гавлы два (ИЮМ, III, 59, 1685).

**Минувший** *гл.* **минути**

**Минусъ** *мінус:* за шоры... плюсъ минусъ рахуючы золотыхъ сорокъ пять (АВК, I, 330, 1666).

**Минута (менута)** 1) *мінута:* Маніе: ... часточка часу, менута (Бяр., 76); 2) *кароткі выпіс з дакумента:* минута выписана съ книгъ рядецкихъ (АВК, XVII, 117, 1540).

**Минути** і **миновати** 1) *абмінуць:* минувши его, почалъ уходить (АВК, VIII, 499, 1608); 2) *скончыцца:* рокъ давно минулъ (АВК, XXI, 84, 1555); 3) *пазбегнуць:* кгды ч$^{л}$къ замилуе$^{т}$ся бога жа$^{д}$но$^{й}$ праци не мине$^{т}$ (Зб. 261, 77б). – **Заминеный, заминути, заминутися, минанье (миянье), минати (мияти), минатися, минаючий (миняющий,**

**Несподобный** *гл.* **сподобити**

**Неспокой** *гл.* **непокой**

**Несполна** *гл.* **полный**

**Несполненье** *гл.* **сполнити**

**Несполный** *гл.* **спольный**

**Неспоро** *гл.* **спорый**

**Неспоручный, неспоручъ** *гл.* **споручный**

**Неспорый** *гл.* **спорый**

**Неспособный** 1) *няздольны, няздатны:* хто в малы[х] реча[х] неспособны[й] и до велики[х] ся не зы[й]деть (Зб. 261, 136); 2) *ненармальны, дрэнны:* кролеви о неспособномъ его здоровью ознаймено (Варл., 281). – **Неспособность.**

**Несправа** *гл.* **справа**

**Несправдивый** *гл.* **неправда**

**Несправедливый** *гл.* **справедливый**

**Несправление** *гл.* **справити**

**Несправный** *гл.* **справа**

**Несприязливый** *гл.* **неприязнь**

**Непроданый** *гл.* **продати**

**Неспросталость** *недасведчанасць:* не для непотужности, а не для неспросталости выдалъ и[м] ізраилтянъ, але для греховъ (Каліст, I, 131).

**Неспротивяньеся** *гл.* **супротивитися**

**Неспусканый** *гл.* **спустити**

**Неспячий** *гл.* **спати**

**Неставанье** *гл.* **стати**

**Неставенье** *гл.* **ставити**

**Несталый** *гл.* **сталый[1]**

**Нестанный** *гл.* **стати**

**Нестановенье** *гл.* **ставити**

**Нестанье** *гл.* **стати**

**Нестареючийся** *гл.* **старый**

**Нестатечный** *гл.* **статечный**

**Нестатокъ** 1) *недахоп:* уме[л] покри[т] свою плохо[ст] и нестато[к] (Бельск., 304); 2) *нястача:* былъ завше нестатокъ велики[й] (Зб. 259, 402б).

**Нестатутовый** *гл.* **статутъ**

**Нестатье** *гл.* **стати**

**Нестворенный** *гл.* **створити**

**Нестейты** *гл.* **нестеты**

**Нестереженье** *гл.* **стеречи**

**Нестерпимый (неистерпимый)** і **нестерпливый** *нясцерпны, невыносны:* до незносныхъ и нестерпимыхъ болевъ и мордовъ… тягненъ былъ (Каліст, II, 82).

**Нестеты (нестейты)** *на жаль:* самъ мовилъ, нестеты жъ несправе[д]ливе ми и неви[н]не скаралъ (Зб. 81, 163б).

**Нести** 1) *несці:* рэчъ знашэ[д]ши мае[т] нести до гэ[т]мана (Ст. 1566, 26); 2) *выконваць:* оборону несли (АЗР, III, 12, 1547); 3) *прадугледжваць:* не обыходилъся з нимъ яко обыча[й] посполитого права несетъ (КВС, 592б, 1552); 4) *адкладваць яйкі (пра птушак):* кокоша... яйца золотыи несла (Алекс., 73б). – **Нашивати (нашывати), несеный, несенье, несомый,**

**нестися, несучий (несущий), носимый, носителный, носитель, носити, носитися, носокъ, носячий (носящий), ноша, ношати, ношеникъ, ношенье, ношивати (ношовати), ношка, ношоный (ношеный), проношати, пронесение, пронестися.**

**Нестовство** *гл.* **неистовый**

**Несторинъ (несторынъ)** *і* **несторияниинъ (несторианинъ)** *паслядоўнік рэлігійнай секты нестарыянства:* тоутъ пописаны ноубіаны съ золданы несторины (Валх., 78).

**Несторожа** *гл.* **сторожа**

**Нестоянье** *гл.* **стояти**

**Нестравный** *гл.* **травити**

**Нестрашливый** *небаязлівы:* ро[з]судокъ мелъ здоровы[й]... в пригода[х] мысль нестрашливую (Зб. 752, 549).

**Нестривалый** *гл.* **трвати**

**Нестриженье** *гл.* **стричи**

**Нестроенье** *гл.* **строити**

**Нестройный** *гл.* **строй**

**Нестыдатый, нестыдливый** *гл.* **невстыдъ**

**Нестяжание** *гл.* **стяжити**

**Несуженье** *гл.* **судъ**[1]

**Несумненый** *безумоўны, бясспрэчны:* в вере несумненой, в розуме досталомъ знашлися (Навука, 141). – **Несумнителне.**

**Несуполный** *гл.* **зуполный**

**Несухо** *гл.* **сухий**

**Несучий** *гл.* **нести**

**Несходство** і **несходительство** *нязгода:* несходства къ доброму делу и ссоры бывали (АЗР, V, 26, 1637). – **Несходный, несходящий.**

**Несчадно** *гл.* **щадити**

**Несчастье** *гл.* **нещастье**

**Несчюжеложеный** *гл.* **чужоложство**

**Несыть** *ненасытнасць:* безрозумный лакомца... пропастную свою несыть показуетъ (Каліст, II, 155б). – **Несытно, несытность (несытость), несытный (несытый).**

**Несягненье** *гл.* **сегнути**

**Нетайный** *гл.* **таити**

**Нетвердо** *гл.* **твердый**

**Нетекущий** *гл.* **течи**

**Нетелесный** *гл.* **тело**

**Нетерпливый (нетерпеливый)** *нецярплівы:* мужъ нетерпливыи чинитъ безъ совета (Скар. ПС, 23). – **Нетерпленье (нетерпение), нетерпливе (нетерпеливе), нетерпливость (нетерпеливость, нетерпетливость).**

**Нетертый** *гл.* **терти**

**Нетесаный** *гл.* **тесати**

**Нетецъ** *гл.* **няти**

**Нетихий** *гл.* **тихий**

**Нетленный** *гл.* **тлети**

**Нетолчоный** *гл.* **толчи**

**Нетоптаный** *гл.* **топтати**

**Нетопыръ (недопыръ)** *нетапыр, кажан:* почали лета[т] нетопыри такъ великии яко голуби (Алекс., 28).

**Неторговый** *гл.* **торгъ**

**Нетравный** *гл.* **травити**

**Нетрафне** *гл.* **трафити**

**Нетрвалый** *гл.* **трвати**

**Нетрвожливе** *гл.* **трвога**

**Нетресеный** *гл.* **трясти**

**Нетроскливый** *гл.* **троска**[1]

**Нетрудный** *гл.* **трудъ**[1]

**Нетство** *гл.* **няти**

**Нетъ (нету)** 1) *няма:* поведалъ намъ, што дей детей въ него нетъ (КЗ, 397, 1483); 2) *не:* вонътпили, суть ли жывыми, або не$^{т}$ (Навука, 159).

**Нетяглый** *гл.* **тягнути**

**Неублаганый** *гл.* **благати**

**Неубываючий** *гл.* **убыти**

**Неуважный** *безразважны:* оупоръ емоу непристойный и неоува$^{ж}$ны$^{й}$ с тоеи меры приписовали (Апакр., 131). – **Неуважне, неуважность.**

**Неувядаемый** *гл.* **вянути**

**Неугамованый** *гл.* **угамовати**

**Неугасаючий** *гл.* **гаснути**

**Неугасимый** *гл.* **угасити**

**Неугодный (невгодный)** 1) *непажаданы, нялюбы:* люди боуду$^{т}$ носити одежу предивну, господоу богу невго$^{д}$ну (Сівіла, 7); 2) *нягодны, дрэнны:* бы$^{л}$ на$^{д}$деръ неуго$^{д}$ного живота чл$^{в}$къ грешны$^{й}$ (Зб. 107, 171). – **Невгодно.**

**Неудобство** *нязручнасць:* Недоумеваніе: … недомышле$^{н}$е, неудобство (Бяр., 91).

**Неудолзе** *гл.* **невдолзе**

**Неудольный** *няздатны:* хто бы ся до зноше$^{н}$я м$^{ч}$ничества неудо$^{л}$нымъ чулъ (Зб. 82, 363б). – **Неудольность.**

**Неудячный** *гл.* **вдячный**

**Неуже (невже)** *няўжо:* неуже заты$^{м}$ розрывае$^{т}$ся звязо$^{к}$ малже$^{н}$скій (Навука, 164).

**Неуживанье** *гл.* **ужити**

**Неужыточный** *гл.* **ужитокъ**

**Неужытый** *гл.* **ужити**

**Неузнанье** *гл.* **узнати**

**Неуищенье** *гл.* **истити**

**Неука** *гл.* **неукъ**

**Неуказанье** *гл.* **указати**

**Неукороненый** *гл.* **укоренити**

**Неукорный** *гл.* **корити**

**Неукрашеный** *гл.* **украсити**

**Неукрочоный** *гл.* **укротити**

**Неукъ** 1) *невук:* Невежа: простакъ, неукъ (Бяр., 90); 2) *малады конь або вол, не прывучаны да працы:* кобыла одна, жеребятъ неуковъ трое (АВК, XVI, 644, 1599). – **Неука, неукий (невкий).**

**Неулечоный** *гл.* **улечити**

**Неумартвенье, неумертвеный** *гл.* **умертвити**

**Неумеетный** *гл.* **умеетный**

**Неумелый** *гл.* **умети**

**Неуместимый** *гл.* **вместити**

**Неумираючий** *гл.* **умерети**

**Неумовный** *гл.* **умовити**

**Неумолотный** *неўмалотны:* жито ве$^{л}$ми было неумолотно (Барк., 164).

**Неумъ** *гл.* **умъ**

**Неумысльный (неумыслный)** *ненаўмысны:* о томъ… сужоно яко о иншихъ мужобо$^{й}$ствахъ неумысльныхъ (Ст. 1588, 411). – **Неумысл(ь)не.**

**Неумытый** *гл.* **умыти**

**Неунитъ** *гл.* **уния**

**Неуношоный** *гл.* **внести**

**Неупаметанье, неупамяталый** *гл.* **упамятати**

**Неуписаный, неуписный** *гл.* **вписати**

**Неупование** *гл.* **уповати**

**Неупокой** *гл.* **непокой**

**Неупорный** *гл.* **упоръ**

**Неупослушенство** *гл.* **послушный**

**Неупотребителный** *неўжывальны:* Чисмя, число: личба, або личманъ, чисмя неупотребително е$^{ст}$ (Бяр., 203).

**Неупреймость** *гл.* **упреймый**

**Неупривильеваный** *гл.* **привилей**

**Неупрошеный** *гл.* **упросити**

**Неурада** *непрыгожасць:* пятая ляторска е$^{ст}$ завстыдене свои$^{х}$ дефекто$^{в}$… яко то уломно$^{ст}$ якая тела або неурада (Зб. 261, 162). – **Неурядный (неврядный).**

**Неурадовне** *гл.* **урадъ**

**Неуродивый** *гл.* **уродити**

**Неурожай** *гл.* **урожай**

**Неуръ** *прадстаўнік міфічнага народа:* неури те$^{ж}$ в тата$^{р}$ски$^{х}$ краина$^{х}$ люде, што ся на ча$^{с}$ в во$^{л}$ки переменяю$^{т}$ (Бельск., 12б).

**Неурядный** *гл.* **неурада**

**Неусмиренный** *гл.* **усмирити**

**Неуспокоеный** *гл.* **успокоити**

**Неуставаючий** *гл.* **неустанный**

**Неуставичный** *гл.* **уставичный**

**Неусталый** *гл.* **устати[1]**

**Неустанный** *безупынны:* взглянулъ на неустанные слезы, которые небеса пробиваютъ (АЗР, V, 25, 1637). – **Неуставаючий, неустанье, неустаючий.**

**Неустоянство** *гл.* **устояти**

**Неустрашоный** *гл.* **устрашити**

**Неустройный** *недысцыплінаваны, свавольны:* непорядный абовемъ человекъ и неоустройный (Каліст, II, 338б).

**Неуступенье** *гл.* **уступити[1]**

**Неусыновление** *гл.* **усыновление**

**Неусыпный** *пастаянны:* добръ... вамъ при неоусыпныхъ своихъ молитвахъ оупрейме зычимо (Паўуст., 11б). – **Неусыпанье, неусыпающий.**

**Неутертый** *гл.* **утерти**

**Неутешный** і **неутешимый (невтешимый)** *няўцешны:* чл$^{в}$къ… в счасливо$^{м}$ поваже$^{н}$ю тоскливы$^{й}$, а в неща$^{ст}$ю за$^{с}$ неутешны$^{й}$ (Зб. 82, 126). – **Неутешимо.**

**Неутоленый** *гл.* **утолити**

**Неутратный** *гл.* **утратити**

**Неутуленый** *гл.* **утулити**

**Неуфне** *недаверліва:* Охиляючися што чиню, несмеле, неоуфне (Бяр., 191).

**Неучасный** *гл.* **невчасъ**

**Неучиненье** *гл.* **учинити**

**Неучоный** *гл.* **учити**

**Неучтивый** *гл.* **учтивый**

**Неушанованье** *гл.* **шановати**

**Нефалшивый** *гл.* **фалшъ**

**Нефиючийся** *гл.* **хвияти**

**Неforeмный** *непрыстойны:* изали… то подобно, абы въ преславномъ месте што некгречного и нефоремного быти мело (Карп., 34б). – **Нефоремне.**

**Нефортуна** *гл.* **фортуна**

**Нефофатчикъ** *жыхар мясцовасці Нетафаф у старажытным Ізраілі:* Елеонъ алоницкій, Мовей нефофатчикъ (Хран., 278).

**Нефрасовливость** *гл.* **фрасовати**

**Нефть** *гл.* **нафта**

**Нехай** і **нехъ** *няхай:* нехай его милость панъ подчашый всихъ запозоветъ (АВК, I, 299, 1621).

**Нехати** *пакідаць:* видячи александе$^{р}$ великую справе$^{д}$ливо$^{ст}$ и$^{х}$… неха$^{л}$ и$^{х}$ с покое$^{м}$ (Бельск., 170). – **Занеханый, занеханье, занехати, занехатися, занехиваный, занехивати (занехавати, занеховати), знеханый, позанехати, понеханье, понехати, понехивати.**

**Нехвеючийся** *гл.* **хвияти**

**Нехелпливе** *гл.* **хелпитися**

**Нехенть** *гл.* **хуть**

**Нехибне (нехыбне)** *беспамылкова:* добры то нашъ годынныкъ петухъ, што нехыбне о полночи какарекаетъ (Мял., 318).

**Нехитрость** *гл.* **хитрый**

**Нехлюя** *неахайнік:* Небрежникъ: небрегій, недбалый, нехлюя (Бяр., 90).

**Нехоженье** *гл.* **ходити**

**Нехоробрый** *гл.* **храбрый**

**Нехорошее** *гл.* **хороший**

**Нехотение** *гл.* **хотети**

**Нехоть, нехотя** *гл.* **хуть**

**Нехотячий** *гл.* **хотети**

**Нехристиянский** *гл.* **християнинъ**

**Нехто** і **некто** 1) *нехта:* нехто иныи с твоего двора мыслит насъ погубити (Трыст., 12); 2) *хтосьці малавядомы:* нехто Вежъгайло, да Урко... доводили на Круповичъ про мезлеву (АЮЗР, I, 15, 1444). – **Нечий.**

**Нехутливый, нехуть** *гл.* **хуть**

**Нехъ** *гл.* **нехай**

**Нецелый** *гл.* **целый**

**Нецка** *ночвы:* провади до Кролевца... нецокъ десятковъ 7 (АВК, XIV, 647, 1599).

**Нецнота** *гл.* **цнота**

**Нецство** *гл.* **няти**

**Нецудне** *гл.* **цудъ**

**Нечасто, нечастый** *гл.* **частый**

**Нечаяние** *неспадзяванасць:* хто… соухъ нечаяниемъ, то все$^{х}$ вода крещеная исцелить (Чэцця, 341б).

**Нечеканье** *гл.* **чекати**

**Нечеловеколюбный** *гл.* **человеколюбие**

**Нечеловеческий** *гл.* **человекъ**

**Нечерный** *гл.* **черный**

**Нечесть (нечестие)** *знявага:* соромоту и нечесть великую имъ делали (АЗР, II, 357, 1539). – **Нечестивость, нечестивый (нечстивый, нечтивый).**

**Нечий** *гл.* **нехто**

**Нечиненье** *гл.* **чинити**

**Нечинный** *гл.* **чинъ**

**Нечистый (нечыстый)** 1) *брудны:* нечистые ноги промыва$^{л}$ (Пак. Хр., 5); 2) *з прымесямі:* вино… было нечистое и дро$^{ж}$дзистое (Зб. вып., 19); 3) *грахоўны:* о$^{т}$менити нечистый животъ на побожный (Каліст, I, 13б). – **Нечистее, нечисто, нечистость (нечыстость), нечистота (нечыстота), нечистотовати, нечыстшый, нечысть.**

**Нечитаный** *гл.* **читати**

**Нечолованье** *гл.* **чело**

**Нечорный** *гл.* **черный**

**Нечстивый** *гл.* **нечесть**

**Нечтеный** *гл.* **чтити**

**Нечто** *гл.* **нешто**

**Нечувствие** *гл.* **чувство**

**Нечулый (нечуйный)** *нячулы:* есте$^{с}$мо ба$^{р}$зе$^{й}$ нижъ зе$^{м}$ля нечулыми (Зб. 255, 300б). – **Нечуйне, нечулейший, нечулость (нечуйность).**

**Нечыстый, нечысть** *гл.* **нечистый**

**Нешалионый** *гл.* **шалети**

**Нешитый** *гл.* **шити**

**Нешкодливе** *гл.* **шкода**

**Нешлюбный** *гл.* **шлюбъ**

**Нешляхта** *няшляхта:* тым же обычае$^{м}$ и нешля$^{х}$та проти$^{в}$ нешля$^{х}$ты в праве захова$^{н}$ны быти маю$^{т}$ (Ст. 1566 I, 85б). – **Нешляхетникъ (несляхетникъ), нешляхетный, нешляхетский, нешляхетство, нешляхотне, нешляхтичъ.**

**Нешпоръ** *вячэрня:* судья съ подсудкомъ ма судить по ранней мши ажъ до нешпору (АЗР, I, 226, 1501). – **Нешпорный.**

**Нешто** і **нечто** 1) *штосьці:* есть и еще нешто, што на$^{с}$ невыслухаными чинитъ (Каліст, II, 98б); 2) *чамусьці:* король братъ присягу нешто отложилъ (КЗ, 374, 1480); 3) *крыху:* лю$^{д}$ спрацованы$^{й}$ за тыи лета нешто о$^{т}$почину$^{л}$ (Бельск., 86). – **Нештось.**

**Нещадно** *гл.* **щадити**

**Нещаднодаание** *шчодрае даванне:* Обильное хотеніе, нещаднодааніе (Бяр., 191).

**Нещажение** *гл.* **щадити**

**Нещастье (несчастье)** *няшчасце:* мещанинъ по своему нещастью всхочеть пойти до иного города (КЗ, 547, 1494). – **На(й)нещасливший (найнесчасливший), нещасливе**

**(несчасливе, несчастливе), нещасливецъ, нещасливший (несчасливший), нещасливый (несчасливый, нещастливый), нещасный (несчасный, нещастный), нещастникъ (несчастникъ), нещастница (несчасница), пренесчастный.**

**Нещирый** *гл.* **щирый**

**Неявленый, неявный** *гл.* **явити**

**Неяденье** *гл.* **ести**

**Неякий і некакий** 1) *якісьці:* вошли в неякое поле (Алекс., 30б); 2) *малавядомы:* его неякии Аудакгъ острогот пробилъ ощэпом (Атыла, 197). – **Неякийсь, неяко (некако, неякъ), неяковыйсь, неякось (некакось).**

**Неясачный** *гл.* **есакъ**

**Неясить** *няясыць:* лебедя ботьяна и неясити... не имате ести (Скар. ДЗ, 31).

**Ни** *ні:* которыхъ… ни одинъ прiймовати не маетъ (АЗР, I, 24, 1388).

**Нива** 1) *ніва:* коло самое дороги нива (ИЮМ, XXV, 348, 1637); 2) *перан. поле дзейнасці:* нива нечестивы^х^ грехъ (Зб. 262, 103б). – **Нивка, нивочка, нивье.**

**Ниввечъ** *гл.* **внивечъ**

**Нивесть** *гл.* **невесть**

**Нивка, нивье** *гл.* **нива**

**Нигде (нигдей, никгде)** 1) *нідзе:* присегать нигде не маютъ, одно передъ церковью (АЗР, I, 80, 1468); 2) *нікуды:* въ подводу... нигде не маютъ ездити (КПД, 72, 1529).

**Нигды** *гл.* **николи**

**Нигритъ** *негр:* су^т^ нигрите люде те^ж^ наги и чо^р^ни (Бельск., 402б).

**Нижайший** *гл.* **низкий**

**Ниже** *гл.* **нижъ**

**Нижевписаный** *ніжэй упісаны:* нижевписаную инте^р^цизу... до книгъ теперешни^х^ вписати казалъ (Апакр., 28б).

**Нижей** *гл.* **низкий**

**Нижейвыражоный** *ніжэйадзначаны:* нижейвыражоную сумму грошей на розные потребы меские брали (ИЮМ, X, 3, 1695).

**Нижеймененый (нижемененый) і нижейменованый, нижейпомененый** *ніжэйназваны:* екстрактъ съ книгъ духовныхъ въ речи въ немъ нижеймененой... подалъ (АЗР, III, 18, 1586).

**Нижейописаный (нижейписаный, нижэйописаный) і нижейподписаный** *ніжэйпералічаны:* врады… розданы тымъ особамъ нижэйописанымъ (Рач., 352).

**Нижейпомененый** *гл.* **нижеймененый**

**Нижейпостановленый** *ніжэйпрыняты:* маетъ... до тое околицы где се то станетъ водлугъ порядку о шкрутынии ниже^й^постановленого самъ выехати (Ст. 1588, 416).

**Нижели** *гл.* **нижъ**

**Нижемененый** *гл.* **нижеймененый**

**Нижли** *гл.* **нижъ**

**Нижний** *гл.* **низкий**

**Нижченье** *гл.* **нищити**

**Нижъ (негли, неже, нежели, нежли, нежъ, ниже, нижели, нижли) і анижъ (анежели, анежли, анижели, анижли)** 1) *чым:* болше^й^ и^х^ полегло утекаючи^х^ ни^ж^ на пляцу (Стрыйк., 534); 2) *але, аднак:* з немцы записа^л^ся на насъ князь велики^и^ якге^и^ло ни^ж^ли в то^м^ насъ Богъ остерегъ (Рач., 318).

**Нижэй** *гл.* **низкий**

**Нижэйописаный** *гл.* **нижейописаный**

**Низашто** *нізашто:* дьяво$^{л}$ не потворелъ низашто (Чэцця, 318).

**Низбрегъ** *абрыў, круча:* Стремнина, низбрегъ, местце прикрое, прикрый берегъ албо скала, или дебря, завесистое местце (Бяр., 157).

**Низвергнути** *звергнуць, скінуць:* сей оурядъ о$^{т}$ ц$^{р}$кве низверже (Зб. вып., 73). – **Низвергати, низверженый, низверженье.**

**Низвести** *звесці:* диявo$^{л}$... в пропа$^{ст}$ ни$^{з}$вести поже$^{р}$ти усилова$^{т}$ хоче (Зб. 752, 1). – **Низводити.**

**Низина, низитися** *гл.* **низкий**

**Низка** *нізка:* за низки кгимовы казните$^{л}$ мудрыи оухо послушному (Зб. 262, 101б).

**Низкий** 1) *нізкі:* заметъ низкій коло бруку (ИЮМ, IX, 82, 1692); 2) *нізінны:* на низки$^{х}$ местахъ… яри згола потопило (Барк., 168б); 3) *нізкі па сацыяльным становішчы:* были просто$^{г}$ низко$^{г}$ народу (Бельск., 145); 4) *ганебны:* для порожней славы и навышніи речи низкими ставаю$^{т}$ся (Каліст, I, 3). – **Найнижей, найнижший (найнизший, нанизший), нанизу, нанизъ, нижайший, нижей (нижэй), нижний, низина, низитися, низко, низкость, низший (нижший), низовский, низовый, низу, низъ, пренизкий, принижити.**

**Низкодушие** *пакорлівасць:* лепшеи низкодушіе с тихи$^{м}$ нежели делити корысть зъ гордыми (Зб. 262, 101б).

**Низкость** *гл.* **низкий**

**Низложити** *скінуць:* мають тую игуменію съ игуменства низложити (АЗР, V, 70, 1641). – **Низлагати, низлагатися.**

**Низовский** *гл.* **низкий**

**Низойти** *сысці:* зниходящіи во адъ низоидуть (Зб. 262, 15). – **Низходити (нисходити), низходящий (зниходящий, нисходящий), нисходително.**

**Низпадати** *падаць духам:* Озлобляюся: низпадаю, трачу ср$^{д}$це (Бяр., 196).

**Низринути** *гл.* **зринути**

**Низсеченый** *гл.* **сечи**

**Низходити** *гл.* **низойти**

**Низший, низъ** *гл.* **низкий**

**Никакий, никакъ** *гл.* **ниякий**

**Никгде** *гл.* **нигде**

**Никой** *гл.* **ниякий**

**Николаита** *прадстаўнік ерэтычнай секты першых часоў хрысціянства:* тоутъ пописаны… якобите николаите компоты исмы (Валх., 78).

**Николи і никгды (аникгды, нигды), никогда (никогды)** *ніколі:* николи на войну не ездять (КПД, 448, 1568).

**Никоторый** 1) *ніякі:* шкоды никоторое никому не маю$^{т}$ чинить (Ст. 1566, 25б); 2) *некаторы:* жаловали... о забране никоторое маетности (АВК, XXXVI, 38, 1582).

**Никто, никтъ** *гл.* **нихто**

**Никуды (никуда)** *нікуды:* ты не ходи никуды з двора (Трыст., 42).

**Никчемный (никчэмный, ничемный)** 1) *нікчэмны:* обеца$^{л}$ за бе$^{д}$ны$^{й}$ и никчемны$^{й}$ тане$^{ц}$ по$^{л}$па$^{н}$ства (Зб. 261, 218б); 2) *неправамоцны:* таковы$^{й}$ тэстамэ$^{нт}$ мае$^{т}$ быти никчэ$^{м}$ны$^{й}$ (Ст. 1566, 88б); 3) *нягодны:* бы$^{л}$ человекъ ленивы$^{й}$ никче$^{м}$ны$^{й}$ (Бельск., 146б). – **Зникчемнети (зничэмнети), никчемне (никчэмне), никчемникъ, никчемность (ничемность), оничемнити, оничемнитися.**

**Нимало** *гл.* **малый**

**Нимашъ** *гл.* **немашъ**

**Нимъ** *перш чым:* просилъ мене... абых я при немъ мешкалъ, нимъ се он у томъ дворцы укгрунтуетъ (АВК, XXXVI, 186, 1582).

**Нине, нинешний** *гл.* **ныне**

**Нинивитъ** *жыхар асірыйскага горада Ніневія:* на туую непевно$^{ст}$ нинивитове покуту чинили (Выкл., 125б).

**Ниодкуль** *гл.* **ниоткуль**

**Ниоднакий** *гл.* **однаковый**

**Ниодный** *гл.* **одинъ**

**Ниоткуль (ниодкуль)** і **ниотколь (ниотколе, ниотколя), ниоткуду** *ніадкуль:* помочи нио$^{т}$ку$^{л}$ не сподева$^{л}$ся (Стрыйк., 439).

**Нипреложно** *гл.* **непреложный**

**Ниприязненый** *гл.* **неприязнь**

**Ниспосылати** *даравацъ:* блг$^{д}$ти Г$^{с}$дь Богъ ниспосылаетъ (Зб. вып., 107б).

**Нисходити** *гл.* **низойти**

**Нитка** *гл.* **нить**

**Нитрополитъ** *гл.* **митрополитъ**

**Нитроха** *гл.* **троха**

**Нить (ниць)** *ніць:* тыхъ сеножате$^{й}$... я ищу какъ по нити клубъка (КВЗС, 145, 1540). – **Нитка, нитяный.**

**Ниувечъ** *гл.* **внивечъ**

**Нихто** і **никто (никтъ)** *ніхто:* нихто з ними противитися не зможетъ (Царств., 78б). – **Нихтось.**

**Ница** *падкладка:* ница, пилъсци, подшевки, крашенина (ИЮМ, XVIII, 109, 1710).

**Ницарство** *драўляныя вырабы з разьбой:* онъ ижъ былъ реме$^{с}$никомъ, собралъ... з ручной роботы своей ница$^{р}$ство (Пралог, 641б).

**Ницовати** *ніцаваць, пераварочваць:* мо$^{з}$кги гереты$^{ц}$кие хотячие пи$^{с}$мо ницовати завъше ся оборочаю$^{т}$ (Зб. 259, 543б). – **Выницовати, переницованый.**

**Ницъ**[1] *ніц, тварам уніз:* падши на землю ницъ плакали все (Мак., 19б).

**Ницъ**[2] *гл.* **ништо**

**Ниць** *гл.* **нить**

**Ничемный** *гл.* **никчемный**

**Ниченица** *нічальніца:* ниченицы трои, бердъ одинънатъцать (АВК, XXI, 144, 1557).

**Ничий (ничый)** *нічый:* нехай не упадаетъ ср$^{д}$це ничіе (Хран., 219б).

**Ничто** *гл.* **ништо**

**Нишанъ (нышанъ)** *ханская пячатка:* подъ золотымъ нишаномъ и подъ алыми тамгы ярлыкъ данъ (АЗР, II, 9, 1506).

**Нишкомъ** *нішкам:* проти$^{в}$ ему мови$^{л}$, але нишко$^{м}$ з не$^{з}$бо$^{ж}$ными (Жыц. св., 102).

**Ништо** і **ниць, ничто** 1) *нішто:* ништо такъ не омыляетъ, якъ парсуна человеческа (Трыст., 108); 2) *пустое месца, нічога:* у бачныхъ и мудрыхъ людей таковые помылки за ништо ставятся (АЗР, V, 32, 1637).

**Нищати** *гл.* **нищий**

**Нищачий** *гл.* **нищити**

**Нищелюбие** *схільнасць да беднасці:* естъ нищелюбіе, то естъ оубо$^{з}$ства и оубогихъ милова$^{н}$е (Каліст, I, 25). – **Нищелюбный.**

**Нищенье** *гл.* **нищити**

**Нищесаный** *гл.* **чесати**

**Нищий (нищый)** 1) *бедны:* не заприши воды убогому и нищему брату твоему (Скар. ДЗ, 46б); 2) *жабрак:* продай все што маешъ и о$^{т}$дай нищимъ (Варл., 128). – **Нищати (нищети), нищатися, нищета, нищетный, обнищати, обнищенье.**

**Нищити (нищыти)** *нішчыць:* скарбы наши нищили (АЗР, II, 346, 1598). – **Вынищати, вынищатися, вынищеный (вынищоный), вынищенье, вынищити (вынищыти), вынищитися, знищати (из-), знищелый (знисчелый), знищеный (знищоный), знищенье (знищение, снисченье), знищити (знищыти), знищитися, нищачий (нищащий), нищенье (нижченье), нищитися (нищытися).**

**Ниякий (нияковый)** і **никакий (никаковый, никой)** *ніякі:* онъ в себе не мелъ ниякого оружя (Бава, 131). – **Ниякъ (никако, никакъ).**

**Но** *але:* не пришолъ есми разорити закона, но исполнити (Зб. 82, 282).

**Нованеликъ** *новаевангеліст:* нованеликове иначе$^{й}$ чистца... запрети не могли (Выкл., 112).

**Новатианинъ (новатиянинъ)** *прадстаўнік ерэтычнай плыні ў хрысціянстве, паслядоўнік вучэння епіскапа Новата:* то было ерети$^{ц}$тво Новатия того и новатиановъ (Бельск., 250). – **Новатийский.**

**Новгородецъ (новогородецъ)** і **новогорожанинъ** *жыхар Ноўгарада:* торговати имъ въ Новегороде... зъ новгородцы (АЗР, I, 52, 1440).

**Новгорожанинъ** *жыхар Навагрудка:* выеха$^{л}$ з манастыра пи$^{н}$ско$^{г}$ до Новгоро$^{д}$ка, а пото$^{м}$ собравшися з новгорожаны в княжате$^{м}$ почте руши$^{л}$ся до ке$^{р}$нова (Стрыйк., 527).

**Новейший** *гл.* **новый**

**Новемберъ** *гл.* **ноябрь**

**Новикъ** *гл.* **новый**

**Новина (навина)** 1) *нядаўна атрыманая вестка:* новины, годные ведомости вашей... зъ сего краю даю (АЗР, III, 164, 1573); 2) *наваўвядзенне:* старины не рухаемъ, а навины не уводимъ (АЗР, I, 110, 1488); 3) *дадатковы падатак:* новину имъ учинили отъ кождого солоду по полъкорца брати (Арх. ЮЗР, V-1, 32, 1532); 4) *зямля, якая арэцца ўпершыню:* люди не мают новины пропахивати (Пін., 88, 1517); 5) *час збору новага ўраджаю:* две бочки жита маетъ ему у новину дати (АВК, XVII, 114, 1540). – **Новинка, новинщина.**

**Новицыатъ (новициатъ)** *паслушніцтва:* вдова была принятая до новицыату монастыря (Зб. вып., 74). – **Новицыушка.**

**Ново** *гл.* **новый**

**Нововведенный** *нядаўна ўзведзены (на прастол):* до гетмана и до того нововведенного господаря пріехалъ (АЗР, IV, 213, 1605).

**Нововерникъ** *той, хто прыняў новую веру:* то новове$^{р}$ницы зле выкладаю$^{т}$ (Бельск., 48б). – **Нововерячий.**

**Нововзниклый** *які нядаўна ўзнік:* важилистеся нововзниклую неякуюсь архимандрію... ерикговати (АСД, II, 53, 1634).

**Нововпроваженый** *наваўведзены:* не нововпроваженый законъ тобе ознаймую... але з стародавна намъ поданый (Варл., 128).

**Нововчиненый** *гл.* **новоучиненый**

**Нововыданый (нововыданный)** *нававыдадзены:* уписано въ статутъ земъскій права посполитого, теперъ нововыданый (КПД, 337, 1569).

**Нововыложеный** і **новопреложоный** *нядаўна перакладзены:* о сихъ всехъ книгахъ мною на руски языкъ нововыложеныхъ... выписано (Скар. ПЦ, 3).

**Нововымереный** і **новопомероный** *нядаўна вымераны:* за увязане ревизии… нововымереныхъ пляцовъ... интроликгатору заплатили (ИЮМ, I, 308, 1682).

**Нововыниклый** *які нядаўна паказаўся:* нововыниклую звезду такъ светлую и дивную обачивши, рушилися (Каліст, II, 260б).

**Нововыробленый** і **новопроробленый** *упершыню апрацаваны:* указалъ полька нововыробленые (АСД, I, 79, 1546).

**Новогородецъ** *гл.* **новгородецъ**

**Новоделаный** *гл.* **новоробленый**

**Новоженя** *жаніх:* Женихъ, новоженя, панъ молодый (Бяр., 43).

**Новозавиталый** *новапрыбыўшы:* на оныхъ новозавиталыхъ Ізраильской земле обывателе[й] львы наслалъ (Каліст, I, 131).

**Новозаконный** *новазапаветны:* о уставахъ старозаконныхъ и новозаконныхъ (Пыт., 3).

**Новозаложоный** *нядаўна закладзены:* новозаложоный паркан будовать и докончы[т] мают (АВК, XXXIX, 442, 1579).

**Новозбудованый** *новазбудаваны:* з ке[р]нова столицу княжа[ц]кую до троко[в] новозбудованы[х] перепровади[л] (Стрыйк., 537).

**Новозеленый** *колеру маладой зелені:* постав сукна каразеи новозеленой (АВК, XXXIX, 82, 1578).

**Новозовый** *гл.* **навозъ**

**Новозошлый** *які нядаўна памёр:* кождому дано было по два пенязи за грехо[в] о[т]пущенье новозошлого брата (Ст. бр., 18б).

**Новозрубаный** *нядаўна ссечаны:* оказали сосну новозрубаную (АЮЗР, II, 83, 1633).

**Новокононъ** *гл.* **номоканонъ**

**Новокрещенецъ (новохрещенецъ)** *анабаптыст:* до новокрещенцовъ и евангеликовъ не маемо... жадное справы (АЗР, XV, 145, 1596). – **Новокрещенский (новохрещенский), новокрещенство (новохрещенство), новокрещеный (новокрещоный, новохрещоный).**

**Новомесяцъ** *маладзік:* будеть новом[с]цъ о[т] новом[с]ца (Будны, 41). – **Новомесячие (новомесячное).**

**Новомодный** *навамодны:* футеръ беличыхъ новомодныхъ три (ИЮМ, VI, 7, 1689).

**Новомурованый** *нядаўна змураваны:* маем мы в той нинешъней великой соборной церкви новомурованой... два престолы (СДГВ, 90, 1635).

**Новонаверненый** *нядаўна далучаны:* речъ мелъ... до верныхъ новонавернены[х] (Выкл., 104б).

**Новонавоженый** *нядаўна ўгноены:* яко в навозехъ стары[х] такъ тежъ и в новонавоженыхъ поступилъ... третюю часть (КВС, 583б, 1552).

**Новонаданый** *нованададзены:* то право новонаданое отъ потомковъ ихъ милостей (АВК, III, 27, 1627).

**Новоназваный** *нованазваны:* Мошко Аврамовичъ, а теперъ по крещенью новоназванный Митрофанъ... просилъ (АВК, III, 15, 1582).

**Новонаправленый** і **новопереправленый** *нядаўна адрамантаваны:* свиренъ... гонтами побіяный, новонаправленый (АВК, XI, 50, 1593).

**Новонароженый (новонарожоный)** і **новороженый (новорожоный), новорожденый (новорожденный)** *нованароджаны:* щеня лвици новонарожоное чере[з] три дни и три ночи спи[т] (Зб. 259, 10б). – **Новорожение.**

**Новонасаженый** *нядаўна пасаджаны:* по[й]ди[ж] наконе[ц] до руси новонасаженого винограда х[с]ва (Зб. 752, 204б).

**Новонаступуючый** *новапрызначаны:* новонаступуючые панове дозорцы неспроданого напитку не приняли (ИЮМ, VI, 26, 1689).

**Новоначальный** *які пачынае выконваць новыя абавязкі:* то все только съвершеннымъ… а не молоды$^{м}$ и новоначальны$^{м}$ подви$^{ж}$никомъ служитъ (Карп., 18б).

**Новообжалованый** *на якога нядаўна падалі скаргу:* новообжалованые и передъ вашмость позваные маютъ се сполне зъ ними усправедливити (ИЮМ, VIII, 213, 1593).

**Новообраный** *новаабраны:* староста и шафары новообраные маютъ бывшыхъ передъ ними старосту и шафаревъ квитовать (ИЮМ, VIII, 412, 1625).

**Новоокрещоный** *гл.* **новокрещенецъ**

**Новоосажоный (новоосаженый)** і **новопосажоный** *нядаўна заселены:* кмети... въ селахъ нашихъ стародавныхъ, яко и новоосажоныхъ... маютъ платити (КПД, 533, 1569).

**Новооселый** *нядаўна аселы:* вызволеные будучи... мешкаютъ такъ отчизные, яко и новооселые (АЗР, IV, 14, 1589). – **Новоседъ, новоселитися.**

**Новоотогнаный** *нядаўна адмераны:* зъ отмены новоотогнаное съ одное стороны... морковъ чотыри (АСД, I, 137, 1562).

**Новопереправленый** *гл.* **новонаправленый**

**Новопереставленый** *нядаўна перанесены (пра дом):* домъ приземный, новопереставленый (АСД, I, 146, 1571).

**Новописаный** *нядаўна напісаны:* дозволяемъ приви$^{л}$я пра$^{в}$ и во$^{л}$ности шляхэ$^{т}$ские зе$^{м}$ские в ста$^{т}$утъ новописаны$^{й}$ вложити (Ст. 1566, 2).

**Новоподвышоный (новоповышоный)** *нядаўна павялічаны:* от даванья того мыта новоподвышоного ихъ вызволили (СДГВ, 121, 1580).

**Новопозатесываный** *нядаўна пазачэсваны:* был есми прыданым... на огъледанье кгвалтовне повытесываных старых знаковъ, то есть клейна, а новопозатесываных (АВК, XXXVI, 283, 1582).

**Новоположити** *толькі што ўстанавіць:* господаръ его милость новоположилъ на насъ мезлеву (КПД, 158, 1514). – **Новопокладаный, новоположоный (новоположеный).**

**Новопомероный** *гл.* **нововымереный**

**Новопоправленый** *нядаўна папраўлены:* тотъ статутъ новопоправлены$^{й}$ ... в поветы розослати велели (Ст. 1588, прадм.).

**Новопопсованый** *нядаўна папсаваны:* знаки пошли старые, которых новопопсовано, повытесывано (АВК, XXXVI, 283, 1582).

**Новопосажоный** *гл.* **новоосажоный**

**Новопосечоный** *нядаўна пасечаны:* дуброва новопосечона (АВК, XXII, 90, 1565).

**Новопоставленый (новопостановленый)** *новапрызначаны:* церкви... новопоставленый презвитеръ... перешкоды не чинилъ (АВК, III, 21, 1588).

**Новопочиненый (новопочыненый)** *нядаўна зроблены:* рубежи новопочиненые въ деревью въ пущи (АВК, XVIII, 161, 1598).

**Новоправленый** *нядаўна праўлены:* календаръ новоправленый въ панствахъ нашихъ приняти казали (АВК, III, 280, 1584).

**Новопреложоный** *гл.* **нововыложеный**

**Новоприбылый** *новапрыбыўшы:* за писане розныхъ справъ месихъ подписку Александру новоприбылому дали зол. два (ИЮМ, VIII, 99, 1691).

**Новоприкупленый** *нядаўна прыкуплены:* маетъ она тотъ манастыръ... со всими пожитками и приналежностями, здавна належачими и новоприкуплеными... держати (АЗР, V, 6, 1633).

**Новопринятый (новопрынятый)** *нядаўна прыняты:* въ томъ селе новопринятая волока одна (АВК, XIV, 217, 1580).

**Новоприпалый (новопрыпалый)** *які нядаўна адбыўся:* в тыхъ новоприпалы^х^ речахъ... позывали (Ст. 1566, 59).

**Новоприсыпаный** *нядаўна насыпаны:* греблю новоприсыпаную о^т^ чужого берега о^т^копалъ (Ст. 1588, 368).

**Новопроникльй** *нядаўна праніклы:* тую ересь называетъ змиевою иною новопроникдою главою (Каз. Кір., 165б).

**Новопробленый** *гл.* **нововыробленый**

**Новопророковатися** *прапаведаваць нешта новае:* неслушно... отъ старого Риму новопророковатись (АСД, II, 14, 1598).

**Новопросеченый** *нядаўна прасечаны:* виделомъ... дорогу новопросеченую на кгрунте его милости (АВК, XXXVI, 230, 1582).

**Новопрыпалый** *гл.* **новоприпалый**

**Новорасль** *парастак:* сынове твои яко новорасли маслинные окрестъ трапезы твоея (Будны, 72). – **Новорасленый.**

**Новоробленый** і **новоделаный** *нядаўна зроблены:* обора для быдла новоробленая (АВК, VII, 417, 1566).

**Новороженый** *гл.* **новонароженый**

**Новорозданый** *нядаўна раздадзены:* люди волости Гомельской новорозданые ротмистру Гомельскому (АЗР, V, 66, 1640).

**Новорозробленный** *нядаўна разроблены:* тая новорозробленная сеножать одъ семи летъ (АВК, XI, 31, 1556).

**Новосаженый (новосажденый, новосажоный)** *нядаўна пасаджаны:* сынове и^х^ яко новосажоные леторосли (Пс. XVI, 138).

**Новоседъ, новоселитися** *гл.* **новооселый**

**Новосотвореный** *гл.* **новотворити**

**Новосправленый** *нядаўна набыты:* шуба моя белинная хребтовая зъ колнеромъ новосправлена (АСД, VI, 13, 1528).

**Новостановити** *устанаўліваць нанава:* онъ де^й^ въ тотъ же день новостановилъ собе торгъ въ Клевони (КСД, 686, 1511).

**Новостворены** *гл.* **новотворити**

**Новострадати** *пaступаць па-новаму:* Странностраждетъ: новостраждетъ (Бяр., 157).

**Новость, новота** *гл.* **новый**

**Новотворити** *ствараць новае:* Новоседаху: новотворяху (Бяр., 98). – **Новостворены (новосотвореный), новотворение.**

**Новотеребъ (новотеробъ)** *нядаўна працярэблены ўчастак зямлі:* ми дано было... на полтретя моркга новотереб на сеножат (АВК, XXXIX, 327, 1579).

**Новотный** *гл.* **новый**

**Новоуклеченый** *новаўтвораны:* готовъ... душу положити за веру, анижели зъ Наа^с^сомъ новооуклеченую згоду приняти (Паўуст., 6).

**Новоураденый** *новаўведзены:* будуть повинъны стать и усправедливитисе, не закладаючисе... рецесами теперешними и новоурадеными (Арх. ЮЗР, V-1, 105, 1602).

**Новоустановленый (новоуставеный)** *новаўстаноўлены:* мыто новоустановленое подвышоное... арендовалъ (АВК, XXXIX, 26, 1578).

**Новоуфаленый** *нядаўна зацверджаны:* давши ему моцъ тот поборъ новоуфалены зъ сейму Варшавского... брать (АВК, XXXIX, 111, 1578).

**Новоучиненый (нововчиненый)** *наваўтвораны:* статутъ правъ нововчиненыхъ и выданыхъ... поправенъ быти не можетъ (КПД, 341, 1569).

**Новофундованый** *нядаўна заснаваны:* способъ... былъ новофундованый въ нашихъ краяхъ (АЗР, IV, 513, 1624).

**Новохрещенецъ** *гл.* **новокрещенецъ**

**Новоявленый** *раней невядомы:* секты... одни ри$^{м}$ские, другие грецкие, а третие новоявалены унияты (Бельск., 166).

**Новый** 1) *новы:* зняли сермягу новую (АВК, XXXVI, 44, 1582); 2) *які ўзнік нядаўна:* натесы новые по деревахъ чынено (ККСС, 18б, 1615); 3) *апошняга ўраджаю:* увъ осень… хлебъ новый будетъ (АЗР, II, 9, 1507); 4) *наступны:* врядникомъ всимъ чинити личьбу складаемъ отъ нового лета (АЗР, III, 80, 1557). – **Неновый, новейший, новикъ, ново, новое, новость, новота, новотный (навотный), новшый, по новому (понову).**

**Нога** 1) *нага:* хто бы кому руку або ногу втя$^{л}$ (Ст. 1566 I, 86б); 2) *апора мэблі:* столъ малый немецкій, ноги поламаные (АВК, VIII, 406, 1586). ◊ **Подбити подъ ноги** *падначаліць.* – **Наножъ, ножка, ножковый, ножный, ножчатый, суножки.**

**Ногавицы (нагавицы)** *нагавіцы:* безъ ногавицъ какъ бернардыны гуляли (Мял., 316). – **Ноговичникъ, ноговичницкий.**

**Ногота** *гл.* **нагий**

**Ноготь (наготь)** 1) *ногаць:* ногти рукъ его обреза$^{л}$ (Бельск., 16б); 2) *кіпцюр:* при ни$^{х}$ кладывали ногти рыссіи албо ме$^{д}$вежии (Патр. П, 86б); 3) *востры металічны кручок:* ногтями железными тело его стругано (Пралог, 485). – **Полногтя.**

**Ногутъ** *нут:* Сланутокъ: горохъ рогатый, ногутъ (Бяр., 149).

**Ногъ** *грыф:* розбоиникъ яко ногъ, гордъ яко пава (Арыст., 160).

**Ноембръ** *гл.* **ноябрь**

**Ножевникъ** *гл.* **ножъ**

**Ноженки** *гл.* **ножны**

**Ножикъ** *гл.* **ножъ**

**Ножицы (ножыцы)** *нажніцы:* взявши ножицы, голову на чотыри стороны самъ стригъ (АЮЗР, II, 11, 1601). – **Ножички (ножычки).**

**Ножка** *гл.* **нога**

**Ножны** *ножны:* имелъ повешеную деку в ножна$^{х}$ (Скар. ДЦ, 107). – **Ноженки, ножницы.**

**Ножный** *гл.* **нога**

**Ножъ** *нож:* втратилъ ми саблю и ножъ ческій (АВК, XVII, 247, 1540). – **Ножикъ (ножыкъ), ножовникъ (ножевникъ)** *рамеснік, які вырабляў нажы.*

**Ножыцы** *гл.* **ножицы**

**Ноздра (ноздря)** *ноздра:* таковому ноздра розрезана быти маетъ (Ст. 1588, 269).

**Номинатъ** *архіепіскап, прызначаны на пасаду, але яшчэ не пасвечаны:* ойцу номинату вина кгарцовъ чотыри (ИЮМ, I, 236, 1682).

**Номоканонъ (намоканунъ, намокононъ, новокононъ)** *збор прадпісанняў, якія датычаць царкоўных спраў:* чти номоканонъ то естъ правило събора се$^{д}$мого (Будны, 15).

**Ноне, нонечи** *гл.* **ныне**

**Норбарка** *гл.* **нурбалка**

**Норецъ** *старажытная назва балгарына:* которы$^{х}$ въ оны$^{й}$ ча$^{с}$ но$^{р}$цами называли (Стрыйк., 429б).

**Норка і норица (норыца)** 1) *норка:* за нечистые положены будуть... тхоръ, норка (Скар. КЛ, 22б); 2) *футра норкі:* ласицу норку по сту (СДГВ, 4, 1514).

**Нормандъ** *нармандзец:* норманди чинили великую шкоду во фра[н]цеи (Бельск., 392б).

**Норовъ і нравъ** *нораў:* лепъшеи плакати нежели и[х] норовы выписовати (Будны, 7б). – **Норовити, норовникъ** *памагаты.*

**Норогъ** *гл.* **нарогъ**

**Норотъ** *гл.* **неротъ**

**Нортманъ** *прадстаўнік старажытнай заходнееўрапейскай народнасці:* калетаны, нортманы, морыны, тункгры, фрызы, цымбры и прусы воевали (Атыла, 214).

**Норыца** *гл.* **норка**

**Носатка** *гл.* **насадка**

**Носатый** *гл.* **носъ**

**Носила (носило)** *насілкі; паланкін:* староста... ходи[т] не моглъ, але на носила[х] бы[л] ношоны[й] (Зб. 82, 116). – **Носилицы (носилницы).**

**Носити** *гл.* **нести**

**Носъ** 1) *нос:* носъ и губы попухли (АВК, XXXVI, 213, 1582); 2) *дзюба:* прилетели великии птахи чи[р]воныи а носы у нихъ и ноги чо[р]ныи (Алекс., 28); 3) *хобат:* слонове... стягали носы свои (Алекс., 25); 4) *пярэдняя частка судна:* камень... того бойдака нос отшиб (АВК, XXXIX, 206, 1579). ◊ **Вернутися зъ носомъ** *пацярпець няўдачу,* **водити за носъ** *уводзіць у зман.* – **Безносый, носатый, носикъ, полноса.**

**Носячий** *гл.* **нести**

**Нота** *нота, гук:* исполнилося серцэ весельемъ слухаючы ноты лютни Трыщановы (Трыст., 112). – **Нотно.**

**Нотарий (нотарыушъ)** *пісар:* Миркіанъ: … им[а] нотаріа, то е[ст] писара (Бяр., 296).

**Нотация (нотацыя)** *заўвага:* на верху сего фундушу нотація въ тые слова (АВК, XII, 435, 1617). – **Нотованый, нотованье, нотовати.**

**Нотно** *гл.* **нота**

**Нотовати** *гл.* **нотация**

**Ноходникъ** *гл.* **иноходникъ**

**Ноцлегъ** *гл.* **ночлегъ**

**Ноцъ** *гл.* **ночъ**

**Ночвы** *ночвы:* купати его хотячы положыла его в ночвахъ (Зб. 752, 191б). – **Ночовки.**

**Ночлегъ (начлегъ) і ноцлегъ** 1) *начлег:* приехалисмо на ночлегъ до села (Дыяр., 151); 2) *пасьба коней ноччу:* поехалъ на ночлегъ з конми мескими (ИЮМ, XXI, 22, 1711).

**Ночница** *гл.* **ночъ**

**Ночнодневный** *сутачны:* ведать рачишъ о его подвигахъ, о потахъ въ ночнодневно[м] стоя[н]ю, о працахъ, роботахъ (Лям., 12).

**Ночъ (ночь) і ноцъ, нощь (нощъ), нучъ** *ноч:* всю ночъ безъ сна пробылъ (Варл., 26). ◊ **Великая ночь** *Вялікдзень.* – **Вночи (вночь, внощи, уночи), заночововати, заночовати (заначовати), наночъ, ночка, ночница, ночный (нощный), ночовати (начовати, ночевати), ночью (нощию), обночовати (обночевати), обночоватися, обнощати, переночеванье, переночевати (переночовати), преноцованый** *задаўнены.*

**Ноша, ношенье** *гл.* **нести**

**Ноябрь (ноябръ, нояврий) і новемберъ (новембрий, новембръ, новемрий, новэмбръ), ноембръ (ноембрий, ноемврий)** *лістапад:* месяца ноября 20 дня (АЗР, III, 31, 1551). – **Ноябровый.**

**Нравоучитель** *мараліст:* Григорій богосло[в] и нравоучите[л] и инъшые о[т]цы святые достате[ч]не научаю[т] (Навука, 52). – **Нравоучителне, нравоучителный.**

**Нравъ** *гл.* **норовъ**

**Ну** *ну:* реклъ товарышо$^{м}$: ну, вы, мои, чуюся отяжалы$^{м}$ (Зб. 752, 463). – **Нужъ.**

**Нубианинъ (нубиенинъ)** *нубіец:* ноубіане соу$^{т}$ люди с королевства нубіе (Валх., 78).

**Нугаксъ** *ашуканец:* Блядивый: ... лгаръ, нугаксъ, баламутъ (Бяр., 9).

**Нуда** *гл.* **нендза**

**Нудити (нутити)** *прымушаць:* ноудили его оучитися прем$^{д}$рости (Арыст., 156). – **Внудити, вынудити, нудимый, нудитися, нужати, нученый, поднущати, поднущенье, понудити, понудитися, понужати, понукати, понукнути.**

**Нудный** *гл.* **нендза**

**Нужа** і **нужда** 1) *беднасць, нястача:* жи$^{л}$ на пущы у велико$^{й}$ нужи, зелье$^{м}$ ся то$^{л}$ко живячи (Зб. 82, 171б); 2) *бяда, гора:* остави$^{л}$ воиско и побегъ з великою нужею (Алекс. 1697, 49); 3) *патрэба:* што за нужа... по$^{д}$дати$^{с}$ яко$^{й}$ зло$^{й}$ склo$^{н}$ности (Зб. 107, 192б). – **Найнужнейший (найнужднейший), нужнейший, нужникъ** *пакутнік,* **нужно (нуждно, нужне), нужное, нужный (нуждный).**

**Нужати** *гл.* **нудити**

**Нужда, нуждный, нужникъ, нужный** *гл.* **нужа**

**Нуздати** *звязваць, стрымліваць:* если бы и$^{х}$ богъ не нуздалъ, чинили бы вернымъ што бы хотели (Будны, 118). – **Внуздати, однузданный, онуздовати, унуздовати.**

**Нуллитеръ** *безагаворачна:* у подданыхъ збоже розное, кони, быдло, фанты до себе нуллитер забрал (ИЮМ, XXV, 225, 1670).

**Нунциушъ** *нунцый:* видиле$^{м}$ нунціуша легата в короне папе$^{ж}$ско$^{й}$ (Дыяр., 159б). – **Нунцыатура** *вышэйшы духоўны суд.*

**Нурбалка (норбарка, нурбарка, юрбарка)** *від шапкі:* шапъка нурбалка коштовала полъосма гроша (АВК, XXXVI, 150, 1582).

**Нурокъ** *член рэлігійнай секты нуркаў:* натрафи$^{л}$… ебио$^{н}$ албо нурокъ (Унія, 2).

**Нуртъ** *цячэнне:* ю$^{ж}$ се з нами про$^{м}$ почина$^{л}$ бы$^{л}$ на ну$^{р}$те залива$^{т}$ (Еўл., 31).

**Нутити** *гл.* **нудити**

**Нутро (внутро, нутръ)** 1) *унутранасць арганізма:* перевернулося ср$^{д}$це мое в нутри мое$^{м}$ (Зб. 262, 110б); 2) *унутраная частка чаго-н.:* оувиде$^{х}$ видение светлее солнца из ноутря н$^{б}$съ (Чэцця, 372б); 3) *сутнасць чаго-н.:* покута здае$^{т}$ся шпе$^{т}$ная ле$^{ч}$ в нутру пе$^{к}$ная (Зб. 261, 87). – **Внутреный (внутрный, нутреный, нутрный, унутреный), внутри (внентри, унутры), внутрне, внутрнейший, внутрность, внутръ (вевнутръ, вовнутръ, унутръ), зевнутрне, зевнутрний (зевнутрный, зовнутрний), знутра (звнутра, звнутръ, зевнутръ, зовнутръ, изнутри, изовнутръ).**

**Нученый** *гл.* **нудити**

**Нучъ** *гл.* **ночъ**

**Ныдети** *сумаваць:* ныю – оунываю, ныдею (Зіз., 46).

**Ныне (нине, ноне)** і **нинека, нынечи (нинечи, нонечи)** *цяпер, сёння:* нехай будетъ о$^{т}$ насъ честь слава и поклонъ, ныне и завжды (Каліст, І, 20). – **Доныне, знине, нынешний (нинейший, нинешний, нонешний, нынейший), отныне, поныне.**

**Нырище** *руіны, развалiны:* Нощный вранъ: слеповоронъ, птица си плачлива есть, и на нырищахъ... любитъ седати (Бяр., 95).

**Нырка** *нырка:* в домъ купили мяса и нырки (ИЮМ, XVIII, 41, 1710).

**Ныти** *пераварваць ежу (у страўніку):* коли будеть желоудо$^{к}$ горячь... ныють в не$^{м}$ яствы (Арыст., 187). – **Зныти (изныти), нытье.**

**Нышанъ** *гл.* **нишанъ**

**Нэапольчыкъ** *жыхар Неапаля:* учтиво$^{ст}$ нэапо$^{л}$чицы указовали княжати (Еўл., 51).

**Нюхати** *нюхаць:* мысливы$^{й}$ пе$^{с}$ нюхаючы и шукаючи следу бегае$^{т}$ (Зб. 259, 222). – **Обнюхати, понюханье (повунханье).**

**Нядра** *гл.* **надра**

**Нянька** *нянька:* взяла наама оное дитя... и была ему нянькою (Зб. 262, 33б).

**Няти (яти)** *узяць; схапіць:* няли его и усадили его у комороу (Пак. Хр., 34б). – **Нятецъ (нетецъ, ятецъ), нятися (ятися), нятство (незство, нельство, нетство, нецство, няцство, няцтво, ятство, ятьство), нятый (ятый).**

# О

**О$^{1}$** і **объ (обо)** 1) *аб, пра:* я неоднокроть ему о то мовилъ (АВК, XXII, 168, 1565); 2) *з-за, з прычыны:* протестовалсе на насъ о такій всказъ (АВК, VI, 208, 1600); 3) *для, за:* болше$^{й}$ стоя$^{л}$ о сво$^{й}$ пожито$^{к}$ ни$^{ж}$ о посполиты$^{й}$ (Хр. п., 1б); 4) *каля:* хмелю у нас было о два возы (АВК, XXXIX, 465, 1579); 5) *на:* о Покрове на дереве листъ не опалъ (Барк., 152б).

**О$^{2}$** *о (ужываецца для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання):* о горе тобе бе$^{д}$ному (Алекс., 34).

**Оба (абадва, обадва, ободва, обудва, обыдва); обе (обедве, обедьве)** *абодва; абедзьве:* оба тексты такъ ся згодити не могутъ (Выкл., 9). – **Обое.**

**Обаватель** *гл.* **обавникъ, обыватель**

**Обавлятися (обавятися, обовлятися, обовятися)** *асцерагацца:* отъ татаръ вторгненья обовлятися потреба (АЗР, III, 209, 1577). – **Обавленьеся, обавлячийся.**

**Обавникъ** і **обаватель** *чарадзей, заклінальнік:* кня$^{з}$... не въпрошае$^{т}$ всяка$^{г}$ обавника вълхва (Зб. 262, 114б).

**Обагрянивати** *гл.* **багровый**

**Обада** *гл.* **вада**

**Обадва** *гл.* **оба**

**Обадити, обажити** *гл.* **вада**

**Обазритися** *гл.* **зрети$^{1}$**

**Обакона** *гл.* **обоконка**

**Обалити** *гл.* **обвалити**

**Обанадесять** *дванаццаць:* сядете и вы на двунадесети престолехъ судяще обемонадесетма колено$^{м}$ ізраилевы$^{м}$ (Скар. ДЗ, 4б).

**Обаполъ (абаполъ, обополъ)** і **зобаполъ (зобополъ, зобопулъ), наобаполъ, пообаполъ** *абапал:* обаполъ тыхъ уходовъ... кгрунтъ господарскій (РПП, 71, 1517). – **Обапольне (зобополне, зубополне, обапольно), обапольный (абапольный, зобапольный, зобопольный, обопольный).**

**Обаранокъ** *гл.* **абаранокъ**

**Обарунокъ** *гл.* **варовати**

**Обачити (обачыти)** 1) *убачыць:* обачили идучихъ двухъ (АВК, XVIII, 254, 1621); 2) *зразумець:* каждыи могъ познати и обачити съ которою ласкою ся обыходимъ (АСД, I, 13, 1522); 3) *разгледзець:* маютъ въ сесь статутъ добре обачыти и розъважыти (КПД, 184, 1551). – **Необаченье, необачне, необачность, обачати (обочати), обачатися, обачаючий, обаче** *але, аднак,* **обаченье, обаченьеся, обачиванье, обачивати (обачовати, обачывати), обачитися (обачытися), обачность, обачный, обачоный (обаченый).**

**Оббиранье** *гл.* **обобрати**

**Оббороновати** *гл.* **борона**

**Обвадити** *гл.* **вада**

**Обвалати** *гл.* **волати**

**Обвалити (обалити)** 1) *абваліць:* што$^{м}$ збудовала, тое$^{м}$ все обвалила (Зб. 81, 73); 2) *паваліць:* бура тое дерево обалила (АВК, XVIII, 99, 1592); 3) *перан. зваліць:* самъ што зброивши на другого бы обалилъ (АВК, II, 278, 1590). – **Обалины** *руіны,* **обваленый (обаленый), обваленье (обаленье), обваливати, обвалитися (обалитися), обваляный (обаляный), оваляти (обаляти), овалятися (обалятися), пообалятися, пообваленый.**

**Обваранокъ** *гл.* **абаранокъ**

**Обваровати** *гл.* **варовати**

**Обведенье** *гл.* **обвести**

**Обвезати** *гл.* **обвязати$^{1}$, обовязати**

**Обвезти** *гл.* **везти**

**Обвернутися** *гл.* **обернути**

**Обвеселитися** *гл.* **веселый**

**Обвесити** *гл.* **обесити**

**Обвести** 1) *акружыць:* волокъ шестьдесятъ вымерилъ… и копцами обвелъ (АВК, VI, 110, 1599); 2) *засведчыць:* то$^{т}$ кто за$^{й}$меть мае$^{т}$ обвести тую испась лю$^{д}$ми добрыми (Ст. 1566 I, 94). – **Обведеный, обведенье, обводити, обвоженый, обвоженье, обвоживанье.**

**Обвестити (обестити)** *апавясціць:* комисаре… самого дедича ани суседъ околичныхъ не обвестили (АВК, VI, 216, 1601). – **Обвеститися (обеститися), обвестка (обестка)** *пошліна з купцоў, якія прыбылі на месца гандлю,* **обвещанье, обвещати (овещати), обвещатися, обвещенье, обвещивати, обвещоный (обвещеный), обестный.**

**Обвешенье** *гл.* **обесити**

**Обвещати, обвещенье** *гл.* **обвестити**

**Обвивати** *гл.* **обвити**

**Обвинити** і **обвиновати, обвиноватити** *абвінаваціць:* тыхъ татаровъ о бой и раны свои обвинилъ (АВК, XXI, 112, 1556). – **Обвиненый, обвиненье (-ние), обвинитися, обвиннейший, обвинованый, обвиняти.**

**Обвити** і **обвинути** 1) *абвінуць:* коли сулицу взяли... обвили ее ручниками (Трыст., 125); 2) *абматаць:* обви$^{л}$ собе хво$^{ст}$ ко$^{н}$ски$^{й}$ около руки (Стрыйк., 547б). – **Обвивати, обвиненый, обвинутый, обвитися, обвитый.**

**Обвлачити** *гл.* **оболочи**

**Обводити** *гл.* **обвести**

**Обводъ (ободъ)** 1) *межаванне зямельных участкаў:* при томъ обводе и оказанью знаковъ кгрунтовъ... были люди добрые (АЗР, III, 266, 1581); 2) *граніца вакол чаго-н.:* то весь ободъ земли Касынское (АВК, XIV, 372, 1599); 3) *вобад:* кола… оу возе бывають... и спици, и ободы (Скар. ТЦ, 140). – **Ободница** *межавая абводная кніга.*

**Обвоженье** *гл.* **обвести**

**Обволати (обвалати, оволати)** 1) *абвясціць:* нашъ листъ везде где того потреба будеть объволати (Гр. 1589); 2) *афіцыйна прызнаць:* его еп$^{с}$кпи короновали и мона$^{р}$хою гали$^{ц}$ки$^{м}$ обволали (Стрыйк., 487б). – **Обволаный (обваланый), обволанье (обоволанье), обволываный, обволывати.**

**Обволочи** *гл.* **оболочи**

**Обволхвовавший** *гл.* **волхвъ**

